ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ТЭАРЭТЫЧНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ
ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XIII

№ 1
Студзень 1939 г.

ЗМЕСТ








Адрас рэдакцыі:
Менск, вул. Карла Маркса,
Памяшканне Партнурсаў пры ЦК КП(б)Б,
пакоі 13, 14, 15.
Тэлефон рэдакцыі № 24-887.



# ДА ВЕДАМА ЎСІХ АРГАНІЗАЦЫЙ ВКП(б)

Рашэннем пленума ЦК ВКП(б) адкрыццё чарговага XVIII з'езда ВКП(б) назначана на 10 сакавіка 1939 года.

## ПАРАДАК ДНЯ XVIII З'ЕЗДА:

1. Справаздачныя даклады: ЦК ВКП(б)—дакладчык т. *СТАЛІН*, Цэнтральнай рэвізійнай камісіі—дакладчык т. *ВЛАДЗІМІРСКІ*, дэлегацыі ВКП(б) у ВККІ—дакладчык т. *МАНУІЛЬСКІ*.

2. Трэці пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР—дакладчык т. *МОЛАТАЎ*.

3. Змены ў статуце ВКП(б)—дакладчык т. *ЖДАНАЎ*.

4. Выбары камісіі па змяненню праграмы ВКП(б).

5. Выбары цэнтральных органаў партыі.

## НОРМА ПРАДСТАЎНІЦТВА І ПАРАДАК ВЫБАРАЎ:

1) 1 дэлегат з рашаючым голасам на 1.000 членаў партыі.

2) 1 дэлегат з дарадчым голасам на 2.000 кандыдатаў у члены партыі.

3) Выбары праводзяцца закрытым (тайным) галасаваннем на абласных, краявых партыйных канферэнцыях і з'ездах нацкомпартый. Ва ўкраінскай, беларускай, казахстанскай і узбекістанскай партарганізацыях выбары дэлегатаў на з'езд праводзяцца на абласных партыйных канферэнцыях.

4) Комуністы, якія састаяць у партыйных арганізацыях Чырвонай Арміі, Ваенна-Марскога флота і часцей НКВД, праводзяць выбары дэлегатаў на XVIII з'езд разам з астатнімі партыйнымі арганізацыямі на абласных, краявых партканферэнцыях або з'ездах нацкомпартый.

*Сакратар ЦК ВКП(б) І. СТАЛІН.*

## ПРЭЗІДЫУМУ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР, СОВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР, ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (бальшэвікоў) БЕЛАРУСІ

Совет Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў) вітаюць рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыю і ўсіх працоўных Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі з дваццацігоддзем устанаўлення Совецкай улады ў Беларусі і вызвалення беларускага народа ад нацыянальнага гнёту.

З прыгнечанай, адсталай правінцыі царскай Расіі, знаходзіўшайся пад гнётам польскіх, рускіх і беларускіх памешчыкаў і капіталістаў, а ў годы грамадзянскай вайны адчуўшай цяжар інтэрвенцыі германскіх і польскіх полчышч,—Совецкая Беларусь пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў ка дню свайго дваццацігадовага юбілею вырасла і развілася ва ўзорную Совецкую Рэспубліку, у перадавы атрад краіны соцыялізма на Захадзе.

За прайшоўшыя 20 год працоўныя Совецкай Беларусі дабіліся вялікіх поспехаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Створаны новыя фабрыкі і заводы, сельская гаспадарка стала буйнай калгаснай механізаванай, расце нацыянальная беларуская культура, усё вышэй узнімаецца культурны ўзровень рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных, расце іх добрабыт.

Гэтыя поспехі дасягнуты працоўнымі Совецкай Беларусі ва ўпорнай барацьбе з буржуазнымі нацыяналістамі і трацкісцка-бухарынскімі шпіёнамі і дыверсантамі, якія прабавалі вярнуць свабодны беларускі народ пад ярмо капіталістаў і нацыянальнага гнёту. Працоўныя Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі разграмілі гэтыя варожыя гнёзды.

Совет Народных Камісараў СССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) выражаюць цвёрдую ўпэўненасць, што беларускі народ будзе і надалей, на аснове правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі, нястомна працаваць над далейшым умацаваннем Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

**СНК САЮЗА ССР.**
**ЦК ВКП(б).**

## ПРЫВІТАННЕ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР віншуе працоўных Совецкай Беларусі з днём слаўнай гадавіны—дваццацігоддзем Беларускай ССР.

У дружнай сям'і народаў СССР працоўныя Беларусі займаюць адно з ганаровых месц у будаўніцтве і ўмацаванні першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян.

На аснове паслядоўнага правядзення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, у барацьбе са здраднікамі радзімы—трацкісцка-бухарынскімі і буржуазна-нацыяналістычнымі агентамі фашызма, працоўныя Беларусі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі дабіліся велізарных поспехаў у справе гаспадарчага і культурнага будаўніцтва рэспублікі, умацавання абароннай магутнасці СССР.

Выражаем упэўненасць, што рабочыя, калгаснікі і інтэлігенцыя Беларусі, уступаючы ў дваццаць першую гадавіну існавання рэспублікі, прыкладуць усе свае сілы ў барацьбе за далейшае гаспадарчае і культурнае працвітанне Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі—магутнага фарпоста СССР на Захадзе—і разам з усімі народамі Совецкага Саюза пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі ўпэўнена пойдуць да канчатковай перамогі комунізма.

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага*
*Совета СССР* ***М. КАЛІНІН.***

*Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага*
*Совета СССР* ***А. ГОРКІН.***

31. XII-1938 г.

## ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КП(б) БЕЛАРУСІ, ВЯРХОЎНАМУ СОВЕТУ БССР

У дзень 20-й гадавіны Совецкай Беларусі шлю маё гарачае чырвонаармейскае прывітанне і віншаванні рабочым, калгаснікам і совецкай інтэлігенцыі.

Асобае прывітанне маім выбаршчыкам—працоўным Менскай выбарчай акругі.

Свой 20-гадовы юбілей працоўныя Беларусі святкуюць у абстаноўцы велізарнейшых дасягненняў у соцыялістычным і культурным будаўніцтве.

Заўсёды арганізаваны і працалюбівы беларускі народ вылучыў многія тысячы стаханаўцаў заводаў і соцыялістычных палёў, сапраўдных будаўнікоў соцыялізма. Працоўныя Совецкай Беларусі слаўнымі справамі даказалі сваю вернасць ідэалам вялікай партыі **Леніна—Сталіна.**

Усяму свету вядома, што Совецкая Беларусь разам з усім Совецкім Саюзам змагаецца за справу міру, але як і ўвесь совецкі народ працоўныя Совецкай Беларусі сумесна са сваёй Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміяй, заўсёды гатовы біцца за соцыялізм, за сваю незалежнасць і разграміць усіх і ўсялякіх сваіх злейшых і хваслівейшых ворагаў.

Няхай жывуць працоўныя Совецкай Беларусі!

Няхай жыве совецкі народ!

*К. ВАРАШЫЛАЎ.*

31. XII-1938 г.

# Трыумф ленінізма

Пятнаццаць год назад наша краіна і працоўныя ўсяго свету панеслі самую цяжкую з часу заваёвы ўлады рабочымі і сялянамі Расіі ўтрату: беззваротна ўшоў Владзімір Ільіч Ленін—вялікі геній і правадыр працоўнага чалавецтва, тварэц і арганізатар новага жыцця, свабоднага ад рабства, галечы, цемры і эксплаатацыі.

Пятнаццаць год назад перастала біцца сэрца Владзіміра Ільіча. Але сцяг ленінізма застаўся ў цвёрдых, надзейных руках таварыша Сталіна і ленінскага ЦК. Партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна пранесла гэты сцяг праз усе цяжкасці і небяспекі і дабілася сусветна-гістарычных перамог на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Вялікая клятва, даная таварышом Сталіным над гробам Леніна ад імя ўсёй большэвіцкай партыі, выканана з гонарам.

Гэтыя 15 год не маюць сабе роўных у гісторыі. Ворагі нашай партыі, ворагі ленінізма, якія імкнуцца да рэстаўрацыі капіталізма, не раз разгортвалі свае атакі супроць таварыша Сталіна, супроць соцыялістычнай радзімы. Але партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна адбіла ўсе атакі ворагаў, разграміла іх асіныя гнёзды. Яна цвёрда і няўхільна праводзіла палітыку, разлічаную на перамогу соцыялізма ў нашай краіне, яна цвёрда і няўхільна ішла па вялікаму шляху, начэртанаму Леніным. І партыя перамагла. Соцыялізм у асноўным пабудован у нашай краіне. Шалёная яўная і скрытая барацьба ўсіх сіл старога свету бушавала за гэтыя годы навокал ленінскага маяка, а маяк разгараўся ўсё мацней і мацней. Партыя няўхільна выкрывала ворагаў ленінізма, у якія-б «архірэволюцыйныя» адзенні яны ні прыбіраліся. Партыя бязлітасна ўскрывала іх двурушнасць і здраду.

Аблічча вялікага Леніна ўсё гэтак-жа ярка гарыць у розумах і сэрцах мільёнаў яго паслядоўцаў ва ўсіх капіталістычных краінах і сярод прыгнечаных народаў калоній. Ідэі Леніна з усё большаю сілай працягваюць заваёўваць палітычную свядомасць працоўнага чалавецтва.

Краеўгольным камнем палітыкі партыі з'яўлялася і з'яўляецца ленінская тэорыя магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, тэорыя, якую адстаяў, развіў, узбагаціў і канкрэтызаваў таварыш Сталін. Гэта тэорыя ідэйна ўзброіла партыю і рабочы клас, натхніла на вялікую будаўнічую работу, на перамогу цяжкасцей. Партыя ведала, што мы маем усё неабходнае і дастатковае для пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства, што будаўніцтва соцыялізма ў СССР—неад'емная частка сусветнай пролетарскай рэволюцыі. У выніку гэтай мудрай палітыкі ленінскага ЦК, узначальваемага таварышом Сталіным, палітыкі ўпэўненай, дальнавіднай, палітыкі вялікіх

дзярзанняў, наша краіна, выконваючы заветы Леніна, дабілася рашаючых перамог соцыялізма.

Да непазнавальнасці змяніўся твар нашай краіны, змянілася яе эканоміка, змяніліся суадносіны класавых сіл. Ліквідаваны ўсе эксплаатататарскія класы. Але і рабочы клас і сялянства нашай краіны прадстаўляюць сабой новыя класы, падобных якім не ведала яшчэ гісторыя. Совецкая інтэлігенцыя з'яўляецца таксама зусім новай, працоўнай інтэлігенцыяй. Рабочы клас і сялянства—гэта не былыя класы, а класы новыя, носьбіты новых вытворчых адносін. Характар, прырода і сутнасць гэтых класаў цесна звязаны з характарам, прыродай і сутнасцю новай эканомікі, сутнасцю соцыялістычных адносін. Развілося новае грамадства, нарадзіліся новыя грамадскія адносіны, і гэта новае грамадства паказвае ўсякаму і кожнаму, паказвае наглядна, відавочна, што соцыялізм тоіць у сабе гіганцкія сілы, што чалавецтва перайшло цяпер да новай стадыі развіцця, якая нясе надзвычайна бліскучыя магчымасці.

У нашай краіне закончылася прадгісторыя чалавечага грамадства, аб якой пісаў Маркс. Пачалася сапраўдная гісторыя чалавецтва, вартая чалавека.

У 1918 годзе адзін з вестуноў рускай буржуазіі, «знаток» даваеннай рускай прамысловасці прафесар Грыневіцкі пісаў: «Велізарны прыток замежных капіталаў з'яўляецца неабходнаю ўмовай эканамічнага адраджэння Расіі і аднаўлення яе прамысловасці, бо па вельмі скромных разліках агульная патрэбнасць улівання капіталаў у здабычу сыравіны, у прамысловасць і транспарт не можа быць ацэнена ніжэй 15—20 мільярдаў рублёў золатам у перыяд 10—12 год. Пераважная доля патрэбных капіталаў павінна быць прыцягнута з-за граніцы». Адсюль буржуазны прафесар рабіў вывад аб неабходнасці звергнуць совецкую ўладу і стварыць у Расіі такі палітычны рэжым, які-б «забяспечыў сабе давер'е замежнага капітала», а краіна была-б такім чынам увергнута ў кабалу замежных капіталаў, яшчэ больш глыбокую, чым да рэволюцыі. Гэтага дамагаўся ўвесь лагер сусветнай буржуазіі.

15 год назад буржуазны друк у сваіх артыкулах, прысвечаных смерці Леніна, прарочыў немінучасць пагібелі нашай рэволюцыі. Не скрываючы сваёй зларадласці, ён пісаў «аб краху комуністычнага эксперымента». Не гледзячы на ўсе ўрокі, якія грамадзянская вайна дала сусветнай буржуазіі, яна працягвала і працягвае дамагацца рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне. Гэту варожую справу адстойвалі ўсе ворагі большэвіцкай партыі, усе апазіцыі. Агідныя здраднікі нашай радзімы—шпіёны германа-японскага фашызма Троцкі, Бухарын, Зіноўеў, Рыкаў і ўсе іх прыспешнікі шалёна змагаліся за ажыццяўленне планаў фашысцкай буржуазіі, гандлюючы нашай радзімай оптам і ў розніцу. Але ворагі жорстка пралічыліся. Яны не ўлічылі таго, што Ленін навучыў большэвіцкую партыю не баяцца труднасцей, даў ёй пераможную зброю—ленінізм, навучыў партыю, рабочы клас і ўсіх працоўных свяшчэннай нянавісці да буржуазіі, да яе подлых слуг і агентаў, выкаваў жалезную волю да барацьбы за звяржэнне капіталістычнага рабства ва ўсім свеце, за трыумф комунізма.

Буржуазія, якая 15 год назад прадсказвала эканамічны крах Совецкага Саюза, цяпер са скрыгатам зубоўным павінна прызнаць, што Совецкі Саюз стаў перадавой магутнай дзяржавай, кіруючым фактарам у свеце.

Аглядаючыся на пройдзены з дня смерці Леніна 15-гадовы шлях, мы бачым небывалы яшчэ ў гісторыі чалавецтва па размаху і па тэмпах працэс індустрыялізацыі Совецкага Саюза і тэхнічнай рэканструкцыі вытворчасці. Ленін яшчэ да Кастрычніцкай рэволюцыі чотка сфармуляваў гэту задачу. Пасля рэволюцыі Ленін з усёй сілай падкрэсліў значэнне індустрыялізацыі і перабудовы народнай гаспадаркі на падставе самай перадавой сучаснай тэхнікі.

Першым яркім увасабленнем ленінскага плана індустрыялізацыі быў план электрыфікацыі—план ГОЭЛРО. Ленін назваў план электрыфікацыі «другой праграмай партыі большэвікоў». Наперакор цяжкасцям мы выканалі гэты план поўнасцю і ў найкарацейшы з намечаных тэрмінаў. План першай пяцігодкі быў непасрэдным працягам і развіццём плана ГОЭЛРО.

Ворагі нашай партыі і совецкага народа—трацкісты, бухарынцы, буржуазныя нацыяналісты і іншыя шкоднікі—павялі шалёную барацьбу супроць соцыялістычнага будаўніцтва, дамагаючыся ператварэння нашай краіны ў аграрны прыдатак сусветнага капіталізма. Партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна ў разгорнутай барацьбе разбіла ворагаў і мабілізавала масы на ажыццяўленне велізарнейшага плана соцыялістычнага пераўтварэння краіны і перамаганне цяжкасцей. Таварыш Сталін пасля смерці Владзіміра Ільіча Леніна цвёрда і ўпэўнена павёў і вядзе зараз партыю і ўвесь совецкі народ па ленінскаму шляху.

І вось вынікі.

За 1920—1937 гг. прадукцыя прамысловасці ўзрасла ў капіталістычным свеце толькі ў паўтара раза, а ў СССР—у 58 раз. Па аб'ёму індустрыяльнай вытворчасці СССР вышаў на першае месца ў Еўропе і другое ў свеце (пасля ЗША), тады як у 1928 годзе ён займаў пятае месца ў свеце.

Прадукцыя прамысловасці СССР у 1938 годзе вырасла на 12 проц. супроць 1937 года, у той-жа час прамысловая прадукцыя капіталістычных краін знізілася на 13,5 проц. За апошнія 9 год аб'ём прадукцыі буйнай прамысловасці ў нашай краіне павялічыўся амаль у 5 раз, за гэтыя-ж 9 год вытворчасць у капіталістычных краінах знізілася на 9 проц.

Але важны не толькі велізарны рост прамысловасці СССР, але і карэнныя змены яе структуры. Асновай сапраўднай індустрыялізацыі з'яўляецца рост вытворчасці сродкаў вытворчасці, у прыватнасці машынабудаўніцтва. Гэта—адзін з важнейшых заветаў Леніна. Трацкісты, бухарынцы адстойвалі план дауэсізацыі нашай краіны, план яе закабалення замежнаму капіталу. Гэта рэстаўратарская банда прабавала сарваць будаўніцтва цяжкай індустрыі—гэту аснову асноў індустрыялізацыі краіны, соцыялістычнага пераўтварэння сельскай гаспадаркі і павышэння абароназдольнасці.

Партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна ў суровай барацьбе з варожым супраціўленнем пабудавала магутную цяжкую індустрыю, прадукцыя якой у 1936 годзе складала 60,8 проц. ва ўсёй прадукцыі буйнай прамысловасці СССР.

Царская Расія ў галіне машынабудаўніцтва поўнасцю залежала ад Англіі, Германіі, ЗША. Германскі капітал праводзіў у Расіі палітыку арганізацыі філіялаў-заводаў, якія не мелі закончанага цыкла вытворчасці і атрымлівалі рад дэталей з Германіі. Гэта адсталасць і залежнасць далі сябе адчуць асабліва моцна ў годы імперыялістычнай вайны.



Совецкі Саюз у рашаючай галіне—машынабудаўніцтве—дасягнуў поўнай тэхніка-эканамічнай незалежнасці, стаў буйнейшым (пасля ЗША) сусветным цэнтрам машынабудаўніцтва.

Барацьба за дасягненне тэхніка-эканамічнай незалежнасці нашай совецкай радзімы—адна з складаных частак велізарнейшага агульнага стратэгічнага плана партыі, плана пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. Іменна таму ворагі соцыялізма, ворагі нашай радзімы заўсёды вялі шалёную барацьбу супроць лініі партыі, накіраванай на ліквідацыю тэхніка-эканамічнай залежнасці краіны, вялі атакі супроць нашай манаполіі знешняга гандлю, імкнучыся ператварыць нашу краіну ў калонію фашысцкіх дзяржаў. Разгром і ліквідацыя асноўных шкодніцкіх гнёзд яшчэ больш павысілі незалежнасць і абаронную магутнасць Совецкага Саюза, узнялі прадукцыйнасць усёй нашай прамысловасці.

У 1937 г. прамысловая прадукцыя СССР склала 430 проц. ад 1929 г., а капіталістычны свет, які б'ецца ў цісках крызісу, даў у 1938 г. 88 проц. ад 1929 года. У гэтых лічбах—прысуд гісторыі: смяротны прысуд загніваючай капіталістычнай сістэме, поўнае гістарычнае апраўданне магутнага росту соцыялістычнай сістэмы, якая расцвітае пад вялікім неперахможным сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Соцыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі СССР суправаджалася карэнным змяненнем яе тэхнічнай базы. Мы сталі краінай самага буйнага земляробства ў свеце. Трацкісты ўскладалі не мала надзей на разрыў саюза рабочага класа з сялянствам. Трацкісты, бухарынцы разам з кулацтвам, павялі барацьбу супроць калгасаў і соўгасаў. Але ўсе прошукі ворагаў не маглі спыніць пераможнага шэствія соцыялізма. На базе дасягненняў індустрыялізацыі ў найкарацейшыя тэрміны была ажыццёўлена суцэльная калектывізацыя, на падставе якой было ліквідавана кулацтва, як клас—гэты апошні, самы шматлікі атрад эксплаататараў. Калгасны лад перамог канчаткова і беспаваротна.

Характарызуючы гэты паварот, «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» указвае, што «гэта быў найглыбейшы рэволюцыйны пераварот, скачок са старога якаснага стану грамадства ў новы якасны стан, роўназначны па сваіх выніках рэволюцыйнаму перавароту ў кастрычніку 1917 года».

Яркім сведчаннем поспехаў калгаснага ладу служыць велізарны рост ураджайнасці калгасных палёў. У 1937 годзе было сабрана 7 мільярдаў пудоў зярна. У 1919 г. Ленін марыў аб 100 тыс. трактароў для совецкай сельскай гаспадаркі. У 1938 годзе на совецкіх палях працавала 470 тысяч трактароў, 120 тыс. камбайнаў, дзесяткі і сотні тысяч іншых складаных сельскагаспадарчых машын. Даволі адзначыць той факт, што сярэдняя гадавая выпрацоўка на адзін трактар у СССР у 5 раз больш, чым у ЗША. Мы дасягнулі і больш высокай, чым у ЗША, нормы выкарыстання камбайна. Вельмі выраслі пасевы і ўраджайнасць тэхнічных культур. Наша краіна вызвалілася ад неабходнасці ўвозіць бавоўну і іншыя тэхнічныя культуры з-за граніцы.

Вопыт мільёнаў сялян-калгаснікаў знайшоў сваё геніяльнае абагульненне ў сталінскім Статуце сельскагаспадарчай арцелі. У сяле выкрышталізаваліся новыя формы вытворчасці і быту. Нашы старшыні калгасаў, брыгадзіры, звеннявыя, трактарысты, камбайнеры, механікі, даяркі, жывёлаводы і іншыя работнікі—гэта новыя людзі соцыя-

лістычнай калгаснай вёскі, якія хутка авалодваюць вышынямі новай вытворчай культуры. Сельскагаспадарчая праца ператвараецца ў нашых умовах у рознавіднасць працы індустрыяльнай.

Ленінскі завет аб пераводзе аднаасобных гаспадарак на рэйкі буйнай соцыялістычнай вытворчасці ператворан у жыццё. Індывідуальная гаспадарка, асуджаючы селяніна на спрадвечную адсталасць, падвяргае яго жудаснай эксплаатацыі з боку капіталістаў і памешчыкаў. Соцыялістычная рэволюцыя, упершыню ў гісторыі чалавецтва, адкрыла перад шырокімі масамі сялянства шлях да пераходу ў вышэйшы тып арганізацыі грамадскай працы. Совецкая вёска жыве шчасліва, заможна і культурна.

Перамога соцыялізма абумовіла гіганцкі ўздым матэрыяльнага добрабыту працоўных. Народны даход расце ў СССР тэмпамі, нябачанымі ў гісторыі.

> «Знішчэнне эксплаатацыі, знішчэнне беспрацоўя у горадзе, знішчэнне жабрацтва ў вёсцы,—гаворыць таварыш Сталін,— гэта такія гістарычныя дасягненні ў матэрыяльным становішчы працоўных, аб якіх не могуць нават марыць рабочыя і сяляне самых што ні на ёсць «дэмакратычных» буржуазных краін» *).

Гіганцкае соцыялістычнае пераўтварэнне краіны было ажыццёўлена сваімі ўнутранымі сіламі і сродкамі, без дапамогі звонку, насуперак процідзеянню капіталістычнага акружэння і ворагаў унутраных—трацкісцка-бухарынскіх і іншых бандытаў.

Безумоўна, шкоднікі ўсё-ж паспелі нанесці не малыя страты нашай народнай гаспадарцы. Пакрыць гэтыя страты ў найкарацейшы тэрмін, выкарчаваць да канца вынікі шкодніцтва, закрыць усе лазейкі для шкоднікаў—адна з нашых важнейшых задач.

1938 год даў нам новыя поспехі. Прадукцыя цяжкай прамысловасці ўзрасла на 27,8 проц. У капітальнае будаўніцтва ўкладзена 38,7 мільярда рублёў. Будуюцца новыя шахты, новыя заводы, значна пашыраецца матэрыяльная база каляровай металургіі. Тэкстыльная прамысловасць атрымлівае новае абсталяванне. Уступаюць у строй новыя магутныя заводы харчовай і лёгкай прамысловасці. Асаблівасцю развіцця народнай гаспадаркі СССР у мінулым годзе з'явілася няўхільнае і ўпэўненае нарастанне з месяца ў месяц тэмпаў росту прамысловай прадукцыі.

У 1938 годзе разгарнуліся работы на буйнейшых будоўлях, якія рашаюць велізарнейшыя праблемы трэцяй пяцігодкі. Гэта—будаўніцтва гідравузла на Самарскай Луцэ ракі Волгі. Тут будзе вырашана пастаўленая партыяй і ўрадам грандыёзная задача—стварыць новую жытніцу ў Паволжжы. Вырашэнне ўсёй праблемы Вялікай Волгі дасць новыя багацейшыя раёны нафты, сланцоў, фасфарытаў, калія, прыродных газаў і інш. Значны размах работ на гэтым будаўніцтве сведчыць аб грандыёзнасці плана, значэнне якога зараз цяжка ацаніць у поўнай меры.

У 1938 годзе споўнілася 25 год з часу напісання В. І. Леніным артыкула аб падземнай газіфікацыі вугалю. Совецкая тэхніка і навука дасягнулі цяпер першых сур'ёзных поспехаў у гэтай зусім новай, нікім і нідзе раней не зведанай галіне. Вялікі правадыр, пішучы гэты свой артыкул у 1913 годзе, ведаў, што пролетарыят разам з палітычнай уладай возьме ў свае рукі і справу тэхнічнага прагрэса і наву-

*) „Пытанні ленінізма", стар. 571.

ковыя ідэі века. І ён падрабязна развівае пытанне аб уплыве падземнай газіфікацыі вугалю на энергетычную аснову народнай гаспадаркі і развіццё тэхнікі. Ленін ведаў, што падземная газіфікацыя ва ўмовах соцыялізма створыць вялікі пераварот у вытворчасці і быту. 25-годдзе артыкула Леніна аб падземнай газіфікацыі мы сустракаем значнымі поспехамі ў практычным выращэнні гэтай вялікай праблемы. У снежні 1938 года была пушчана Горлаўская станцыя падземнай газіфікацыі. А 4 лютага 1938 г., упершыню ў гісторыі сусветнай тэхнікі, атрыманы ад падземнай газіфікацыі вугалю газ быў дан вялікім катлам коксавага завода.

Ленін асабіста працаваў над знішчэннем няроўнасці нацый, над стварэннем дружбы і брацтва народаў. Нацыянальныя совецкія рэспублікі—заваяванне дыктатуры рабочага класа. Пролетарская дыктатура беспаваротна і да канца ліквідавала нацыянальную няроўнасць, адкрыла шырокі прастор дзяржаўнаму і культурнаму будаўніцтву раней прыгнечаных народаў.

Гэты магутны ўздым народнай гаспадаркі, росквіт культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу, найбольш ярка адлюстраваны ў Сталінскай Канстытуцыі і з'яўляецца бліскучым трыумфам ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, якую няўхільна ажыццяўляе наша партыя. Няўхільнае правядзенне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, бязлітасная барацьба з буржуазным нацыяналізмам (вялікадзяржаўным шавінізмам і мясцовым нацыяналізмам) ва ўсіх яго праяўленнях, з трацкістамі, бухарынцамі, вялікая фінансавая і матэрыяльна-тэхнічная дапамога пролетарскай дзяржавы—усё гэта забяспечыла стварэнне ў нацрэспубліках магутнай прамысловасці на навейшай тэхнічнай базе, стварэнне буйных прамысловых цэнтраў.

Характэрна, што тэмпы развіцця прамысловасці ў нацыянальных рэспубліках значна перавысілі тэмпы гаспадарчага жыцця старых прамысловых абласцей і раёнаў. Галоўнай асаблівасцю эканамічнага развіцця нацыянальных рэспублік з'яўляецца іх цяснейшая сувязь з усёй эканомікай Совецкага Саюза, якая адпавядае агульным задачам будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне.

Беларусь, як дзяржава, як Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, узнікла толькі ў выніку перамогі Кастрычніцкай рэволюцыі. Толькі пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, пад непасрэдным кіраўніцтвам Леніна і Сталіна, рабочыя і сяляне Беларусі ўстанавілі сваю совецкую дзяржаўнасць.

Пераходзячы да пытанняў індустрыяльнага развіцця БССР, прывядзем лічбовыя даныя яе гаспадарчага росту.

Асноўныя вытворчыя фонды прамысловасці БССР выраслі з 82,4 млн. руб. у 1928 г. да 640 млн. руб. у 1936 г. Колькасць рабочых буйнай прамысловасці ўзрасла з 39 тыс. у 1928 годзе да 200 тыс. у 1937 годзе. Пасеўная плошча ў пачатку 1937 года складала каля 4 млн. га, трактарны парк дасягаў магутнасці ў 128,3 тыс. конскіх сіл. За 1937 і 1938 годы трактарны парк папоўніўся новымі магутнасцямі і новымі складанымі сельскагаспадарчымі машынамі. Мы маем зараз звыш 10 тыс. трактароў, звыш тысячы камбайнаў, звыш 4 тыс. аўтамашын, дзесяткі тысяч складаных і паўскладаных малатарань, жняярак і іншых сельскагаспадарчых машын.

Даўнейшая Беларусь, прыгнечаная калонія царскай Расіі, зусім не мела развітай прамысловасці. Гэта была краіна жабрацкіх вёсак.

Памешчык і кулак жорстка распраўляліся з працоўнымі масамі сялянства, якое гібела ў страшэннай галечы і голадзе. Сучасная Совецкая Беларусь з'яўляецца адной з перадавых рэспублік Саюза, магутным фарпостам СССР на яго заходніх рубяжах.

З года ў год бурным тэмпам узрастае прадукцыя лёгкай, тарфяной, лясной, дрэваапрацоўчай, харчовай прамысловасці. У 1926—1927 годзе ўдзельная вага прамысловай прадукцыі БССР у агульным аб'ёме прадукцыі народнай гаспадаркі складала толькі 24,4 проц., а ў 1937 г.—73 проц. На базе мясцовага ільну расце новая для БССР галіна прамысловасці—тэкстыльная з цэнтрамі ў Оршы і Віцебску, дзе выраслі буйныя социялістычныя прадпрыемствы, узброеныя навейшаю тэхнікай.

Працоўныя БССР па праву ганарацца сваёй станкабудаўнічай прамысловасцю. Беларускае станкабудаўніцтва дае 10 проц. агульнай станкабудаўнічай прадукцыі СССР. За апошнія годы нашы станкабудаўнічыя заводы асвоілі складаныя станкі сваёй уласнай канструкцыі.

Уся социялістычная прамысловасць БССР дае зараз прадукцыі на 1 мільярд 413 мільёнаў рублёў.

Па пасевах лёну і бульбы БССР займае адно з віднейшых месц у СССР. Растуць пасевы пшаніцы, якую рэдка можна было ўбачыць на палях дарэволюцыйнай Беларусі. Выключна высокую ўраджайнасць даюць тэхнічныя культуры. Вырошчваецца такая рэдкая каучуканосная культура, як коксагыз. Ужыванне мінеральных угнаенняў павялічылася ў тры разы, што разам з механізацыяй вытворчых працэсаў і меліярацыяй з'яўляецца буйнейшым дасягненнем калгаснага ладу. Калі-б не шкодніцтва зграі польскіх шпіёнаў, узровень ураджайнасці і жывёлагадоўлі быў-бы яшчэ вышэй.

Ворагі народа, польскія шпіёны шаранговічы, галадзеды, чарвяковы нанеслі не мала шкоды нашай прамысловасці і сельскай гаспадарцы. Аднак, не гледзячы на шкодніцкую работу гэтых гадаў і здраднікаў, БССР расце і квітнее. Яе буйнейшыя перамогі з кожным годам растуць і множацца. Яны з'яўляюцца жывым довадам магутнасці гранітнай асновы нашага ладу, жывым довадам трыумфа ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Пытанне аб рашаючай ролі прадукцыйнасці працы было пастаўлена Леніным у першыя-ж годы рэволюцыі. Яшчэ ў 1918 годзе Ленін гаварыў, што павышэнне прадукцыйнасці працы пасля экспрапрыяцыі экспрапрыятараў ставіцца на першы план, як карэнная задача социялістычнай рэволюцыі. У цэлым радзе выступленняў Ленін не раз падкрэсліваў, што асновай высокай прадукцыйнасці працы з'яўляецца новая, перадавая буйная індустрыя, социялістычныя адносіны да працы, разгортванне социялістычнага спаборніцтва, культурны ўздым і рост матэрыяльнага ўзроўню працоўных.

Першым яркім праяўленнем социялістычных адносін да працы былі комуністычныя суботнікі. Яны маглі з'явіцца толькі пры ўмове, калі рабочы клас усвядоміў, што ён працуе на сябе, як гаспадар сродкаў вытворчасці. Комуністычныя суботнікі, якія Ленін назваў вялікім пачынам, былі пачаткам стварэння высокай прадукцыйнасці працы. Яшчэ тады пачала кавацца гэта магутная зброя перамогі новага ладу над старым. Ленінская ідэя социялістычнага спаборніцтва набыла шырокі размах у годы першай пяцігодкі. Шэсць умоў таварыша Сталіна з'явіліся працягам і развіццём вучэння Леніна аб пра-

дукцыйнасці працы. Яны падрыхтавалі стаханаўскі рух, які ўзняў соцыялістычнае спаборніцтва за высокую прадукцыйнасць працы на новую ступень. Стаханаўскі рух магутным патокам разліўся па ўсёй нашай неабсяжнай краіне, набыў усенародны характар.

Стаханаўцы,—гаворыць таварыш Сталін,—гэта «людзі новыя, рабочыя і работніцы, якія поўнасцю аўладалі тэхнікай сваёй справы, асядлалі яе і пагналі ўперад».

Стаханаўскі рух поўнасцю абвергнуў буржуазныя тэорыі аб границах прадукцыйнасці працы, аб спадаючай пладавітасці зямлі—усе буржуазныя тэорыі, прадыктаваныя ўмовамі сціскання прадукцыйных сіл пры капіталізме. Стаханаўцы не пакінулі і камня на камні ад гэтых буржуазных тэорый.

Стаханаўскі рух—яркае выражэнне неабмежаваных магчымасцей развіцця соцыялістычных прадукцыйных сіл. Ён узнімае культурна-тэхнічны ўзровень рабочага да ўзроўню работніка інжынерна-тэхнічнай працы, кладзе пачатак ліквідацыі процілегласцей паміж разумовай і фізічнай працай. У гэтым яго магутнае значэнне і грандыёзная роля. Так ствараецца матэрыяльна-тэхнічная база для пераходу ад соцыялізма к комунізму, адбываецца паступовае перарастанне адной фазы ў другую.

Ленін у сваім творы «Дзяржава і рэволюцыя» пісаў:

> «**Толькі** з соцыялізма пачнецца быстры, сапраўдны, сапраўды масавы, пры ўдзеле **большасці** насельніцтва, а затым усяго насельніцтва, адбываючыйся рух уперад ва ўсіх галінах грамадскага і асабістага жыцця» *).

Наша соцыялістычная дзяржава блізка падышла да вырашэння задачы падрыхтоўкі пераходу к комунізму. Асноўныя контуры гэтай задачы з кожным годам вырысоўваюцца ўсё ясней, становяцца рэальна адчуваемымі.

У вялікай Сталінскай Канстытуцыі запісаны і замацаваны перамогі соцыялізма ў СССР. У ёй, як у люстры, мы бачым яшчэ больш грандыёзныя перспектывы соцыялістычнага развіцця, поўнай перамогі і трыумфу комунізма ў нашай краіне.

За 15 год пасля смерці Уладзіміра Ільіча нябачана ўзрос аўтарытэт нашай партыі ў самых шырокіх народных масах. Міжнародная і ўнутраная палітыка ленінска-сталінскага ЦК знаходзіць магутнае падтрыманне ўсяго савецкага народа, усяляе ў яго ўпэўненасць у новых перамогах.

Гераічная, баявая гісторыя партыі Леніна—Сталіна з'яўляецца той пуцяводнай зоркай, якая асвятляе шлях у нашай далейшай барацьбе за новыя перамогі соцыялізма, за завяршэнне пабудовы комуністычнага грамадства. Наша краіна, у якой свабодныя масы працоўных горада і вёскі складаюць адзіны савецкі народ, назаўсёды вызвалены ад воўчых законаў эксплаатацыі, ідзе ў авангардзе ўсяго чалавецтва і сваім прыкладам паказвае той шлях, якім немінуча павінны ісці ўсе іншыя народы.

Народы СССР, на чале з вялікім рускім народам, з'яўляюцца пачынальнікамі самай высокай культуры, якая знаходзіць сваё завяршэнне ў ленінізме.

---

*) В. І. Ленін, т. XXI, стар. 439.

«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» з усёй глыбінёй запечатлеў слаўную гісторыю барацьбы і перамог нашай партыі, раскрыў нам тое новае, што ўнёс геній Леніна і Сталіна ў скарбніцу марксізма. Гэта выдатная навуковая праца, складзеная пры ўдзеле таварыша Сталіна,—яркая падзея ў нашым жыцці, каштоўнейшы ўклад у сусветную культуру комунізма.

Растуць і мацнеюць атрады комунізма ва ўсіх краінах, мацнее СССР—несакрушальны аплот сусветнай рэволюцыі.

Ленінізм перамагае, ленінізм пераможа ва ўсім свеце!

Н. Крушкол

# Ленін і Сталін у дні Брэста

Вялікая Кастрычніцкая Сацыялістычная рэвалюцыя пачалася ў той момант, калі змучаныя імперыялістычнай вайной масы

> «самой логікай рэчаў былі падведзены да пралетарскай рэвалюцыі, як адзінага выхаду з вайны. Гэта акалічнасць мела сур'ёзнейшае значэнне для Кастрычніцкай рэвалюцыі, бо яна дала ёй у рукі магутную зброю міру, палегчыла ёй магчымасць спалучэння савецкага перавароту са скончэннем ненавіснай вайны і стварыла ёй, з прычыны гэтага, масавае спачуванне як на Захадзе, сярод рабочых, так і на Усходзе, сярод прыгнечаных народаў» *).

Першым дэкрэтам II з'езда Саветаў, які адбыўся 7—8 лістапада 1917 года, быў дэкрэт аб міры. У гэтым акце Савецкі ўрад зварочваўся да ўсіх народаў і ўрадаў усіх ваюючых краін з прапановай пачаць мірныя перагаворы. Устанаўляючы асноўныя прынцыпы справядлівага і дэмакратычнага міру, II з'езд Саветаў разам з тым заявіў, што ён

> «ні ў якім разе не лічыць вышэйадзначаных умоў міру ультыматыўнымі, г. зн. згаджаецца разглядзець і ўсякія іншыя ўмовы міру, настойваючы толькі на магчыма больш хуткай прапанове іх якой-бы то ні было ваюючай краінай і на паўнейшай яснасці, на безумоўным выключэнні ўсякай двухсэнсоўнасці і ўсякай тайны пры прапанове ўмоў міру» **).

Дэкрэт аб міры быў напісан Леніным. Ленін выступаў з дакладам па пытанню аб міры на II з'ездзе Саветаў. І іменна Ленін, разам з таварышом Сталіным, з самых першых крокаў Савецкай улады, кіраваў барацьбой за мір, за мірную перадышку для маладой, яшчэ неўзмацнеўшай Савецкай рэспублікі, аж да самага заключэння Брэсцкага міру.

Барацьба гэта была надзвычай цяжкай. Прыходзілася мець справу з узброеным да зубоў германскім імперыялізмам, у той час як старая руская армія, змучаная і знясіленая трохгадовай вайною, у кашмарных умовах, пры дрэнным снабжэнні, з бяздарным, а часта і здрадніцкім камандным складам, аказалася зусім небоездольнай. Новая армія, сацыялістычная Чырвоная Армія, яшчэ не была створана і не магла быць створана ў адзін дзень.

*) І. В. Сталін, „Пытанні ленінізма", стар. 75.
**) В. І. Ленін, збор тв., т. XXII, стар. 14.

Дзяржавы Антанты адмовіліся прыняць удзел у мірных перагаворах. Маладой Совецкай рэспубліцы прышлося весці перагаворы з Германіяй адзін на адзін і заключаць з ёю сепаратны мір.

Для Леніна і Сталіна было зусім відавочна, што пры такіх умовах мір немінуча будзе грабежніцкім, анексіяністцкім мірам з боку Германіі. Ён мог-бы быць іншым толькі пры ўмове, калі-б пролетарская рэволюцыя ў Германіі безадкладна перамагла і змяла-б імперыялістычны германскі ўрад. Але рэволюцыі не робяцца па заказу, і хоць рэволюцыя на Захадзе, асабліва ў Германіі і Аўстрыі, наспявала, яна не магла адбыцца дакладна ў той тэрмін, які быў-бы асабліва зручным для Совецкай Расіі.

Совецкі ўрад, выконваючы волю шырокіх працоўных мас, рашыў прыступіць да перагавораў з Германіяй і Аўстрыяй.

Совецкая дэлегацыя, якая складалася з прадстаўнікоў партый большэвікоў і «левых» эсэраў, а таксама аднаго матроса, аднаго салдата, аднаго селяніна і аднаго рабочага, перайшла фронт, маючы поўнамоцтвы весці перагаворы аб перамір'і. Гэта было зроблена пасля таго, як Совецкі ўрад у другі раз звярнуўся да дзяржаў Антанты з прапановай удзельнічаць у мірных перагаворах. Адказу ён зноў не атрымаў. У гэты момант германскі канцлер Гертлінг 29 (16) лістапада публічна заявіў на пасяджэнні рэйхстага, што германскі ўрад гатоў прыняць за аснову рускія мірныя прапановы і германскае камандаванне ўпаўнаважана весці перагаворы. Толькі пасля гэтага совецкая мірная дэлегацыя была адпраўлена ў Брэст-Літоўск.

3 снежня (20 лістапада) 1917 года абедзве дэлегацыі, совецкая і германская, упершыню сустрэліся ў Брэст-Літоўску. Германскую дэлегацыю ўзначальваў генерал Гофман.

З прычыны выявіўшыхся карэнных рознагалоссяў спачатку было заключана пагадненне аб перамір'і на 7 дзён, пасля якіх перагаворы павінны былі аднавіцца. У прамежку Совецкі ўрад яшчэ раз звярнуўся з нотай да саюзных паслоў з прапановай прыняць удзел у перагаворах і зноў не атрымаў адказу. Перагаворы аднавіліся 15 (2) снежня. Было заключана перамір'е на 28 дзён з абавязацельствам для абодвух бакоў, у выпадку адмовы ад перамір'я, папярэдзіць за 7 дзён аб аднаўленні ваенных дзеянняў.

Перагаворы аб міры пачаліся 22 (9) снежня 1917 г. У гэтых перагаворах удзельнічалі ўжо прадстаўнікі ўсіх дзяржаў чацвярнога саюза (Германіі, Аўстра-Венгрыі, Турцыі і Балгарыі). На чале германскай дэлегацыі стаяў статс-сакратар па замежных справах (міністр замежных спраў) фон-Кюльман, але віднейшую ролю ў перагаворах адыгрываў усё той-жа генерал Гофман.

Калі совецкая дэлегацыя абвясціла свае ўмовы міру, у аснову якіх было пакладзена права нацый на самавызначэнне, аграджэнне праў нацыянальных меншасцей, адмаўленне ад кантрыбуцыі і каланіяльных захватаў і т. п., германская дэлегацыя на здзіўленне ўсім заявіла, што гэтыя асноўныя палажэнні ўпаўне прыемлемы і могуць быць пакладзены ў аснову перагавораў. Праўда, практычная ажыццявімасць гэтых прапаноў ставілася ў залежнасць ад далучэння да іх усіх ваюючых дзяржаў. У далейшым генерал Гофман растлумачыў рускім дэлегатам, што права нацый на самавызначэнне немцы разумеюць так, што калі якая-небудзь частка былой Рускай імперыі пажадае выдзеліцца са складу Совецкай Расіі і далучыцца да Германіі або весці самастойнае існаванне, то яны гэтаму пярэчыць

не будуць, але, зразумела, гэта ні ў якой меры не датычыць тэрыторый, якія ўваходзяць у склад Германіі або заваяваны ёю ў час гэтай вайны. Ён указаў і прыклады: «Польшча, Літва і Фінляндыя якраз з'яўляюцца такімі часткамі былой рускай дзяржавы, якія імкнуцца адзяліцца ад Расіі. Таму цэнтральныя дзяржавы не лічаць анексіяй вызначэнне далейшага лёсу гэтых трох дзяржаў шляхам непасрэдных зносін з іх прадстаўнікамі без удзелу рускай улады». Пасля гэтага перагаворы былі перарваны і аднавіліся толькі 9 студзеня 1918 г. (27 снежня 1917 г.). На гэты раз совецкую дэлегацыю ўзначальваў Троцкі. Іменна яго здрадніцкая роля ў час брэсцкіх перагавораў прывяла да пазнейшага заключэння міру на ўмовах непараўнальна больш цяжкіх, чым нават папярэднія нямецкія прапановы.

18 (5) студзеня ґенерал Гофман прад'явіў совецкай дэлегацыі тэрытарыяльныя патрабаванні Германіі. Немцы патрабавалі далучэння да Германіі Моанзундскіх астравоў, горада Рыгі, большай часткі Латвіі, большай часткі Беларусі, усёй Польшчы і Літвы. Гэта была, так сказаць, праграма-мінімум германскіх захватчыкаў. Свае патрабаванні яны прад'явілі яшчэ да таго, як яны здолелі дагаварыцца са здрадніцкай украінскай Радай.

Совецкая дэлегацыя фармальнага адказу на гэтыя патрабаванні не дала і прапанавала зрабіць перапынак для абмеркавання пытання Совецкім урадам. Перапынак супаў з III з'ездам Советаў, які заслухаў даклад совецкай дэлегацыі. З'езд фармальнага рашэння не прыняў, але даў указанне па магчымасці зацягваць перагаворы.

Зразумела, што на адкрытым пасяджэнні з'езда Советаў пытанне аб міры не магло быць пастаўлена ва ўсім аб'ёме і абмяркоўвацца ва ўсіх падрабязнасцях. Гэта абмеркаванне адбывалася не на самым з'ездзе, а на нарадзе большэвіцкай фракцыі з'езда з Цэнтральным камітэтам і партыйнымі работнікамі Петраграда і Масквы.

Для гэтай нарады Ленін напісаў свае вядомыя «Тэзісы па пытанню аб безадкладным заключэнні сепаратнага і анексіяністцкага міру». У гэтых тэзісах Ленін з вычарпальнай яснасцю паставіў перад партыйнымі работнікамі пытанне аб становішчы соцыялістычнай рэволюцыі ў Расіі. Ён указваў:

> «Становішча рускай рэволюцыі ў даны момант такое, што амаль усе рабочыя і велізарная большасць сялян, бясспрэчна, стаіць на баку Совецкай улады і пачатай ёю соцыялістычнай рэволюцыі. Пастолькі поспех соцыялістычнай рэволюцыі ў Расіі забяспечан» *).

Аднак, пачаўшаяся ў краіне грамадзянская вайна, выкліканая шалёным супраціўленнем маёмасных класаў, і велізарныя арганізацыйныя задачы, якія стаялі перад Совецкаю ўладай, патрабавалі такіх намаганняў, што для поспеху соцыялізма ў Расіі Совецкая ўлада павінна мець свабодныя рукі «для перамогі над буржуазіяй спачатку ў сваёй уласнай краіне і для наладжання шырокай і глыбокай масавай арганізацыйнай работы» **).

Іменна з інтарэсаў соцыялістычнай рэволюцыі ў Расіі трэба зыходзіць пры вызначэнні міжнародных задач Совецкай улады.

> «Няма сумнення, што соцыялістычная рэволюцыя ў Еўропе

*) В. І. Ленін, т. XXII, стар. 193.
**) Там-жа, стар. 194.

павінна наступіць і наступіць. Усе нашы надзеі на **канчатковую** перамогу социялізма асноўваны на гэтай упэўненасці і на гэтым навуковым прадбачанні. Наша прапагандысцкая дзейнасць наогул і арганізацыя братання ў асаблівасці павінны быць узмоцнены і развіты. Але было-б памылкай пабудаваць тактыку социялістычнага ўрада Расіі на спробах вызначыць, ці наступіць еўрапейская і асабліва германская социялістычная рэволюцыя ў бліжэйшыя поўгода (або падобны кароткі тэрмін) ці не наступіць. Паколькі вызначыць гэтага нельга ніякім чынам, то ўсе падобныя спробы, аб'ектыўна, звяліся-б да сляпой азартнай гульні» *).

Зыходзячы з немагчымасці дакладна вызначыць тэрмін германскай рэволюцыі, Ленін гаворыць аб неабходнасці зыходзіць з сапраўднага становішча рэчаў. У Германіі перамагла ваенная партыя, якая ўжо прад'явіла Расіі ультыматум,—заключыць анексіяніcцкі мір або безадкладна аднавіць вайну. Ленін з усёй сілай падкрэсліваў, што ніякага трэцяга выхаду быць не можа. Далей ён разглядае довады староннікаў безадкладнай рэволюцыйнай вайны і абвяргае іх адзін за другім. Ён падкрэслівае, што мы безумоўна павінны рыхтаваць рэволюцыйную вайну. Але мы ніколі не абяцалі безадкладнай рэволюцыйнай вайны пры ўсякіх акалічнасцях. Ён указвае, што ў даны момант і ў бліжэйшыя тыдні, а то і месяцы, руская армія не мае магчымасці паспяхова адбіць нямецкае наступленне з прычыны крайняй стомленасці большасці салдат пры поўнай нягоднасці конскага складу, што асуджае на немінучую пагібель нашу артылерыю, пры немагчымасці абараніць узбярэжжа ад Рыгі да Рэвеля, што адкрывае немцам шлях да захвату ўсёй Ліфляндыі, Эстоніі, на абход нашых войск і ўзяцце Петраграда. Ленін падкрэслівае асабліва тую акалічнасць, што сялянская большасць арміі ў сучасны момант безумоўна палічыць за лепшае мець анексіяніcцкі мір, чым аднаўленне вайны. «Бяднейшае сялянства ў Расіі ў стане падтрымаць социялістычную рэволюцыю, кіруемую рабочым класам, але яно не ў стане безадкладна, у даны момант пайсці на сур'ёзную рэволюцыйную вайну» **). Ваяваць-жа супроць волі большасці салдат было-б авантурай, а для таго, каб стварыць моцную і згуртаваную социялістычную армію, патрэбен доўгі час.

«Пры такім становішчы справы было-б зусім недапушчальнай тактыкай ставіць на карту лёс пачаўшайся ўжо ў Расіі социялістычнай рэволюцыі толькі з-за таго, ці пачнецца германская рэволюцыя ў бліжэйшы, найкарацейшы, вымяраемы тыднямі тэрмін. Такая тактыка была-б авантурай. Так рызыкаваць мы не маем права» ***).

Акрамя таго, Ленін растлумачваў, што заключэнне сепаратнага міру развязвае нам рукі ў адносінах да абодвух ваюючых імперыялістычных груповак. Заключыўшы мір, мы атрымліваем магчымасць выкарыстаць іх варожасць, перашкаджаючы ім заключыць здзелку супроць нас.

Ленін указваў, што вайна ў сучасны момант была-б вайной за нацыянальнае самавызначэнне Польшчы, Літвы, Фінляндыі і т. д. Мы

*) В. І. Ленін, збор тв., т. XXII, стар. 194.
**) Там-жа, стар. 197.
***) Там-жа, стар. 198.

робім усё, што ў нашых сілах, для таго, каб дапамагчы гэтым краінам дабіцца самавызначэння, але інтарэсы захавання соцыялістычнай рэспублікі стаяць вышэй, чым барацьба за самавызначэнне некалькіх нацый.

Гэтыя тэзісы Леніна з'явіліся баявой праграмай барацьбы за мір, якую паслядоўна і рашуча падтрымлівалі таварышы Сталін і Свердлоў. Але гэта праграма сустрэла шалёнае супраціўленне з боку аказаўшыхся ворагамі народа трацкістаў, бухарынцаў і ўсіх контррэволюцыянераў-меншавікоў, эсэраў, белагвардзейцаў, якія ўсямерна імкнуліся сарваць мірныя перагаворы і паставіць пад удар неўзмацнеўшую яшчэ Совецкую ўладу. Саюзнікамі ўсіх гэтых контррэволюцыянераў у гэтай чорнай справе былі трацкісты і бухарынцы, якія называлі сябе для маскіроўкі «левымі комуністамі».

На пэўны перыяд, жангліруючы гучнымі «рэволюцыйнымі» фразамі, ім удалося ашуканчым шляхам пацягнуць за сабой пэўную праслойку членаў партыі. Акрамя таго, у верхавінку петраградскай і маскоўскай абласных арганізацый прабраліся іх аднадумцы, якія вялі правакатарскую палітыку, угодную і выгадную контррэволюцыі. Маскіруючы яе левымі фразамі, яны заключылі блок з «левымі» эсэрамі і павялі здрадніцкую барацьбу супроць партыі, супроць Совецкай улады, супроць Леніна і Сталіна.

На нарадзе дэлегатаў III з'езда Советаў 21(8) студзеня праціўнікам ленінскай лініі ўдалося дабіцца большасці. Пратакол гэтай нарады не захаваўся. Вядома толькі з ленінскага запісу, што супроць яго выступалі так званыя «левыя комуністы», Троцкі і Каменеў. Усяго на нарадзе прысутнічала 63 чалавекі. Пры галасаванні большасць (32 галасы) выказалася за «безадкладную рэволюцыйную вайну». За Леніна галасавала толькі 15 чалавек і 16 чалавек выказалася за здрадніцкую формулу Троцкага—«ні міру, ні вайны». Аднак, гэта нарада **не мела права рашаць пытанне аб міры**. Яна насіла чыста дарадчы характар.

Праз некалькі дзён—24 (11) студзеня пытанне аб міры было пастаўлена на пасяджэнні ЦК большэвіцкай партыі. На гэтым пасяджэнні Ленін расказаў аб папярэдняй нарадзе і аб трох пунктах погляду, што там намеціліся, а затым у вялікай прамове абараняў свае тэзісы. Яго прамова была прасякнута найвялікшай бадзёрасцю і верай у перамогу соцыялізма ў нашай краіне. Для гэтай перамогі ён заклікае ісці на самыя цяжкія афяры, бо перамога соцыялізма для нас—вышэйшы закон.

> «Для выратавання соцыялістычнай рэспублікі,—гаворыць ён,—тры мільярды кантрыбуцыі не надта дарагая цана. Падпісваючы мір цяпер, мы навочна паказваем шырокім масам, што імперыялісты (Германіі, Англіі і Францыі), узяўшы Рыгу і Багдад, працягваюць біцца, а мы развіваемся, развіваецца соцыялістычная рэспубліка» *).

З рашучай падтрымкай Леніна выступіў таварыш Сталін. Ён гаварыў, што лозунг «рэволюцыйная вайна» ў сучасны момант іграе на-руку імперыялістам, паколькі самі імперыялісты зацікаўлены ў тым, каб уцягнуць нас у вайну тады, калі мы ваяваць яшчэ не можам, і разграміць нас. Сталін высмейвае пазіцыю Троцкага, аснава-

---

*) **В. І. Ленін**, т. XXII, стар. 201—202.

ную на тым, што немцы нібыта не смеюць наступаць. «Калі немцы пачнуць наступаць, то гэта ўзмоцніць у нас контррэволюцыю. Наступаць Германія зможа, паколькі ў яе ёсць свае карнілаўскія войскі—гвардыя...» *).

Палітыка Троцкага, гаварыў таварыш Сталін, стварае самыя дрэнныя ўмовы для руху на Захадзе. Сталін, як і Ленін, патрабаваў прыняцця нямецкіх умоў і тэрміновага заключэння міру.

І на гэтым пасяджэнні ленінскі пункт погляду не атрымаў большасці. Леніну ўдалося толькі правесці рашэнне аб тым, каб усяляк зацягваць перагаворы і адцягваць падпісанне міру. Разам з тым мірнай дэлегацыі было дана Леніным вуснае ўказанне зацягваць падпісанне міру **толькі да прад'яўлення Германіяй ультыматума.** У выпадку-ж прад'яўлення ультыматума **мір падпісаць.** Гэтак сама было вырашана пытанне і з'ездам Саветаў. Афіцыяльна з'ездам было дана ўказанне толькі зацягваць перагаворы. Само сабой падразумявалася, што гэта зацягванне павінна мець нейкую мяжу, а іменна прад'яўленне немцамі ультыматума аб аднаўленні вайны.

У той час, як засядаў III з'езд Саветаў, як у Петраградзе і ў Маскве адбываліся ярасныя ўнутрыпартыйныя спрэчкі па пытанню аб дапушчальнасці заключэння сепаратнага міру з імперыялістамі, немцы не трацілі дарэмна часу. Яны пад шумок запрасілі ў Брэст дэлегацыю самазванага ўрада Украіны—Цэнтральнай Украінскай Рады. Гэта Рада к таму часу ўжо фактычна ніякай улады на Украіне не мела, бо на большай частцы тэрыторыі Украіны панавала Савецкая ўлада, устаноўленая паўстаўшымі супроць Рады украінскімі рабочымі і сялянамі. Тым не менш, калі прадстаўнікі Рады з'явіліся ў Брэст, Троцкі не замарудзіў прызнаць іх поўнамоцтвы. Дагаворы Германіі і Аўстрыі з Радай вяліся ў найглыбейшай тайне. Імперыялісты хацелі паставіць Савецкі ўрад перад адбыўшымся фактам. Дагавор з Радай быў дагаворам аб аграбленні Украіны. Здрадніцкая Рада з гатоўнасцю прадавала украінскі народ. Германскія захватчыкі, атрымаўшы ад Рады мандат на акупацыю Украіны, не гледзячы на ўніжаныя просьбы, проста выгналі украінскіх меншавіцка-эсэраўскіх міністраў, як толькі тыя паказаліся ім недастаткова расторопнымі. Але сваю здрадніцкую справу Рада пры дапамозе Троцкага зрабіла. Яна заключыла сепаратны мір з аўстра-германцамі і тым самым ва многа раз затрудніла становішча Савецкага ўрада, дабілася часовага адтаржэння Украіны ад Савецкай Расіі і рэстаўрацыі на Украіне капіталістаў і памешчыкаў.

9 лютага аўстра-германцы заключылі сепаратны дагавор з Радай, а 10 лютага яны прад'явілі савецкай дэлегацыі ультыматум. Яны патрабавалі безадкладнага падпісання міру і адтаржэння ад Расіі цэлага раду абласцей, уключаючы і Украіну. Згодна ўказанням Леніна і Сталіна, пасля прад'яўлення нямецкімі імперыялістамі ультыматума савецкая дэлегацыя павінна была падпісаць мір. Аднак, Троцкі гэтага не зрабіў і абвясціў сваю здрадніцкую заяву аб тым, што Савецкі ўрад адмаўляецца ад падпісання анексіяністкага дагавора, але ў той-жа час аб'яўляе становішча вайны спыненым і аддае загад аб дэмабілізацыі арміі. Савецкая дэлегацыя пакінула Брэст.

Гэта была самая сапраўдная здрада соцыялістычнай радзіме. Армія дэмабілізоўвалася, перад немцамі адкрываўся фронт, і ім прадастаўлялася браць усё, што яны хочуць, без усякага супраціўлення.

*) „Пратаколы ЦК РСДРП", стар. 204, Дзяржвыдат, 1929.

Здраднікі спяшаліся. У той час як Троцкі адкрываў немцам фронт, Бухарын і яго прыяцелі скалачвалі блок з «левымі» эсэрамі, падрыхтоўваючы звяржэнне Совецкага ўрада, арышт і забойства Леніна, Сталіна і Свердлова. Бухарын стараўся скалаціць у адну групу ўсе антыпартыйныя элементы.

Бухарынцы пачалі выдаваць у Петраградзе газету «Коммунист», якая змагалася супроць усіх мерапрыемстваў Совецкай улады і бальшэвіцкай партыі. Яны мабілізавалі свае сілы ў Маскве, Петраградзе і правінцыі, каб спатайка падрыхтоўваць раскол партыі.

Таварыш Сталін рашуча падтрымліваў Леніна. Ён гаварыў, што «уся сіла нашай партыі заключалася да гэтага часу ў тым, што мы займалі зусім ясную і акрэсленую пазіцыю па ўсіх пытаннях. Гэтай яснасці і акрэсленасці няма па пытанню аб міры, паколькі існуюць розныя плыні. Трэба гэтаму пакласці канец» *).

З лютага (21 студзеня) была склікана партыйная нарада з прадстаўнікоў ЦК, ПК, МК і прадстаўнікоў розных плыней. Пратакол нарады не захаваўся. Захавалася толькі табліца галасавання, з якой відаць, што велізарная большасць схода стаяла за дапушчальнасць міру з немцамі і выказвалася супроць рэволюцыйнай вайны. Аднак, толькі Ленін і Сталін і падтрымліваўшыя іх Свердлоў, Сергееў (Арцём) і некаторыя іншыя рабілі з гэтага ўсе вывады і патрабавалі безадкладнага заключэння міру. Другія-ж, або ведучы свядомую здрадніцкую палітыку, як бухарынцы і трацкісты, або не разумеючы ўсёй сур'ёзнасці становішча, хісталіся і лічылі за лепшае галасаваць супроць або ўстрымлівацца па пытанню аб заключэнні безадкладнага міру. Характэрна, што самі лідэры так званых «левых комуністаў», роўна як і обер-здраднік Зіноўеў, палічылі за лепшае ў галасаванні не прымаць удзелу і пакінулі нараду да галасавання.

Разрыў брэсцкіх перагавораў адбыўся 10, а ўжо 16 лютага нямецкае камандаванне афіцыяльна заявіла аб спыненні перамір'я з 12 гадзін дня 18 лютага. Становішча рабілася надзвычай грозным. Па патрабаванню Леніна і Сталіна было склікана экстранае пасяджэнне ЦК. Пратакол гэтага пасяджэння таксама не захаваўся. Засталася толькі табліца галасавання. З гэтага галасавання відаць, што большасць членаў ЦК стаяла за неабходнасць падпісаць мір у тым выпадку, калі германскае наступленне сапраўды пачнецца, а рэволюцыя ў Германіі і Аўстрыі не наступіць. Але ўсё-ж на гэтым пасяджэнні чоткая лінія Леніна і Сталіна яшчэ не атрымала верх.

Найбольш трывожнае становішча стварылася на наступны дзень— 18 лютага. У гэты дзень ЦК засядаў два разы. Першае, ранішняе пасяджэнне пачалося яшчэ да таго, як зусім вызначылася нямецкае наступленне. Былі толькі чуткі аб тым, што немцы перакідаюць дывізіі з Заходняга фронта, што над Дзвінскам з'явіліся нямецкія аэрапланы. Але ўжо было зусім ясна, што наперакор крыкам трацкістаў і бухарынцаў немцы змогуць наступаць і будуць наступаць На гэтым пасяджэнні Ленін патрабаваў безадкладнай пасылкі тэлеграмы нямецкаму камандаванню аб аднаўленні мірных перагавораў. Трацкісты і бухарынцы спрабавалі яшчэ адцягнуць час, даць германскаму наступленню разгарнуцца. На гэтым пасяджэнні большасцю ў адзін голас ім удалося затрымаць пасылку тэлеграмы.

Але к вечару паступілі ўжо звесткі аб тым, што пачалося наступленне, што руская армія ў паніцы адступае, што Дзвінск узят і па-

*) „Пратаколы ЦК РСДРП", стар. 214.

чалося наступленне немцаў на Украіну. Для ўсіх стала ясна, што далейшае зацягванне недапушчальна, што трэба рашаць безадкладна ў той ці іншы бок. На гэтым пасяджэнні Ленін і Сталін рашуча настайвалі на безадкладнай пасылцы радыётэлеграмы немцам з гатоўнасцю падпісаць мір на ўмовах, прапанаваных немцамі да разрыву перагавораў. У тэлеграме павінна было быць указана, што Совецкі ўрад не адмаўляецца ад разгляду іншых, горшых прапаноў. Таварыш Сталін ставіў пытанне з усёй рэзкасцю:

«Трэба сказаць прама, па сутнасці,—гаварыў ён;—немцы наступаюць, у нас няма сіл, пара сказаць прама, што трэба аднавіць перагаворы» *).

Ленін з усёй сілай абрушыўся на здрадніцкую палітыку Троцкага.

«Адзінае,—гаварыў ён,—гэта прапанаваць немцам аднавіць перагаворы. Цяпер сярэдняе рашэнне немагчыма. Калі рэвалюцыйная вайна, то трэба яе аб'явіць, спыніць дэмабілізацыю, а так нельга. Паперкі мы пішам, а яны пакуль бяруць склады, вагоны, і мы акаляваем. Цяпер на карту пастаўлена тое, што мы, гуляючы з вайной, аддаем рэволюцыю немцам» **).

На гэтым пасяджэнні пункт погляду Леніна і Сталіна атрымаў верх. Радыё немцам было паслана ад імя Совета народных камісараў.

Аднак, немцы рашылі не спяшацца з адказам і, перш чым пачынаць новыя перагаворы, захапіць пабольш тэрыторыі, зброі, артылерыі, харчовых запасаў. Наступленне працягвалася. За некалькі дзён былі ўзяты раёны да Пскова і Нарвы на паўночным захадзе і значная частка Украіны.

Толькі 21 лютага немцы адказалі на тэлеграму Совецкага ўрада. Гэты адказ прадстаўляў сабою новы ультыматум, які значна пагаршаў раней прапанаваныя немцамі ўмовы міру. Згодна новым умовам, Совецкі ўрад павінен быў безадкладна вывесці свае войскі з Фінляндыі і Эстоніі; Совецкі ўрад павінен быў заключыць мір з украінскай Радай і ачысціць Украіну і Фінляндыю ад совецкіх войск. Уся совецкая армія павінна быць безадкладна дэмабілізавана, уключаючы і новастворанае Совецкім урадам фарміраванне. Аднаўляўся руска-германскі гандлёвы дагавор 1904 года, надта выгадны для Германіі і нявыгадны для Расіі. Тэрміны для прыняцця ўмоў даваліся выключна кароткія: совецкая дэлегацыя павінна была прыбыць у Брэст-Літоўск на працягу 48 гадзін з моманту прад'яўлення ультыматума, а сам мірны дагавор павінен быў быць падпісан у трохдзенны тэрмін і ратыфікован на працягу двух тыдняў.

Цяпер ужо зусім ясна было, што немцы не ўступяць і што далейшае зацягванне адказу, працягванне палітыкі рэволюцыйнай фразы хоць-бы на адну гадзіну беспаваротна губіць рэволюцыю.

Рашаючае пасяджэнне Цэнтральнага камітэта адбылося 23 лютага. На гэтым пасяджэнні Ленін паставіў пытанне ультыматыўна. Ён заявіў, што калі палітыка рэволюцыйнай фразы будзе працягвацца, то ён выходзіць з ЦК і з урада. Для рэволюцыйнай вайны патрэбна армія, раз арміі няма,—значыць, трэба прымаць нямецкія ўмовы.

«Гэтыя ўмовы трэба падпісаць,—гаварыў Ленін.—Калі вы іх не падпішаце, то вы падпішаце смяротны прысуд Совецкай

*) „Пратаколы ЦК РСДРП", стар. 233.
**) Там-жа, стар. 234.

уладзе праз тры тыдні. Гэтыя ўмовы Совецкай улады не чапаюць. У мяне няма ні малейшага ценю хістання. Я стаўлю ультыматум не для таго, каб яго знімаць. Я не хачу рэволюцыйнай фразы» *).

Як заўсёды, Леніна цвёрда падтрымліваў Сталін. Ён гаварыў:

«Пытанне стаіць так: або паражэнне нашай рэволюцыі і звязванне рэволюцыі ў Еўропе, або мы атрымліваем перадышку і ўмацоўваемся. Гэтым не затрымліваецца рэволюцыя на Захадзе. Раз у нас няма сродкаў узброенай рукою затрымаць наступленне немцаў, мы павінны прыняць іншыя метады. Калі Петраград павінен будзе здацца, гэта будзе не здача, а гніенне рэволюцыі. Або перадышка, або пагібель рэволюцыі— другога выхаду няма» **).

На гэтым пасяджэнні Троцкі праявіў сябе як здраднік соцыялістычнай радзімы. Не адважваючыся галасаваць супроць Леніна, ён палічыў за лепшае ўстрымацца і высунуць наперад сваіх менш скампраметаваных саюзнікаў з ліку так званых «левых комуністаў». Але ў той-жа час ён імкнуўся даказаць, што падпісанне міру—памылка і што трэба было-б адцягнуць яго да здачы немцам Петраграда і Масквы.

У выніку прапанова Леніна безадкладна падпісаць нямецкія ўмовы міру была прынята большасцю 7 галасоў супроць 4 пры 4-х устрымаўшыхся. Бухарынцы і трацкісты зараз-жа прынялі сваю ўлюбёную палітыку адставак і заявілі аб сваім уходзе з усіх адказных партыйных і совецкіх пастоў.

Адначасова з вырашэннем пытання аб прыняцці найцяжэйшых умоў міру, у Цэнтральным Камітэце ішла падрыхтоўка да абароны ад наступаючых нямецкіх войск і фарміраванне першых атрадаў добраахвотніцкай Чырвонай Арміі.

У той час як «левыя комуністы», левыя эсэры і трацкісты займаліся дэкламацыяй аб узброенай вайне і практычнай падрыхтоўкаю расколу партыі, партыя, кіруемая Леніным і Сталіным, напружана змагалася за сапраўдную арганізацыю рэволюцыйнай вайны, за сапраўдную арганізацыю Чырвонай Арміі.

23 лютага першыя чырвонаармейскія атрады, яшчэ надта слабыя і дрэнна арганізаваныя, усё-ж здолелі пад Нарвай і Псковам затрымаць далейшае наступленне германскіх войск. Гэты дзень увайшоў у гісторыю, як дзень нараджэння Чырвонай Арміі.

Але падпісанне міру не спыніла ўнутрыпартыйнай барацьбы па пытанню аб міры. Мір трэба было не толькі падпісаць, яго трэба было яшчэ ратыфікаваць і дабіцца таго, каб гэты мір, якім-бы цяжкім ён ні быў, усё-ж ператварыўся-б у сапраўдную перадышку. Усе намаганні бухарынцаў і трацкістаў былі накіраваны на тое, каб не дапусціць ратыфікацыі, сарваць перадышку, уцягнуць Совецкую краіну ў новую вайну да таго, як яна дастаткова ўзмацнее і паспее стварыць дастаткова моцную Чырвоную Армію.

На наступны-ж дзень пасля рашэння ЦК аб падпісанні мірнага дагавора Маскоўскае абласное бюро, быўшае ў той час цытадэллю «левых комуністаў», вынесла рэзалюцыю недавер'я Цэнтральнаму Камітэту і заявіла, што яно лічыць мэтазгодным у сучасны момант

*) **В. І. Ленін**, т. XXII, стар. 277.
**) „Пратаколы ЦК РСДРП“, стар. 248—249.

«існі на ўтрату совецкай улады», якая становіцца «чыста фармальнай».

Ленін адказаў на гэту рэзалюцыю выдатным артыкулам «Дзіўнае і страшэннае». Характарызуючы гэту рэзалюцыю, Ленін гаворыць:

«Настрой найглыбейшага, бязвыхаднага песімізма, пачуцце паўнейшага адчаю—вось што складае змест «тэорыі» аб фармальным нібыта значэнні Совецкай улады і аб дапушчальнасці тактыкі, якая ідзе на магчымасць утраты Совецкай улады. Усёроўна, ратунку няма, няхай гіне нават і Совецкая ўлада,—такаво пачуцце, якое прадыктавала страшэнную рэзалюцыю. Нібыта «эканамічныя» довады, у якія іншы раз апранаюць падобныя мыслі, зводзяцца да таго-ж бязвыхаднага песімізма: дзе ўжо, моў, тут Совецкая рэспубліка, калі змогуць узяць даніну вось такую, ды вось такую, ды вось яшчэ такую.

Нічога, акрамя адчаю: усёроўна гінуць!» *).

Толькі пазіцыя Леніна і Сталіна ў гэтыя цяжкія брэсцкія дні была прасякнута, як і заўсёды, велізарнай бадзёрасцю, воляй да барацьбы і ўпэўненасцю ў перамогу.

«Падпісанне нязмерна больш цяжкага і ганебнага міру, чым брэсцкі, бывала ў гісторыі...—і не вяло да страты прэстыжа ўлады, не рабіла яе фармальнай, не губіла ні ўлады, ні народа, а загартоўвала народ, **вучыла** народ цяжкай і труднай навуцы рыхтаваць сур'ёзную армію нават пры адчайна-цяжкім становішчы пад пятою бота заваявальніка» **).

Ленін паказвае, што іменна трацкісты і бухарынцы вінаваты ў тым, што новыя ўмовы міру «горш, цяжэй, уніжальней дрэнных, цяжкіх і ўніжальных брэсцкіх умоў... ***).

«Прэдацельства Троцкага і Бухарына дорага абышлося Совецкай рэспубліцы. Латвія, Эстонія, не гаворачы ўжо аб Польшчы, адыходзілі да Германіі, Украіна аддзялялася ад Совецкай рэспублікі і ператваралася ў васальную (залежную) нямецкую дзяржаву. Совецкая рэспубліка абавязалася плаціць немцам кантрыбуцыю» ****).

Леніну і Сталіну прышлося вытрымаць вялікі і сур'ёзны бой на VII з'ездзе партыі і на IV Надзвычайным з'ездзе Советаў за ратыфікацыю мірнага дагавора. У гэтым баі поўнасцю перамагла большэвіцкая партыя, а «левыя комуністы» і трацкісты аказаліся ізаляванымі і разбітымі. Наша большэвіцкая партыя, рабочы клас, працоўныя масы горада і вёскі цесна згуртаваліся вакол сваіх правадыроў—Леніна і Сталіна, рашуча падтрымалі іх у пытанні аб міры, гэтак сама, як і ва ўсіх іншых пытаннях. Раённыя камітэты партыі ў большасці выступілі супроць палітыкі «левай» фразы, якая праводзілася Пецербургскім камітэтам, і хутка дабіліся змены яго складу.

Той-жа працэс аздараўлення праходзіў і ў Маскве. Старое маскоўскае абласное бюро, якое спачатку складалася ў большасці з бухарынцаў, было пазбаўлена паўнамоцтваў. На абласной партыйнай канферэнцыі велізарнай большасцю галасоў прайшла рэзалю-

*) В. І. Ленін, т. XXII, стар. 301.
**) Там-жа стар. 30 .
***) Там-жа, стар. 308.
****) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 206.

цыя, адабраючая ленінскую лінію Цэнтральнага Камітэта. У новы склад Абласнога бюро ўвайшлі староннікі Леніна. Бухарынцы канчаткова перайшлі на рэйкі падпольнай, тэрарыстычнай барацьбы супроць партыі і яе правадыроў. Каб пакінуць як найменш улік, яны тайком із'ялі з пратаколаў Маскоўскага абласнога бюро страшэнную рэзалюцыю, якая патрабавала адмаўлення ад Совецкай улады.

На VII з'ездзе за лінію Леніна і Сталіна галасавала 30 дэлегатаў супроць 12 і 4 устрымаліся. Такім чынам большасцю галасоў была прынята ленінская рэзалюцыя па пытанню аб брэсцкім міры.

«З'езд, пацвердзіўшы правільнасць ленінскай лініі ў пытанні аб брэсцкім міры, асудзіў пазіцыю Троцкага і Бухарына, закляйміўшы спробу пацярпеўшых паражэнне «левых комуністаў» прадаўжаць на самым з'ездзе раскольніцкую работу» *).

Шырокія партыйныя масы, рабочы клас і працоўныя вёскі сустрэлі рашэнні з'езда поўным адабрэннем і падтрымкай, бо яны ведалі, што толькі ідучы па шляху, па якому вядуць Ленін і Сталін, можна выратаваць совецкую ўладу, утрымаць сілу і магутнасць пролетарскай дыктатуры і дабіцца канчатковай перамогі.

На IV з'ездзе Советаў ленінска-сталінская лінія атрымала поўную перамогу. 784 дэлегаты з'езда Советаў галасавала за ратыфікацыю міру, 261 супроць пры 115 устрымаўшыхся (сярод іх 64 «левыя комуністы»).

Гэта галасаванне паказала, што велізарная большасць народа стаіць за мір, за перадышку, за ўмацаванне Совецкай улады.

«Заключэнне брэсцкага міру дало партыі магчымасць выйграць час для ўмацавання Совецкай улады, для прывядзення ў парадак гаспадаркі краіны.

Заключэнне міру дало магчымасць скарыстаць сутычкі ў лагеры імперыялізма (прадаўжаўшаяся вайна Аўстра-Германіі з Антантай), разлажыць сілы праціўніка, арганізаваць совецкую гаспадарку, стварыць Чырвоную армію.

Заключэнне міру дало магчымасць пролетарыяту захаваць за сабой сялянства і накапіць сілы для разгрому белагвардзейскіх генералаў у перыяд грамадзянскай вайны» **).

Дабіўшыся перадышкі, Ленін і яго бліжэйшыя саратнікі—Сталін, Свердлоў і інш.—павялі барацьбу за соцыялістычнае будаўніцтва, за гаспадарчы рост і ўмацаванне маладой Совецкай рэспублікі. Бухарынцы і трацкісты ў гэтай галіне вялі шалёную барацьбу супроць лініі партыі. Яны імкнуліся сарваць самую магчымасць мірнага будаўніцтва. Яны змагаліся супроць дысцыпліны, супроць уліку і кантролю, былі рупарам дробнабуржуазнай расхлябанасці, якая з'яўлялася ў гэты перыяд найбольш небяспечным ворагам Совецкай улады.

Ленін у сваіх выдатных артыкулах і дакладах: «Чарговыя задачы Совецкай улады», «Аб «левым» дзяцінстве і аб дробнабуржуазнасці», «Галоўная задача нашых дзён»—начартаў праграму соцыялістычнага будаўніцтва ва ўмовах кароткай мірнай перадышкі, у барацьбе супроць шалёнага супраціўлення капіталістычных элементаў і

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)“, стар. 207.
**) Там-жа, стар. 207—208.

супроць дробнабуржуазнай стыхіі, якая пагражала захліснуць пролетарскую рэволюцыю.

Усе гэтыя ленінскія артыкулы і выступленні прасякнуты найвялікшай бадзёрасцю, верай у перамогу, велізарным аптымізмам. Гэты аптымізм грунтуецца на поўным уліку рэчаіснасці, на поўным усведамленні цяжкасцей, што стаяць перад Совецкаю уладай. Як сапраўдны пролетарскі рэволюцыянер, правадыр і арганізатар соцыялістычнай рэволюцыі, Ленін не губляе галаву перад тварам гэтых цяжкасцей, не ўпадае ў паніку, а, наадварот, улічваючы ўсе акалічнасці, знаходзіць з іх выхад шляхам упартай буднічнай дзелавой работы.

> «Геніяльная празарлівасць, здольнасць быстра схватваць і разгадваць унутраны сэнс надыходзячых падзей—гэта тая самая ўласцівасць Леніна, якая дапамагала яму намячаць правільную стратэгію і ясную лінію паводзін на паваротах рэволюцыйнага руху» *).

У артыкуле «Галоўная задача нашых дзён» Ленін піша:

> «Мы вымушаны былі падпісаць «Тыльзіцкі» мір. Не трэба самаабманаў. Трэба мець мужнасць глядзець проста ў твар неприкрашанай горкай праўдзе. Трэба змерыць цалкам, да дна, усё тое бяздонне паражэння, расчлянення, зневальнення, ініжэння, у якое нас цяпер спіхнулі. Чым ясней мы зразумеем гэта, тым больш цвёрдай, загартаванай, сталёвай зробіцца наша воля к вызваленню, наша імкненне ўзняцца зноў ад зневальнення к самастойнасці, наша непахісная рашымасць дабіцца ва што-б там ні стала таго, каб Русь перастала быць убогай і бяссільнай, каб яна стала ў поўным сэнсе слова магутнай і багатай» **).

Ленін рысуе перспектыву новай вялікай айчыннай вайны, якая прывядзе не да буржуазнай дзяржавы, а да міжнароднай соцыялістычнай рэволюцыі. Яго вера ў перамогу гэтай міжнароднай рэволюцыі непахісна, і іменна ў імя перамогі гэтай рэволюцыі ён заклікае да арганізаванасці, да буднічнай работы, да таго, каб вучыцца арганізацыі, уліку і кантролю.

Падзеі лета і восені 1918 года цалкам апраўдалі ленінска-сталінскую лінію.

Умовы для Совецкай рэспублікі былі неймаверна цяжкі. Кола ворагаў сціскалася вакол рабочых цэнтраў. Цэнтр краіны быў адрэзан ад важнейшых хлебных раёнаў. Насоўваўся голад. Ленін мабілізуе рабочых Піцера і Масквы ў вялікі паход за хлеб, указваючы, што пры склаўшыхся ўмовах барацьба за хлеб ёсць барацьба за соцыялізм.

Таварыш Сталін накіроўваецца ў Царыцын для арганізацыі харчовай дапамогі галадаючаму цэнтру і арганізуе гераічную абарону Царыцына. Момантамі здаецца, што становішча Совецкай рэспублікі сапраўды адчайнае. Але і ў гэтыя моманты правадыры не трацяць бадзёрасці і яснасці перспектывы. Іменна ў гэтыя цяжкія дні Ленін піша Клары Цэткін у Германію:

> «Мы цяпер перажываем тут, можа быць, самыя цяжкія

*) **І. В. Сталін**, „Аб Леніне", прамова на вечары крэмлёўскіх курсантаў 28 студзеня 1924 г.

**) **В. І. Ленін**, т. XXII, стар. 376.

тыдні за ўсю рэволюцыю. Класавая барацьба і грамадзянская вайна пранікл ўглыб насельніцтва: усюды на вёсках раскол— бедната за нас, кулакі ярасна супроць нас. Антанта купіла чэхаславакаў, бушуе контр-рэволюцыйнае паўстанне, уся буржуазія прыкладае ўсе намаганні, каб нас скінуць. Тым не менш, мы цвёрда верым, што пазбегнем гэтага «звычайнага» (як у 1794 і 1849 г.г.) ходу рэволюцыі і пераможам буржуазію» *).

У ліпені 1918 года левыя эсэры, падтрыманыя «левымі комуністамі», паднялі паўстанне супроць Совецкай улады і, забіўшы германскага пасла Мірбаха, зноў спрабавалі ўцягнуць Совецкую рэспубліку ў вайну з Германіяй. Лева-эсэраўскае паўстанне было разгромлена на працягу двух дзён. Аднак, забойства Мірбаха стварыла надзвычай небяспечную абстаноўку для Совецкай улады.

На пасяджэнні ВЦВК 15 ліпеня 1918 г. Ленін паведаміў аб патрабаванні немцаў увесці ў Маскву батальён узброеных нямецкіх войск нібыта для аховы германскага пасольства. Указваючы, што такі крок з'явіўся-б пачаткам акупацыі Расіі чужаземнымі войскамі, Ленін гаварыў:

> «Вайна стала-б для нас тады ракавой, але безумоўнай і безагаворачнай неабходнасцю, але гэтую рэволюцыйную вайну рабочыя і сяляне Расіі павядуць рука аб руку з Совецкаю ўладай да апошняга ўздыху» **).

Немцы не пасмелі ажыццявіць сваю пагрозу. Прычынай гэтаму з'явілася толькі цвёрдая і непахісная пазіцыя Совецкага ўрада, а таксама і цяжкае становішча ўнутры самой Германіі. Вайна набліжалася к канцу, і відавочнай станавілася немінучасць ваеннага паражэння Германіі. У той-жа час у акупаваных немцамі абласцях— на Украіне і на паўночным захадзе—палалі рабочыя і сялянскія паўстанні. Самі германскія войскі ў акупаваных абласцях паступова разлагаліся і станавіліся ўсё менш надзейнымі.

9 лістапада 1918 г. у Германіі выбухла рэволюцыя. Рэволюцыя ў Германіі азначала крах Брэсцкага міру. Лінія Леніна і Сталіна, лінія барацьбы за перадышку, за ўступкі ў той момант, калі Совецкая рэспубліка была яшчэ слаба, калі яна не мела яшчэ сваёй арміі, лінія барацьбы супроць рэволюцыйнай фразы і за сапраўдную рэволюцыйную справу апраўдалася цалкам.

10 лістапада над нямецкім консульствам у Петраградзе ўзвіўся чырвоны сцяг, а 13 лістапада Цэнтральны Выканаўчы Камітэт выдаў дэкрэт за подпісам Я. М. Свердлова аб ануліраванні Брэсцкага дагавора. ВЦВК урачыста заявіў усім народам Расіі, насельніцтву ўсіх акупаваных абласцей і зямель, што «ўмовы міру з Германіяй, падпісаныя ў Брэсце 3 сакавіка 1918 г., пазбавіліся сілы і значэння».

> «Брэст-Літоўскі мір гвалту і рабунку,—гаворыцца ў дэкрэце,—паў пад аб'яднаным ударам германскіх і рускіх пролетарыяў-рэволюцыянераў».

Дэкрэт заклікае працоўныя масы Расіі, Ліфляндыі, Эстляндыі, Польшы, Літвы, Украіны, Фінляндыі, Крыма і Каўказа, вызваленыя ад гнёту грабежніцкага дагавора, саміх рашаць свой лёс. Ён заклікае гэтыя масы да брацкага саюза з сялянамі і рабочымі Расіі і

*) Ленінскі зборнік, т. XXI, стар. 249.
**) В. І. Ленін, т. XXIII, стар. 143.

абяцае ім «поўную, да канца ідучую падтрымку ў іх барацьбе за ўстанаўленне на іх землях соцыялістычнай улады рабочых і сялян».

Брэсцкі мір быў ануляваны. Гэта мела велізарнае значэнне для Совецкай краіны. Вось як аб гэтым гаворыцца ў «Гісторыі Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў)»:

«Па-першае, Совецкая ўлада атрымлівала магчымасць ануляваць грабежніцкі брэсцкі мір, спыніць плацяжы па кантрыбуцыі і павесці адкрытую барацьбу, ваенную і палітычную, за вызваленне Эстоніі, Латвіі, Беларусі, Літвы, Украіны, Закаўказзя ад гнёту германскага імперыялізма. Па-другое,—і гэта галоўнае—існаванне ў цэнтры Еўропы, у Германіі, рэспубліканскага рэжыму і Советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў павінна было рэволюцыянізаваць і сапраўды рэволюцыянізавала краіны Еўропы, што не магло не ўмацаваць становішча Совецкай улады ў Расіі.

... У Еўропе пачаўся рэволюцыйны ўздым. У Аўстрыі разгортваўся рэволюцыйны рух. У Венгрыі ўзнікла Совецкая рэспубліка. На базе рэволюцыйнай хвалі вышлі на паверхню комуністычныя партыі Еўропы.

Стварылася рэальная глеба для аб'яднання компартый у III, Комуністычны Інтэрнацыянал» *).

Гэта была велізарная перамога Совецкай улады, велізарная перамога перадавога атрада сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі. І гэтай перамогай мы абавязаны правільнай палітыцы большэвіцкай партыі, правільнаму кіраўніцтву яе вялікіх правадыроў—Леніна і Сталіна.

---

*) „Гісторыя ВКП(б)", стар. 218—219.

А. Кураў

# Вучыцца ў Леніна працаваць з кнігай

Выхад у свет «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)»—выдатнай энцыклапедыі асноўных ведаў у галіне марксізма-ленінізма—мае велізарнае значэнне ў ідэйным жыцці большэвіцкай партыі і ўсяго совецкага народа. Вывучэнне «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» разам з глыбокім вывучэннем геніяльных работ Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна дапаможа нашым кіруючым кадрам ліквідаваць сваю тэарэтычную адсталасць.

Гістарычнае рашэнне ЦК ВКП(б) «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выхадам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» азначае новы ўздым ідэйнага жыцця нашай партыі, новую паласу ў арганізацыі партыйнай прапаганды. Яно патрабуе поўнай перабудовы ўсёй сістэмы партыйнай прапаганды, указваючы, што самастойнае чытанне з'яўляецца галоўным і асноўным спосабам вывучэння марксізма-ленінізма.

> «Неабходна,—гаворыцца ў пастанове ЦК ВКП(б),—разбіць шкодны прадрассудак, быццам вучыцца марксізму-ленінізму можна толькі ў гуртку, тады як у сапраўднасці галоўным і асноўным спосабам вывучэння марксізма-ленінізма з'яўляецца самастойнае чытанне».

Самастойнай рабоце над кнігай мы павінны вучыцца ў старэйшага пакалення большэвікоў, якія ў самых цяжкіх умовах настойліва вывучалі рэволюцыйную тэорыю марксізма-ленінізма, творы Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна.

Партыя заклікае ўсіх партыйных і непартыйных большэвікоў вывучаць рэволюцыйную тэорыю так, як вывучала яе пакаленне старэйшых большэвікоў, як вывучалі яе Ленін і Сталін. Толькі на вопыце работы выдатнейшых людзей нашага часу можна авалодаць большэвізмам, атрымаць тэарэтычныя веды марксізма-ленінізма.

На III з'ездзе комсамола В. І. Ленін гаварыў:

> «Мы павінны зразумець, што на месца старой вучобы, старой зуброжкі, старой муштры мы павінны паставіць уменне ўзяць сабе ўсю суму чалавечых ведаў, і ўзяць так, каб камунізм не быў-бы ў нас нечым такім, што завучана, а быў-бы тым, што вамі самімі прадумана, быў-бы тымі вывадамі, якія з'яўляюцца немінучымі з пункту погляду сучаснай адукацыі» *).

---

*) В. І. Ленін, т. XXV, стар. 389.

Перад дэлегатамі з'езда, перад комсамолам, перад усімі працоўнымі Ленін паставіў задачу—вывучаць тэорыю марксізма-ленінізма шляхам самастойнай глыбокай і ўдумчывай работы над кнігай, увязваючы тэорыю з практыкай рэволюцыйнай класавай барацьбы.

Яркім прыкладам такіх адносін да вучобы служыць работа Леніна над кнігай. Владзімір Ільіч чытаў надзвычай многа, але не бессістэмна, а па пэўнаму плану, і адносіўся да чытання, як да вялікай сур'ёзнай работы.

Сястра Владзіміра Ільіча—Марыя Ільінічна Ульянава ў сваіх успамінах аб тым, як Ленін вывучаў кнігі, расказвае:

> «Ён не проста чытаў кнігі, ён, вывучаючы аўтара, штудзіраваў іх, рабіў заметкі і выпіскі з кнігі... Здзіўляла настойлівасць і акуратнасць, з якой Владзімір Ільіч рабіў тую справу, за якую ён браўся... Гэта ўменне працаваць, гэта ўпартасць захавалася ў яго на ўсё жыццё. Ён карыстаўся кожнай вольнай гадзінай, каб пайсці ў бібліятэку. Захавалася многа сшыткаў і выпісак Владзіміра Ільіча, і па іх можна меркаваць, якая велізарная колькасць літаратуры па ўсіх галінах ведаў была ім праштудзіравана. Ён усё жыццё вучыўся. Вывучаў вялікіх мысліцеляў і жывое жыццё, тэорыю і практыку, факты і лічбы» *).

Аб выключнай упартасці Владзіміра Ільіча працаваць над кнігай расказвае і Анна Ільінічна Ульянава-Елізарава:

> «Прывучыўшы сябе працаваць рэгулярна, ён не дапускаў вялікіх перарываў у занятках, нават тады, калі яны звычайна лічыліся немагчымымі» **).

Усё сваё жыццё Владзімір Ільіч Ленін працаваў над сабой і над кнігай, каб аўладаць скарбніцай чалавечых ведаў. Навыкі да самастойнага чытання і работы з кнігай у Владзіміра Ільіча выпрацаваліся з дзён юнацтва. Да кожнай справы, за якую-б ні браўся, ён адносіўся сур'ёзна і ўважліва.

Малодшы брат Владзіміра Ільіча Д. І. Ульянаў расказвае, як Владзімір Ільіч пісаў сачыненні:

> «Калі задавалі на дом сачыненні, ён ніколі не пісаў іх напярэдадні падачы, наспех, праседжваючы з-за гэтага ноч, як гэта рабіла большасць яго таварышоў-гімназістаў. Наадварот, як толькі аб'яўлялася тэма і прызначаўся для напісання тэрмін, звычайна двухтыднёвы, Владзімір Ільіч адразу браўся за работу. Ён складаў на чацвяртушцы паперы план сачынення з уводзінамі і заключэннем. Затым браў ліст паперы, складаў яго папалам удоўж і на левых палосах ліста накідваў чарнавік, праастаўляючы літары і цыфры згодна складзенага плана. Правыя палосы ліста або шырокія палі заставаліся чыстымі. На іх у наступныя дні ён уносіў дадаткі, паясненні, папраўкі, а таксама спасылкі на літаратуру—глядзі там-то, старонка такая-то.
>
> Паступова, дзень за днём, правыя палосы ліста першапачатковага чарнавіка дробна спісваліся цэлым радам паметак, паправак, спасылак і т. д.
>
> Затым, незадоўга да тэрміну падачы сачынення, ён браў чыстыя лісты паперы і пісаў усё сачыненне начорна, спраўляю-

---

*) Д. І. і М. І. Ульянавы, „Аб Леніне", стар. 10.
**) А. І. Ульянава-Елізарава, „Успаміны аб Леніне", стар. 79.

чыся са сваімі паметкамі ў розных кнігах, якія ў яго ўжо былі прыпасены загадзя. Цяпер яму заставалася толькі ўзяць чысты сшытак і перапісаць чарніламі набела зусім апрацаванае і гатовае сачыненне» *)

Самаадукацыяй Владзімір Ільіч пачаў займацца яшчэ будучы гімназістам і вельмі многа працаваў над сабой у студэнцкія годы.

Звярнуўшыся з вёскі Кукушкіна ў 1888 годзе, куды быў саслан у 1887 годзе за ўдзел у студэнцкай сходцы, Ленін прыступіў да вывучэння «Капітала» К. Маркса. У Расіі творы Маркса і Энгельса былі тады забароненай літаратурай, якую дастаць было цяжка. Але Ленін атрымліваў іх нелегальна. За некалькі год ён прачытаў усе асноўныя работы класікаў марксізма.

Тэарэтычнай работы Ленін не пакідаў ні ў турме, ні ў ссылцы, ні за граніцай, ні ў эміграцыі. Свой вядомы твор «Развіццё капіталізма ў Расіі» Ленін пачаў падрыхтоўваць, будучы ў турме, а закончыў пісаць у сібірскай ссылцы. Перш, чым напісаць гэту кнігу, Леніну прышлося вывучыць вялікую колькасць розных матэрыялаў аб развіцці і эканоміцы царскай Расіі.

Зараз, калі ЦК ВКП(б) і таварыш Сталін далі такую выдатную навуковую працу, як «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», ёсць усе магчымасці для самастойнага вывучэння класікаў марксізма-ленінізма. Партыйныя і непартыйныя большэвікі, уся наша совецкая інтэлігенцыя павінны скарыстаць вопыт Владзіміра Ільіча работы над кнігай, каб з найбольшым поспехам вывучыць гісторыю нашай слаўнай большэвіцкай партыі, творы Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна.

Вучыцца працаваць над гэтымі важнейшымі дакументамі патрэбна ў нашых правадыроў—Леніна і Сталіна.

З гэтага пункту погляду вялікую цікавасць прадстаўляе брашура Н. К. Крупскай пад загалоўкам «Як Ленін працаваў над Марксам». У гэтай брашуры Крупская расказвае аб тым, як Ленін вывучаў марксізм, каб потым развіваць гэта вучэнне далей, прымяняючы яго на практыцы.

Чытаючы і перачытваючы творы Маркса, Ленін як-бы раіўся з геніяльным асновапаложнікам навуковага комунізма ў вырашэнні найцяжэйшых тэарэтычных і практычных пытанняў новай гістарычнай эпохі. Н. К. Крупская піша:

> «**Ленін дасканала ведаў Маркса.** Калі ён у 1893 г. прыехаў у Піцер, ён здзівіў усіх нас, тагочасных марксістаў, тым, як многа ён ведаў з твораў Маркса і Энгельса.
>
> У 90-я годы, калі пачалі арганізоўвацца марксісцкія гурткі, публіка вывучала галоўным чынам першы том «Капітала». З вялікай цяжкасцю, але ўсё-такі «Капітал» можна было дастаць. Па частцы іншых твораў Маркса справа была зусім дрэнна. Большасць членаў гуртка не чытала нават «Комуністычнага маніфеста». Я чытала напрыклад яго ўпершыню толькі ў 1898 г., ужо ў ссылцы, на нямецкай мове.
>
> Маркс і Энгельс былі пад стражэйшай забаронай...
>
> Владзімір Ільіч ведаў, стараўся раздабыць усё, што мог, з Маркса і Энгельса на нямецкай і французскай мовах... Найбольш важныя, зацікавіўшыя яго месцы з твораў Маркса і Энгельса ён перакладаў для сябе на рускую мову» **).

*) **Д. І. і М. І. Ульянавы**, „Аб Леніне“, стар. 6, Партвыдат 1934.
**) **Н. К. Крупская**, „Як Ленін працаваў над Марксам“, стар. 3—4.

Пры напісанні кнігі «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» Ленін карыстаўся творамі Маркса і Энгельса. У асобных месцах Ленін спасылаецца на «Комуністычны маніфест», на «Нямецкую ідэалогію», на «Убоства філасофіі» і іншыя творы. Таксама Ленін робіць спасылкі на кнігі Энгельса «Анты-Дзюрынг», «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы». У сваёй працы «Эканамічны змест народніцтва і крытыка яго ў кнізе п. Струве» Ленін спасылаецца на такія творы Маркса, як «18 Брумера», «Грамадзянская вайна ва Францыі», «Крытыка Гоцкай праграмы», II і III томы «Капітала».

Ленін часта складаў падрабязны канспект прачытанага. Ён запісваў у свой сшытак важнейшыя палажэнні твору, а іншы раз сваімі словамі перадаваў паасобныя раздзелы. На кожнай старонцы сшытка Ленін заўсёды пакідаў вялікія палі, на якіх рабіў свае заўвагі. Ленін па некалькі раз перачытваў свае канспекты, рабіў новыя заўвагі, параўноўваў іх з новымі данымі, з новымі матэрыяламі. Часта ў сваіх сшытках ён адзначаў: «вярнуцца яшчэ і яшчэ» або проста «вярнуцца».

Звярачаючыся да прачытаных твораў, ён шукаў пацверджання сваіх мыслей, да якіх прыходзіў шляхам складанай самастойнай работы ў выніку прымянення марксісцкага метада ў вывучэнні новай гістарычнай эпохі.

Працуючы над Марксам, Ленін заўсёды, як ён выражаўся, «раіўся» з ім, асабліва тады, калі трэба было вырашыць важнейшыя пытанні рэволюцыйнай барацьбы.

З Марксам раіўся Ленін у перыяд рэволюцыі 1905 года, калі ў барацьбе супроць буржуазіі і яе прыхвасней меншавікоў адстойваў самастойную кіруючую ролю пролетарыята ў рускай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. З Марксам Ленін раіўся ў годы імперыялістычнай вайны, калі высунуў лозунг ператварэння вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую. З Марксам раіўся Ленін і ў 1917 годзе, калі падрыхтоўваў вялікі кастрычніцкі штурм і вёў масы ў бой за дыктатуру пролетарыята.

Аб'ёмісты сшытак Леніна з надпісам «Марксізм аб дзяржаве», пачаты ім у канцы 1916 года, заключае ў сабе выказванні Маркса і Энгельса аб дыктатуры пролетарыята і заўвагі Леніна па гэтаму пытанню. Гэты сшытак з выпіскамі Леніна і з творамі Маркса і Энгельса і паслужыў асновай для напісання геніяльнай кнігі «Дзяржава і рэволюцыя».

Сшытак Леніна «Марксізм аб дзяржаве» дае яркае ўяўленне аб метадах ленінскай работы з кнігай. Чытаючы кнігу, Владзімір Ільіч звычайна запісваў у сшытак яе кароткі змест, вытрымкі, уласныя думкі, што ўзніклі пры чытанні. Іншы раз ён абмяжоўваўся кароткай характарыстыкай кнігі. Асобныя месцы аўтара або свае Ленін падкрэсліваў адзін раз, другія—два і некалькі раз; у адных выпадках—простай рыскай, у другіх—пакручастай, адны слаба, другія моцна і т. д. Адны пытанні аўтара ён заключае ў звычайныя, другія—у фігурныя дужкі.

Часта, каб асоба выдзеліць тое ці іншае месца ў сваім канспекце, Ленін запісваў яго больш буйным почыркам, чым звычайна. Усё гэта рабілася не выпадкова. Гэта дапамагала Владзіміру Ільічу ў далейшым хутка знаходзіць патрэбнае месца пры распрацоўцы таго ці іншага пытання, пры напісанні артыкула або падрыхтоўцы да выступлення.

Характэрнай рысай работы Леніна над кнігай з'яўляецца тое, што ў заключэнні кожнага свайго канспекта ён дае разгледжанаму твору агульную ацэнку і характарыстыку.

Чытаючы кнігу, Ленін імкнецца не ўпусціць ні адной мыслі, ні адной фразы, запісваць усё, каб атрымаць поўнае ўяўленне аб прачытаным.

Н. К. Крупская аб гэтым піша:

«Ленін не пакладаўся на сваю памяць, хоць памяць у яго была выдатная. Ён ніколі не выкладаў фактаў па памяці, «прыблізна», але выкладаў іх з найвялікшай дакладнасцю. Ён праглядаў горы матэрыялу (чытаў, як і пісаў, надзвычай хутка), але тое, што хацеў запомніць, выпісваў сабе ў сшыткі. У яго сшытках захавалася маса выпісак. Неяк, праглядаючы маю брашурку «Арганізацыя самаадукацыі», ён сказаў, што я не права, калі гавару, што трэба запісваць толькі самае неабходнае—у яго іншы вопыт. Запісанае ён потым перачытваў не раз, аб чым сведчаць паметкі, падкрэсліванні і інш.» *).

Уладзімір Ільіч, уважліва чытаючы той ці іншы твор, умеў вельмі чотка, каротка і ясна сфармуляваць у канспекце галоўнае з прачытанага. Вывучаючы твор Маркса «Грамадзянская вайна ва Францыі», Ленін падрабязна запісвае ў свой сшытак усе прызнакі Парыжскай комуны, як новага тыпу дзяржавы, як дзяржавы пралетарскай.

Робячы агульны вывад, Ленін адзначае:

«Асноўная ідэя Маркса: заваёва **палітычнай улады** пралетарыятам **не** ёсць аўладанне «гатовай» дзяржаўнай машынай, **а** (1) «разбіццё», разбурэнне яе і **замена новай.** Якой-жа новай?

Маркс вывучае **вопыт** Комуны, ён не сачыняе гэтай «новай» улады, а вывучае, **як** самі рэволюцыі **«адкрываюць», («урэшце адкрываюць»,** стар. 49, выд. 3) яе, як сам рабочы рух **падыходзіць** да гэтай задачы, як **практыка** пачынае вырашаць яе» **).

Выпісаўшы па-нямецку выказванне Маркса аб тым, што Комуна «была па сутнасці справы ўрадам рабочага класа», Ленін падкрэсліў гэта месца двума рысамі, а на палях сшытка напісаў па-руску: «комуна=**урад рабочага класа»** ***), двойчы падкрэсліўшы апошнія тры словы.

На палях сваіх сшыткаў Ленін рабіў розныя паметкі, як, напрыклад, улюбёнае ім „Nota bene" (заўваж добра), «добра», «вельмі добра», «выдатна», «вельмі важна», «вельмі верна», «астраумна», «метка» і т. д.

Канспектуючы сачыненні апартуністаў, Ленін робіць рэзкія крытычныя заўвагі, якія паказваюць усю нізасць і подласць здраднікаў інтарэсаў рабочага класа. Разбіраючы твор Каўцкага, які раіць рабочым кіравацца апошнім творам Энгельса—яго палітычным завяшчаннем, быццам-бы выключаючым рэволюцыйныя вынікі, Ленін піша на палях па адрасу Каўцкага: «жулік і падлец!! Самі падрабілі завяшчанне» ****).

---

*) Н. К. Крупская, „Будзем вучыцца працаваць у Леніна", стар. 10.
**) В. І. Ленін, „Марксізм аб дзяржаве", стар. 58.
***) Ленінскі зборнік, т. XIV, стар. 305.
****) Там-жа, стар. 375.

У заключных словах свайго канспекта аб творы Маркса «Грамадзянская вайна ва Францыі» Ленін адлюстраваў вопыт рускай рэвалюцыі 1905—1907 годаў, калі былі створаны Советы рабочых дэпутатаў, як новая форма рэволюцыйнай улады.

> «Можна, бадай, каротка, драстычна (рэзка, моцна.—*К)* выразіць усю справу так: **замена** старой («гатовай») дзяржаўнай машыны **і парламентаў с о в е т а м і рабочых д э п у т а т а ў і і х** даверанымі асобамі. У гэтым сутнасць!! А не-рабочае насельніцтва? Хто не працуе, той не павінен есці (а не то, што дзяржавай кіраваць)!!» *).

Падкрэсліўшы некалькі раз гэтыя словы прамымі і пакручастымі рыскамі, Ленін на палях напісаў „Nota bene“.

Рабочыя сшыткі Леніна маюць для нас вельмі важнае значэнне, бо змяшчаюць у сабе яго асноўныя выказванні па розных пытаннях рэволюцыйнай тэорыі марксізма-ленінізма.

Ленін не толькі чытаў Маркса і Энгельса, але ўсё тое, што пісалі аб Марксе яго праціўнікі, буржуазныя крытыкі, апартуністы і рэфармісты, якія лічылі сябе паслядоўцамі Маркса, а на справе апашлялі і скажалі марксізм, выхалашчвалі рэволюцыйную сутнасць яго. Ленін вёў бязлітасную барацьбу з вульгарызатарамі марксізма, адстойваючы яго чыстату і рэволюцыйнасць.

Ленін заклікаў глыбока вывучаць геніяльныя творы Маркса і Энгельса і вучыў, як трэба працаваць, каб ведаць класікаў марксізма. Аб кнізе Энгельса «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы» Ленін пісаў:

> «Няма сумнення, што ў гэтым творы не ўсе часткі аднолькава даступна, зразумела выкладзены, некаторыя мяркуюць чытача, які ўладае ўжо пэўнымі гістарычнымі і эканамічнымі пазнаннямі. Але зноў скажу: не след бянтэжыцца, калі гэты твор па прачытанні не будзе зразуметы адразу. Гэтага ніколі амаль не бывае ні з адным чалавекам. Але, звярачаючыся да яго потым, калі інтарэс прабудзіцца, вы даб'ецеся таго, што будзеце разумець яго ў пераважаючай частцы, калі не ўвесь цалкам» **).

Ленінскаму ўменню працаваць з кнігай павінны вучыцца ў першую чаргу нашы кадры, партыйныя і непартыйныя большэвікі, наша савецкая інтэлігенцыя, усе працоўныя нашай краіны, якія самастойна вывучаюць «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» і творы Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна.

Толькі карыстаючыся ленінскім метадам, пры яго энергіі і настойлівасці можна дасканала вывучыць энцыклапедыю асноўных тэарэтычных ведаў марксізма-ленінізма. Вучыцца працаваць над кнігай так, як працаваў Ленін, як працуе таварыш Сталін,—ганаровы абавязак кожнага большэвіка, усёй нашай совецкай інтэлігенцыі.

---

*) Ленінскі зборнік, т. XIV, стар. 315.
**) **В. І. Ленін**, т. XXIV, стар. 364—365.

В. Кудраеў

# За большэвіцкае ажыццяўленне рашэнняў студзеньскага (1938 года) пленума ЦК ВКП(б)

Прайшоў год з дня апублікавання пастановы студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) «Аб памылках партарганізацый пры выключэнні комуністаў з партыі, аб фармальна-бюракратычных адносінах да апеляцый выключаных з ВКП(б) і аб мерах па ўстараненню гэтых недахопаў».

Студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) з большэвіцкай рэзкасцю і праматой ускрыў сур'ёзныя памылкі і грубыя скажэнні, якія мелі месца ў паасобных партарганізацыях пры выключэнні комуністаў з партыі, і намеціў большэвіцкія шляхі для выпраўлення гэтых грубых памылак і скажэнняў, для знішчэння гэтых недахопаў.

Рашэнні пленума ЦК ВКП(б) з'явіліся для ўсёй партыі баявой большэвіцкай праграмай, вострай і магутнай зброяй у бязлітаснай барацьбе супроць заклятых ворагаў народа.

Рашэнні студзеньскага пленума ЦК ВКП(б)—гэта яркі ўзор сталінскіх клопатаў аб чалавеку, узор спалучэння большэвіцкай пільнасці з праяўленнем сталінскай чуласці да лёсу членаў партыі.

У сваіх рашэннях пленум ЦК ВКП(б) абавязаў усе партыйныя арганізацыі рашуча скончыць з агульным выключэннем з партыі, аднавіць у партыі зганьбаваных чэсных комуністаў, адданых справе партыі Леніна—Сталіна, устанавіць строга індывідуальны дыферэнцыяваны падыход пры вырашэнні лёсу кожнага комуніста.

Студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) узброіў партарганізацыі на далейшае ўмацаванне непахісных ленінска-сталінскіх прынцыпаў большэвізма, на далейшае выкарчоўванне і знішчэнне трацкісцка-бухарынскіх буржуазна-нацыяналістычных здраднікаў радзімы, прэзрэнных наймітаў агалцелага фашызма. Студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) завастрыў увагу партыі на неабходнасць узмацнення рэволюцыйнай пільнасці і ліквідацыі ідыёцкай хваробы—палітычнай слепаты і бесклапотнасці. Пленум дапамог партарганізацыям у выкрыцці і выкарчоўванні... **«майстэрскі замаскаванага ворага, які стараецца крыкамі аб пільнасці замаскаваць сваю варожасць і захавацца ў радах партыі—гэта па-першае,—і, па-другое, які імкнецца шляхам правядзення мер рэпрэсій—перабіць нашы большэвіцкія кадры, пасеяць няўпэўненасць і залішнюю падазронасць у нашых радах».**

Мільёны партыйных і непартыйных большэвікоў, узброіўшыся сталінскімі ўказаннямі, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) павялі бязлі-

тасную барацьбу за ачышчэнне радоў партыі, за выкрыццё і знішчэнне трацкісцка-бухарынскіх агентаў фашызма.

Узброіўшыся ўказаннямі вялікага Сталіна і рашэннямі студзеньскага пленума ЦК ВКП(б), большэвікі Беларусі за мінулы год правялі вялікую работу па выпраўленню памылак, дапушчаных пры выключэнні комуністаў з партыі.

Сутнасць памылак і скажэнняў перш за ўсё заключалася ў тым, што многія партарганізацыі забылі ленінска-сталінскі прынцып індывідуальнага падыходу пры ацэнцы членаў партыі і партыйных работнікаў. Таварыш Сталін на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК ВКП(б) гаварыў:

> «... Некаторыя нашы партыйныя кіраўнікі хварэюць адсутнасцю ўвагі да людзей, да членаў партыі, да работнікаў. Больш таго, яны не вывучаюць членаў партыі, не ведаюць, чым яны жывуць і як яны растуць, не ведаюць наогул работнікаў. Таму ў іх няма індывідуальнага падыходу да членаў партыі, да работнікаў партыі. І іменна таму, што ў іх няма індывідуальнага падыходу пры ацэнцы членаў партыі і партыйных работнікаў, яны звычайна дзейнічаюць наабум: або хваляць іх агулам, без меры, або збіваюць іх таксама агулам і без меры, выключаюць з партыі тысячамі і дзесяткамі тысяч».

Таварыш Сталін неаднакроць папярэджваў супроць такіх адносін да членаў партыі. Пленум ЦК ВКП(б) рэзка асудзіў бяздушна-бюракратычныя адносіны да лёсу паасобных комуністаў, да пытання аб выключэнні з партыі. Таварыш Сталін вучыць нас, што самым каштоўным капіталам з'яўляюцца жывыя людзі, тыя верныя справе соцыялізма кадры, якія партыя, як клапатлівы садоўнік, штодзенна вырошчвае і выхоўвае.

Выкрытыя і знішчаныя прэзрэнныя агенты польскага і германскага фашызма, якія абманным шляхам прабраліся да кіраўніцтва ў ЦК КП(б)Б і ў рад партарганізацый Беларусі, злосна і знарок ставілі пад палітычнае сумненне і ганьбілі многія сотні чэсных і адданых справе партыі комуністаў, выключалі з партыі вялікую колькасць членаў КП(б)Б за «пасіўнасць», палітычную непісьменнасць і розныя малазначныя праступкі. Так, па Кагановіцкаму раёну (Менск) было выключана за пасіўнасць 176 чал., за малазначныя праступкі 130, а ўсяго па гэтых матывах па Кагановіцкаму раёну было выключана каля 40 проц. ад усіх выключаных членаў і кандыдатаў партыі. Толькі па Менскай гарадской партарганізацыі за пасіўнасць і малазначныя праступкі выключана было каля 700 чалавек.

Тав. Чудакова (Віцебск) пры праверцы партдакументаў была выключана з партыі «за палітычную непісьменнасць, адрыў ад партыйнага жыцця і нежаданне працаваць над павышэннем палітычнага ўзроўню». У сапраўднасці аказалася, што тав. Чудакова скончыла курсы прапагандыстаў, была прэміравана за добрую вучобу, з'яўляецца стаханаўкай, маючы 23-гадовы вытворчы стаж. Тав. Чудакова актыўна ўдзельнічае ў грамадска-палітычнай рабоце, паказала сябе добрым арганізатарам і прымала актыўны ўдзел у час правядзення выбараў у Вярхоўныя Советы СССР і БССР. Рашэннем ЦК КП(б)Б тав. Чудакова ў правах члена партыі аднаўлена.

У Горацкім раёне быў выключан з радоў КП(б)Б старшыня калгаса Кіселёў за «палітычную непісьменнасць». Гэта абвінавачанне

аказалася нічым не абгрунтаваным. Тав. Кіселёў у партыі адноўлен і ў сучасны момант вылучан на работу старшыні сельсовета. У Талачынскім раёне быў выключан з партыі старшыня калгаса тав. Чукасаў нібыта за растрату 56 рублёў і безгаспадарчасць. Гэта абвінавачанне аказалася няправільным, Чукасаў у партыі адноўлен.

Такія факты мелі месца і ў радзе іншых партарганізацый КП(б)Б.

Праводзячы неаслабную работу па выкарчоўванню і знішчэнню ворагаў, партыя і працоўныя масы высунулі на кіруючую работу тысячы і дзесяткі тысяч новых, узросшых ва ўпартай барацьбе з ворагамі народа, беззаветна адданых справе Леніна—Сталіна людзей. Да кіраўніцтва партарганізацыямі прышлі многія сотні стойкіх і самаадданых барацьбітоў за комунізм.

Рашэнні студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) дапамаглі партарганізацыям выправіць грубейшыя памылкі і скажэнні, дапушчаныя пры выключэнні комуністаў з партыі. Пленум ЦК ВКП(б) з усёй сілай напомніў гістарычнае ўказанне таварыша Сталіна аб тым, што «партыя стала для члена партыі вельмі вялікай і сур'ёзнай справай і членства ў партыі або выключэнне з партыі—гэта вялікі пералом у жыцці чалавека».

У выніку рэалізацыі рашэнняў студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) і выпраўлення грубейшых памылак, у рады КП(б)Б былі звернуты, як поўнапраўныя члены сваёй партарганізацыі, тысячы чэсных і адданых справе партыі комуністаў. Ужо к канцу кастрычніка 1938 года звыш 3.000 чалавек былі адноўлены ў правах членаў і кандыдатаў і звярнуліся ў сваю родную партыю. Так, напрыклад, Сталінскі райком партыі за перыяд студзень—лістапад 1938 года толькі ў парадку перагляду сваіх рашэнняў аднавіў у партыі 40 чалавек. Многія з адноўленых прыцягнуты да актыўнай партыйна-палітычнай работы і паспяхова выконваюць даручэнні: з'яўляюцца прапагандыстамі, агітатарамі, консультантамі і т. д.

Аднак, праведзеная партарганізацыямі вялікая работа па выкананню рашэнняў студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) ні ў якім разе не павінна зніжаць сур'ёзнасць памылак, дапушчаных многімі партарганізацыямі пасля пастановы ЦК ВКП(б). Ёсць факты праяўлення маруднасці пры разглядзе апеляцый выключаных з партыі. У Менскім абкоме на 1 лістапада 1938 года было не разгледжана 34 апеляцыі, на 1 снежня колькасць апеляцый павялічылася да 47. У лістападзе паступіла 20 апеляцый, аднак абком разгледзеў за месяц усяго 7. Палескі абком пры наяўнасці на 1 лістапада 25 апеляцый, да якіх за лістапад месяц прыбавілася яшчэ 18, разгледзеў у лістападзе ўсяго адну апеляцыю. Такім чынам, толькі па абкомах, не лічачы райкомаў, на 1 снежня былі не разгледжаны 204 апеляцыі выключаных з партыі.

Ужо і пасля студзеньскага (1938 г.) пленума ЦК ВКП(б) і нават за апошнія месяцы мелі месца выпадкі фармальных, безадказных адносін да лёсу комуністаў. У выніку гэтага дапускалася выключэнне з партыі чэсных комуністаў. Такія факты мелі месца ў Гомелі, Оршы, па Варашылаўскаму раёну (Менск) і іншых раёнах. Па Варашылаўскаму раёну з ліку выключаных у 1938 годзе адноўлена ў партыі 7 чалавек.

Аднак трэба адзначыць наяўнасць фактаў, калі паасобныя партарганізацыі кідаліся і ў другую крайнасць—аднаўлялі ў партыі людзей чуждых, выклікаючых палітычнае недавер'е і прама варо-

жых справе Леніна—Сталіна, з цягам часу выкрытых органамі НКВД як ворагі народа.

Сталінскі гарком аднавіў у радах партыі нейкага А., які праз некаторы час быў выкрыт і арыштован органамі НКВД.

Гомельскі гарком партыі аднавіў нейкага С., які захаваў ад партыі сур'ёзныя факты, што кампраметуюць яго і выклікаюць да яго палітычнае недавер'е. Натуральна, што ЦК КП(б)Б, разглядаючы справу С., адмяніў рашэнне Гомельскага гаркома.

Аршанскі райком партыі ў чэрвені месяцы аднаўляе ў партыі нейкага Б. Пры разглядзе справы ў ЦК КП(б)Б выяснілася, што гэты чалавек маральна разлажыўся і нічога агульнага з партыяй не мае. ЦК КП(б)Б адмяніў рашэнне Аршанскага райкома і пацвердзіў выключэнне Б. з партыі.

Усе гэтыя, як і рад іншых фактаў маглі мець месца толькі таму, што паасобныя партарганізацыі аднесліся да разгляду апеляцый непрадумана, забылі неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна аб усямерным павышэнні бальшэвіцкай пільнасці.

Гэта сведчыць таксама і аб тым, што камуністы раду партарганізацый яшчэ, на жаль, не ўмеюць распазнаваць замаскаваных ворагаў, якія прабраліся ў бальшэвіцкія рады для бруднай, здрадніцкай работы.

Студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) патрабаваў ад усіх партарганізацый і іх кіраўнікоў «усямернага павышэння бальшэвіцкай пільнасці партыйных мас, выкрыцця і выкарчоўвання да канца ўсіх вольных і нявольных ворагаў партыі».

Гэтыя сталінскія ўказанні студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) мы павінны цвёрда памятаць і безагаворачна выконваць, мабілізуючы камуністаў на канчатковае выкарчоўванне і поўнае знішчэнне ворагаў народа, здраднікаў нашай соцыялістычнай радзімы—трацкісцка-бухарынскіх, буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма і іх пасобнікаў.

* * *

Буйным недахопам у асобных партарганізацыях з'яўляецца ўсё яшчэ нясвоечасовая выдача партдакументаў адноўленым у партыі. У беларускай партарганізацыі на 1 снежня яшчэ не атрымалі партдакументаў звыш 600 чалавек, адноўленых у радах партыі. У тым ліку па Гомельскай вобласці не атрымала партдакументаў 178 чал., па Магілеўскай—154, па Віцебскай—147 і т. д. Пленум ЦК ВКП(б) абавязаў партарганізацыі безадкладна выдаваць партдакументы адноўленым у партыі, прыцягваць іх да ўдзелу ў партыйнай рабоце і растлумачваць усім пярвічным партарганізацыям і ўсім членам партыі, што яны адказваюць за бальшэвіцкае выхаванне адноўленых у радах ВКП(б).

Да ліку памылак, дапушчаных партарганізацыямі пры выключэнні камуністаў з партыі, адносяцца і выпадкі, калі выключаныя з партыі зніма́ліся з займаемай імі пасады, прычым другая работа ім не прадастаўлялася. Так было ў Менску, Бабруйску, Гомелі і іншых гарадах і раёнах БССР. Партарганізацыі павінны самым рашучым чынам пресякаць усякія спробы парушыць указанні пленума ЦК ВКП(б) аб забароне тэрмінова знімаць з займаемай пасады выключаных з ВКП(б). Трэба памятаць указанні пленума ЦК ВКП(б), што ва ўсіх выпадках, калі аказваецца неабходным аслабаніць работніка ад зай-

маемай пасады ў сувязі з выключэннем яго з партыі, рабіць гэта магчыма толькі пасля прадастаўлення яму другой работы.

Рашэнні пленума ЦК ВКП(б) нанеслі руйнуючы ўдар па вольных і нявольных пасобніках ворагаў народа—паклёпніках і кар'ерыстах, якія імкнуцца шляхам паказной пільнасці і паклёпніцкіх заяў апарочыць чэсных комуністаў і дабіцца выключэння іх з радоў партыі. Многія з такіх паклёпнікаў-кар'ерыстаў былі выкрыты і прыцягнуты да суровай адказнасці. Работнік рэдакцыі газеты «Звязда» Петроўская Т. пісала многа паклёпніцкіх заяў на членаў партыі, падпісвала гэтыя заявы прозвішчамі комуністаў іншых партарганізацый. Выкрыўшы антыпартыйную агідную работу Петроўскай, Варашылаўскі райком выключыў яе з радоў партыі. Былы начальнік палітаддзела соўгаса імя Свердлова Парфенаў доўгі час фабрыкаваў ілжывыя заявы, правакаваў і прымушаў падаваць паклёпніцкія «матэрыялы», ствараў у соўгасе абстаноўку недавер'я і інш. ЦК КП(б)Б выкрыў Парфенава, як паклёпніка і перастрахоўшчыка, і выключыў яго з партыі.

Не мала, вядома, было выпадкаў, калі паасобныя партарганізацыі, добра не разабраўшыся, прымалі «матэрыял», што прыпадносіўся ім, як бясспрэчны, і дапускалі грубыя памылкі, выключаючы з партыі адданых комуністаў на падставе паклёпніцкіх, ілжывых заяў. Указанні пленума ЦК ВКП(б) аб прыцягненні да адказнасці асоб, вінаватых у паклёпе на членаў партыі, павінны строга выконвацца. Пры ўсякай спробе праявіць з боку каго-б там ні было паказную пільнасць, апарочыць і абвінаваціць чэсных і адданых справе Леніна—Сталіна членаў партыі неабходна выкрываць такіх людзей і кляймiць іх як кар'ерыстаў і паклёпнікаў.

Значэнне рашэнняў студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) велізарна. З'яўляючыся ўзорам большэвіцкай самакрытыкі, узорам бязлітаснага ўскрыцця памылак і рашучага іх выпраўлення, пастанова пленума ЦК ВКП(б) вучыць партарганізацыі сталінскай чуласці і клопатам аб чалавеку.

Рашэнні пленума ЦК ВКП(б), якія выцякаюць з мудрых указанняў вялікага Сталіна, далі партыі цэлы рад чоткіх, канкрэтных мерапрыемстваў па выпраўленню дапушчаных памылак і ліквідацыі шкодніцтва ў партыйнай рабоце. Рашэнні пленума ЦК ВКП(б) мабілізавалі ўсю партыю і кожнага партыйнага і непартыйнага большэвіка на ўмацаванне барацьбы з ворагамі народа, двурушнікамі, правакатарамі, паклёпнікамі, дапамаглі партарганізацыям прарабіць вялікую работу па выкрыццю, выкарчоўванню і знішчэнню заклятых ворагаў народа.

Аднак, было-б небяспечным і шкодным хоць-бы ў малейшай меры супакоіцца на выніках праведзенай работы. Пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў кастрычніку 1938 года, абмеркаваў пытанне аб рэалізацыі рашэнняў студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) і адзначыў, што партарганізацыі дапусцілі рад буйных недахопаў. Пленум ЦК КП(б)Б абавязаў партарганізацыі прыняць усе меры, каб у найкарацейшы тэрмін поўнасцю выканаць рашэнні студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) і рашуча ліквідаваць памылкі і недахопы, дапушчаныя партарганізацыямі. А такіх недахопаў і памылак, выпадкаў прытуплення рэволюцыйнай пільнасці яшчэ не мала.

У сваёй нянавісці да соцыялізма вораг заўсёды імкнецца выкарыстаць праявы палітычнай бесклапотнасці. Ні на мінуту нельга забываць указанняў таварыша Сталіна:

«... Пакуль ёсць капіталістычнае акружэнне,—будуць і шкод-

нікі, дыверсанты, шпіёны, тэрарысты, засылаемыя ў тылы Совецкага Саюза разведвальнымі органамі замежных дзяржаў, памятаць аб гэтым і весці барацьбу з тымі таварышамі, якія недаацэньваюць значэння факта капіталістычнага акружэння, якія недаацэньваюць сілы і значэння шкодніцтва».

Рашэнні студзеньскага пленума ЦК ВКП(б)—баявая праграма дзеянняў для ўсёй нашай партыі, для ўсіх яе арганізацый, для кожнага партыйнага і непартыйнага большэвіка ў далейшай бязлітаснай барацьбе з ворагамі народа, пры ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў партыйнай рабоце, пры выпраўленні дапушчаных памылак і скажэнняў.

Поўнасцю выканаць рашэнні студзеньскага пленума ЦК ВКП(б)—значыць да канца разграміць і знішчыць подлых ворагаў народа, яшчэ больш павысіць рэволюцыйную пільнасць і назаўсёды пакончыць з фармальна-бюракратычнымі, агульнымі адносінамі да членаў партыі.

Поўнасцю выканаць рашэнні студзеньскага пленума ЦК ВКП(б)—значыць стварыць такую абстаноўку, пры якой нямысліма было-б малейшае паўтарэнне памылак і скажэнняў.

Поўнасцю выканаць рашэнні пленума—значыць яшчэ вышэй узняць ідэалагічны ўзровень і палітычную загартаванасць партыйных і непартыйных большэвікоў, як гэтаму штодзенна вучыць нас наш вялікі правадыр і настаўнік—таварыш Сталін.

---

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## Рэвалюцыйны рух на Беларусі ў студзеньскія дні 1905 года

У снежні 1904 года пад кіраўніцтвам Батумскага камітэта на чале з таварышом Сталіным была праведзена стачка бакінскіх пралетарыяў. Стачка скончылася перамогай рабочых. Упершыню ў гісторыі рабочага руху быў заключан калектыўны дагавор паміж рабочымі і нафтапрамыслоўцамі. «Гэтая стачка была як-бы пераднавальнічнай маланкай напярэдадні вялікай рэвалюцыйнай буры» *).

Не паспеў «надзейна» заціхнуць рух у Бакінскім раёне, яшчэ не астыла кроў рабочых, пралітая імі ў сутычках з казакамі ў Балхана-Сабучынскім раёне, на промыслах Махтурава, на Бібі-Эйбате, як пачалася ўсеагульная забастоўка ў Пецербургу.

3 студзеня на Пуцілаўцы забаставала звыш 12 тысяч чалавек. 4 студзеня забаставаў франка-рускі механічны завод, 5-га—Неўская і Екацерынгофская мануфактура, Неўскі механічны і суднабудаўнічы заводы. К 8 студзеня колькасць стачачнікаў у Пецербургу, паводле даных ахраннага аддзялення, пераваліла за 100 тысяч. Рух разрастаўся ў грозную сілу і захапіў самыя шырокія колы рабочых. Велізарная маса ўцягнутых у рух рабочых не ўдзельнічала да гэтага часу ў палітычнай барацьбе, наіўна і слепа верыла ў «цара-бацюшку» і ў яго спрабавала шукаць аблягчэння, абвінавачваючы «ва ўсіх бясчынствах, гвалтах, самавольстве і рабунку **толькі** абманваючых цара чыноўнікаў» **).

> «Несвядомыя рабочыя дарэвалюцыйнай Расіі не ведалі, што цар з'яўляецца главой **пануючага класа,** іменна класа буйных землеўладальнікаў, якія ўжо тысяччу ніцяй звязаны з буйнай буржуазіяй і гатовы абараняць усімі сродкамі гвалту сваю манаполію, прывілеі і барышы» ***).

Раніцай 9 студзеня тысячы рабочых з харугвамі і абразамі рушылі к цару шукаць абароны і дапамогі. Дэманстрантаў вёў поп Гапон, які ўзяўся дапамагчы царскай ахранцы выклікаць расстрэл рабочых, каб у крыві патапіць рабочы рух.

> «Большэвікі перасцерагалі, што ў рабочых будуць страляць. Але спыніць працэсію да Зімняга палаца яны не змаглі. Значная частка рабочых яшчэ верыла, што цар ім дапаможа. Рух з велізарнай сілай захваціў масы» ****).

---

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 54.
**) В. І. Ленін, т. VII, стар. 89.
***) В. І. Ленін, т. XIX, стар. 344.
****) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 55.

Наіўная сляпая вера ў «цара-бацюшку» рухала 140-тысячную масу на чале з Гапонам да Зімняга палаца. Сярод гэтай масы рабочых было, бясспрэчна, некалькі тысяч перадавых пралетарыяў, якія зусім свядома парвалі з гэтай верай, добра разумеючы, што дабіцца палегчання жыцця працоўных і знішчыць эксплаатацыю магчыма толькі са зброяй у руках. Але гэтыя некалькі тысяч танулі ў агульнай масе яшчэ не паспеўшых парваць з верай у цара, якую ўмацоўвалі «доўгія пакаленні забітага, здзічэлага, закінутага ў мядзвежых кутках мужыцкага жыцця» *).

Мірна ішоўшых рабочых салдаты па загаду цара расстрэльвалі ва ўпор, казакі і конная жандармерыя душылі іх конскімі капытамі, рубілі шаблямі. Лужы крыві, больш тысячы забітых, больш двух тысяч раненых. Так сустрэў «цар-бацюшка» рабочых Пецербурга, якія мірна ішлі да яго за дапамогай.

«Гэта было самае подлае, хладнакроўнае забойства безабаронных і мірных народных мас» **).

У той-жа час гэта быў паваротны пункт у гісторыі Расіі. Падзеі 9(22) студзеня 1905 года з'явіліся пачаткам рэвалюцыйнай буры ў Расіі.

«Дзень 9 студзеня стаў называцца «Крывавай нядзеляй». 9 студзеня рабочыя атрымалі крывавы ўрок. У гэты дзень была расстраляна вера рабочых у цара. Яны зразумелі, што толькі барацьбой можна дабіцца сваіх правоў» ***).

У гэты-ж дзень сотні тысяч рабочых, якія раніцай беражліва трымалі харугвы, абразы, партрэты цара і ўмільна цягнулі «божа, цара храні»,—к вечару хапіліся за каменне, за зброю, валілі тэлеграфныя слупы для пабудовы барыкад і крычалі: «Далоў самадзяржаўе!»

Тысячамі забітых і раненых заплаціў расійскі пралетарыят за сваю наіўную веру ў цара. Але гэтыя афяры не прапалі дарма.

«Рабочы клас атрымаў вялікі ўрок грамадзянскай вайны; рэвалюцыйнае выхаванне пралетарыята за адзін дзень шагнула ўперад так, як яно не магло-б шагнуць у месяцы і годы шэрага, буднічнага, забітага жыцця. Лозунг геройскага пецербургскага пралетарыята: «смерць ці свабода!» рэхам перакатваецца цяпер па ўсёй Расіі» ****).

Крывавыя падзеі ў Пецербургу ўскалыхнулі ўсю краіну. Магутнаю хваляй забастовак салідарнасці, пратэстаў і дэманстрацый адказаў расійскі пралетарыят на крывавыя падзеі 9 студзеня.

«У Маскве,—пісаў Ленін,—10.000 чалавек ужо кінула работу. На заўтра (чацвер 26(13) студзеня) прызначана ўсеагульная стачка ў Маскве. Успыхнуў мяцеж у Рызе. Маніфестуюць рабочыя ў Лодзі, рыхтуецца паўстанне Варшавы, адбываюцца дэманстрацыі пралетарыята ў Гельсінгфорсе. У Баку, Одэсе, Кіеве, Харкаве, Коўне і Вільні расце бражэнне рабочых і шырыцца забастоўка» *****).

---

*) **В. І. Ленін**, т. VII, стар. 89.
**) Там-жа, стар. 87.
***) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)“, стар. 55—56.
****) **В. І. Ленін**, т. VII, стар. 79.
*****) Там-жа стар. 80.

За пролетарскімі цэнтрамі пацягнуліся ўскраіны: паўсталі спрадвеку прыгнечаныя, галодныя і абяздоленыя масы самадзяржаўнай Расіі. Яны рабілі першую спробу парваць ланцугі няволі, жабрацтва, голаду.

У Беларусі на баявы заклік піцерскіх рабочых першымі адгукнуліся прамысловыя цэнтры: Менск, Гомель, Віцебск, Смаргонь і інш., дзе былі найбольш моцныя бальшэвіцкія групы і арганізацыі.

Вестка аб крывавых падзеях у Пецербургу дайшла да Беларусі 11—12 студзеня. Але ўжо 9 студзеня гомельскія чыгуначнікі па закліку Палескага камітэта РСДРП пастанавілі аб'явіць забастоўку салідарнасці з бастуючымі рабочымі Піцера. Правакацыя і масавыя арышты сарвалі забастоўку. 14—15 студзеня, як толькі Гомель атрымаў вестку аб крывавых падзеях у Пецербургу, Палескі камітэт заклікаў гомельскі пролетарыят да забастоўкі пратэсту. У 2.500 экземплярах была выпушчана лістоўка «Пачалося» з заклікам да забастоўкі. 16 студзеня пачалася забастоўка, якая хутка ахапіла амаль усе прадпрыемствы і ўстановы горада, нават прыватных настаўнікаў і хатніх работніц (бастравала звыш 150 хатніх работніц).

Рэволюцыйны ўздым мас нарастаў з кожнай гадзінай. Ужо 16 студзеня бастуючыя адбілі ў канваіраў некалькі арыштаваных рабочых. «Кожную хвіліну чакаю вялікіх непарадкаў»—тэлеграфаваў з Гомеля ротмістр паліцыі Шэбека шэфу жандараў у 16 гадзін 18 мінут 16 студзеня. Мясцовыя ўлады Гомеля прыцягнулі ў дапамогу паліцыі для барацьбы з бастуючымі гомельскі гарнізон—салдат і казакаў. 18 студзеня атрад паліцыі разам з салдатамі напаў на сход рабочых у 300—400 чалавек. Адбылася сутычка, у выніку якой была забіта 18-гадовая работніца Дворкіна і чацвёра ранены, з іх двое—смяртэльна. У адказ на зверскія расправы паліцыі з рабочымі забастоўка ўзмацнілася і пратрымалася яшчэ некалькі дзён. Але сілы былі няроўны. 25 студзеня магілеўскі губернатар на запытанне дырэктара дэпартамента паліцыі Лапухіна «Ці дастаткова ў Гомелі войска» хвастаўліва паведаміў, што «у Гомелі войска дастаткова, стаяць казакі» і што ў горадзе ўсё ўжо спакойна.

12 студзеня па закліку Менскай групы РСДРП у Менску забаставала 2.000 чалавек. Забастоўка разрасталася, але ва ўсеагульную не перарасла. Сарвалі яе бундаўскія арганізацыі Менска. Рабочыя, якія ішлі за Бундам, не толькі самі не баставалі, але стараліся ўтрымаць ад забастоўкі і другіх. Калі-ж на радзе прадпрыемстваў, наперакор Бунду, забастоўка пачалася, то кіраўнікі Бунда пад напорам мас таксама рашылі аб'явіць забастоўку. Але было позна. Мясцовыя ўлады прынялі ўжо ўсе меры, каб не дапусціць усеагульнай забастоўкі. Чыгуначнае дэпо, буйнейшыя прадпрыемствы Менска былі ачэплены паліцыяй і салдатамі.

У гэты-ж дзень, 12 студзеня, пачалася забастоўка ў Віцебску і Магілеве. Бальшэвіцкі настроеныя члены соцыял-дэмакратычных арганізацый Віцебска вядуць сярод рабочых вялікую агітацыйную работу па арганізацыі забастоўкі. У раёне Маркаўшчыны была арыштавана ўраднікам адна з агітатарш, але падаспеўшыя рабочыя сілай адбілі яе. Каб не дапусціць мітынгаў і дэманстрацый, мясцовыя ўлады нападнілі горад войскам. Але дэманстрацыя ўсё-ж адбылася.

«Злоба і нянавісць да ўрада пранікла нават да самых адсталых рабочых»—паведамляў з Магілева карэспандэнт бальшэвіцкай газеты «Вперед» (№ 7 за 1905 год).—Да забаставаўшых 12 студзеня рабочых далучыліся фармацэўты. Чакаецца днямі ўсеагульная забастоўка. Паліцыя ўстрывожана, горад рыхтуецца да бою, на вуліцах рас-

хаджваюць ваенныя патрулі. Салдаты размешчаны ў дварах казённых будынкаў, ім разданы баявыя патроны.

Праз некалькі дзён паведамленне пацвярджаецца. 20 студзеня ў Магілеве пачалася ўсеагульная забастоўка пратэсту. У першыя-ж дні забаставала звыш 1.000 чалавек. 23 студзеня групай РСДРП праведзена палітычная дэманстрацыя, у якой акрамя рабочых прынялі ўдзел многа навучаючыхся. Паліцыя спрабавала разагнаць дэманстрацыю і пусціла ў ход агнястрэльную зброю. Было ранена многа дэманстрантаў.

У перыяд 12—25 студзеня хваля забастовак і дэманстрацый пратэсту ахапіла амаль усе гарады Беларусі і значную колькасць мястэчак. Паводле даных дэпартамента паліцыі, студзеньская хваля стачак, дэманстрацый і мітынгаў пратэсту захапіла Вільню, Менск, Гомель, Магілеў, Віцебск, Барысаў, Смаргонь, Полацк, Шклоў, Бабруйск, Парычы, Талачын, Мозыр, Копыль, Дуброўну, Рагачоў, Гродну, Крынкі, Ашмяны, Беласток і рад іншых гарадоў і мястэчак.

Рэвалюцыйная хваля пратэсту супроць крывавых падзей у Пецербургу хутка разрасталася, ахапляючы ўсё новыя гарады і мястэчкі Беларусі, уцягваючы ў сваю арбіту новыя пласты рабочых, інтэлігенцыі і дробнабуржуазныя дэмакратычныя колы.

> «Пролетарскі рух,—пісаў Ленін,—усё шырыцца, раскінуўшыся цяпер па самых далёкіх ускраінах. Бражэнне і нездаволенасць ахапляе самыя разнастайныя і самыя адсталыя слаі грамадства» *).

Большасць забастовак на Беларусі ўзнікла ў знак пратэсту супроць крывавых падзей у Пецербургу і насіла рэзка выражаны палітычны характар. Нават рабочыя мястэчка Ашмяны, не кажучы ўжо аб буйных цэнтрах Беларусі, заяўлялі: «Забастоўка наша з самага пачатку насіла характар палітычны, як выражэнне спачування паўстаўшым рабочым і пратэсту супроць самадзяржаўя—галоўнага віноўніка пецербургскай і рыжскай бойні. Мы рашылі пратэставаць аднадзённай забастоўкай».

Палітычны характар руху павінен быў прызнаць і гродненскі генерал-губернатар, які ў сваім данясенні міністру ўнутраных спраў пісаў: «Забастоўкі на гродненскіх фабрыках, роўна, як і ў іншых мясцовасцях губерніі, выкліканы, мяркуючы па ўсіх адзнаках, зусім не якімі-небудзь пэўнымі патрэбамі насельніцтва або нездаволенасцю іх вядомымі ўмовамі свайго быту, але носяць чыста соцыяльна-палітычны характар» (Справа жандармскага ўпраўлення, стар. 185).

Стачкі і забастоўкі суправаджаліся масавымі палітычнымі дэманстрацыямі і мітынгамі. «Далоў самадзяржаўе!» «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!» «Далоў вайну!»—красавалася на сцягах ледзь не кожнай дэманстрацыі. Мітынгі і дэманстрацыі праходзілі з вялікім баявым і рэволюцыйным уздымам. У Полацку 15 студзеня на Дрывянай плошчы быў праведзен масавы мітынг. Пасля мітынгу ўся маса (каля тысячы чалавек) стройнымі радамі з разгорнутым сцягам, са спяваннем «Марсельезы» дэманстравала па вуліцах. Атрад гарадавых прабаваў разагнаць дэманстрантаў. Адбылася сутычка. У ход была пушчана зброя—у выніку многа раненых.

16 студзеня адбылася дэманстрацыя ў Горках. Паліцыя расстра-

*) **В. І. Ленін**, т. VII, стар. 104.

ляла дэманстрацыю. Двое ўдзельнікаў забіта на месцы, чацвёра ранена.

У гэты-ж дзень у час масавай дэманстрацыі ў Бабруйску адбылася сутычка баявых рабочых атрадаў з казакамі, якія прабавалі разагнаць дэманстрантаў і адбіць у іх сцяг.

Яшчэ больш паказальны для баявога настрою мас падзеі ў мястэчку Крынках. 18 студзеня ў Крынках быў праведзен паўтаратысячны мітынг. Пасля мітынгу ўсе яго ўдзельнікі з чырвонымі сцягамі, лозунгамі і рэволюцыйнымі песнямі рушылі па вуліцах. Не гледзячы на тое, што мястэчка было наводнена паліцэйскімі, дэманстранты разграмілі паліцэйскую ўправу, валасную ўправу, манапольку. Уся гарэлка была знішчана. Піць яе або браць з сабою нікому не дазвалялася. Усё гэта праведзена было даволі арганізавана. Мястэчка на некалькі гадзін апынулася ў руках народа. Мясцовая ўлада і паліцыя разбегліся.

Падобныя мітынгі і дэманстрацыі, сутычкі з паліцыяй мелі месца ў Магілеве, Гомелі, Віцебску, Вільні і многіх іншых гарадах і мястэчках Беларусі.

Уціск з боку памешчыкаў і самадзяржаўя, беззаконне і самавольства паліцыі, чыноўнікаў і фабрыкантаў, голад, галечу, беспрацоўе, палітычнае рабства, нацыянальнае прыгнечанне—усё што дзесяцігоддзямі зносіў на сваіх магутных плячах рускі народ, што скоўвала яго сілы, усё гэта ён хацеў спаліць адразу ў агні рэволюцыі.

Увесь гэты жудасны рэжым галечы, голаду і рабства адчуваўся яшчэ мацней у нацыянальных ускраінах. Каб не дапусціць развіцця пролетарыята на ўскраінах і захаваць іх у якасці калоній для атрымання сыравіны і збыту тавараў, расійскае самадзяржаўе ўсімі мерамі намагалася затрымаць там развіццё прамысловасці. Гэта быў соцыяльны заказ галоўным чынам вялікадзяржаўных памешчыкаў і буржуазіі. Гэты заказ самадзяржаўе выконвала старанна. У выніку ўскраіны, у тым ліку і Беларусь, мелі слаба развітую прамысловасць і параўнаўча невялікую колькасць пролетарыята, сярод якога пераважалі рабочыя дробнай прамысловасці і рамесніцкіх майстэрняў.

Беларускія губерніі былі мяжой аселасці яўрэйскага насельніцтва. Гарады і мястэчкі Беларусі нярэдка ператвараліся ў паселішчы жабрацкай, бяскроўнай яўрэйскай беднаты. У 1891 годзе з адной толькі Масквы, паводле даных буржуазнага гісторыка Карнілава, было выселена звыш 17.000 сем'яў яўрэйскай беднаты. Уся гэта маса абяздоленых людзей вымушана была шукаць прытулку ва ўбогіх халупках гарадоў і мястэчак Заходняга края. Каб не памерці з голаду, яна гатова была працаваць за любую цану.

Сялянства, разараемае памешчыкамі і кулакамі, таксама масай ішло ў горад шукаць хлеба і работы. Яно спадзявалася знайсці там ратунак ад галоднай смерці, што ганялася за ім па пятах. Але прамысловасць Беларусі з яе тэмпамі развіцця не ў сілах была паглынуць сотні тысяч беспрацоўных. На рынку працы ў Беларусі заўсёды была вялікая армія беспрацоўных, што рабіла ўплыў на зніжэнне і без таго жабрацкай зарплаты рабочых. У 1901 годзе сярэдняя гадавая зарплата рабочых Менскай губерніі складала 133 рублі, у 1902 г.—127, у 1904 г.—125. Гэта—ніжэй нават той мізэрнай заработнай платы, якую атрымлівалі ў сярэднім рабочыя ўсёй Расіі. За гэтыя-ж годы сярэдняя гадавая зарплата па ўсёй Расіі адпаведна складала: 201, 202, 213 рублёў.

Забарона роднай мовы, разгром нацыянальных школ, насаджэнне вялікадзяржаўных чынуш-дзяржымордаў, нацыянальныя пагромы і т. д. усё гэта падзесяцярала гнёт памешчыкаў і самадзяржаўя на ўскраінах.

Так дзесяцігоддзямі раслі супярэчнасці ў Расіі, накаплялася злоба і нянавісць да рэжыму голаду, галечы і палітычнага бяспраўя, раслі рэвалюцыйныя сілы і рэвалюцыйная энергія ў народзе.

Прамысловы крызіс 1900—1903 гг. і руска-японская вайна, якія ўсім цяжарам ляглі на плечы працоўных, перапоўнілі чашу цярпення.

Недарма таварыш Сталін літаральна за некалькі дзён да студзеньскіх падзей пісаў:

> «Руская рэвалюцыя немінуча, і гэтак сама яна немінуча, як немінучы ўсход сонца!
>
> ... «Ужо ўзнімаецца бура, прадвесніца зары!» Яшчэ ўчора—пазаўчора каўказскі пролетарыят—ад Баку да Батума—аднагалосна выказаў сваё прэзрэнне царскаму самадзяржаўю. Няма сумнення, што гэта слаўная спроба каўказскіх пролетарыяў не пройдзе дарма для пролетарыяў іншых куткоў Расіі. Далей, паглядзьце незлічоныя рэзалюцыі рабочых, выказваючыя глыбокае прэзрэнне царскаму ўраду; прыслухайцеся да глухога, але моцнага ропату ў вёсках—і вы пераканаецеся, што Расія—заражонае ружжо з прыўзнятым курком, якое можа разрадзіцца ад малейшага сатрасення *).

Не прайшло і некалькіх дзён, як гэтыя геніяльна-прарочыя словы пацвердзіліся гістарычнай рэчаіснасцю. «Расія—заражонае ружжо з прыўзнятым курком» разрадзілася масавым народным паўстаннем, пачаткам якога былі студзеньскія дні.

* * *

Рэвалюцыйны рух быў адзіным па ўсёй Расіі. Але соцыяльна-эканамічныя ўласцівасці нацыянальных ускраін, у тым ліку і Беларусі, не маглі не адбіцца на характары гэтага руху.

Слабасць пролетарыята ў Беларусі, пераважная большасць рабочых, не зжыўшых яшчэ дробнаўласніцкай ідэалогіі, нярэдка і не парваўшых з дробнай прыватнай уласнасцю, вялікая маса рамеснікаў, усёй сутнасцю сваёй звязаных з прыватнай уласнасцю, жорсткае нацыянальнае прыгнечанне—усё гэта было прычынай таго, што яркія масавыя ўспышкі рэвалюцыйнага руху на Беларусі ў студзеньскія дні і нават у час Кастрычніцкай забастоўкі былі кароткімі, часта раздробленымі ўспышкамі. Глыбокія астаткі дробнаўласніцкай ідэалогіі ў значнай масы рабочых Беларусі не маглі не сказацца на характары руху, на яго арганізаванасці, працягласці і ўстойлівасці.

> «... Дробны ўласнік, дробны гаспадарчык... адчуваючы пры капіталізме пастаянна прыгнечанне і вельмі часта неймаверна рэзкае і быстрае пагоршанне жыцця і разарэнне, лёгка пераходзіць да крайняй рэвалюцыйнасці, але не здолен праявіць вытрымкі, арганізаванасці, дысцыпліны, стойкасці» ***).

---

*) **І. В. Сталін**, „Што выяснілася?" Пракламацыя Каўказскага саюзнага камітэта РСДРП.

**) **В. І. Ленін**, т. XXV, стар. 180.

Склад і характар пролетарыята абумовілі слабасць большэвіцкіх арганізацый Беларусі і значны ўплыў на пролетарыят дробнабуржуазных партый—меншавікоў, Бунда, Паалей-Цыён, эсэраў, якія сваёй дзейнасцю драбілі і дэзарганізоўвалі барацьбу рабочых. Гісторыя студзеньскіх падзей на Беларусі ведае не мала выпадкаў, калі ўсе гэтыя дробнабуржуазныя партыі дэзарганізоўвалі стачкі і забастоўкі, а то і проста зрывалі іх.

У Менску Бунд сваёй дэзарганізатарскай дзейнасцю сарваў ўсеагульную забастоўку 12—13 студзеня. У гэтыя-ж дні ў Віцебску з-за дэзарганізатарскай дзейнасці Бунда вельмі марудна разгортвалася забастоўка-пратэст. Паліцыя спрабавала выкарыстаць гэта і пачала арганізоўваць чорнасоценныя элементы, якія пагражалі яўрэйскімі пагромамі тым, хто далучыцца да забастоўкі. У Вільні меншавікі, бундаўцы, ППС 12 студзеня сарвалі масавую палітычную дэманстрацыю. Не выпадкова нават віленскі генерал-губернатар Фрэзе ў кастрычніцкія дні 1905 года ў сваім данясенні царскаму міністру Вітэ называў бундаўцаў «мірнымі фракцыямі шматлікага ў Вільні яўрэйскага Бунда» (справа жандармскага ўпраўлення за 1905 год, стр. 144).

Не адставаў ад Бунда і Паалей-Цыён. У Бабруйску 16 студзеня, у Барысаве 17 студзеня, у Магілеве 20 студзеня Паалей-Цыён вёў агітацыю сярод рабочых і служачых супроць забастовак пратэсту. У Магілеве ў выніку гэтай агітацыі прыказчыкі не далучыліся да агульнай забастоўкі. У Бабруйску з радоў ужо бастуючых Паалей-Цыён вырывае саюз прыказчыкаў. У Барысаве члены Паалей-Цыён аказаліся штрэйкбрэхерамі ў часе забастоўкі.

Дэзарганізаваць рэволюцыйны рух, раздрабіць яго сілы—лепшай паслугі і не трэба было самадзяржаўю ў яго барацьбе з рэволюцыяй. Гэтую агідную, чорную справу рабілі ўсе дробнабуржуазныя партыі Беларусі: меншавікі, Бунд, ППС, Паалей-Цыён, эсэры і інш.

Расійскае самадзяржаўе, мясцовыя паліцэйскія ўлады не прамінулі выкарыстаць дэзарганізатарскую дзейнасць дробнабуржуазных партый і жорстка распраўляліся з паўстаўшым народам. З першых-жа дзён рэволюцыйных падзей пачаліся масавыя арышты. У Гомелі 12 студзеня было арыштавана 56 чалавек, у Вільні з 9 па 12 студзеня—103 чалавекі, у мястэчку Крынкі 19 студзеня—200 чалавек, у Гродне 16 студзеня—61 чалавек, у Смаргоні 14 студзеня—50 чалавек і т. д.

Туды, дзе нехапала мясцовых паліцэйскіх сіл для задушэння рэволюцыйнага руху ў самым пачатку,—пасылаліся воінскія часці. Ужо 19 студзеня ў мястэчка Крынкі для разгрому руху прыбыла 3 роты пяхоты і кавалерыі, у мястэчка Ашмяны—400 салдат і 36 казакаў. Ваенныя гарнізоны ў гарадах шырока выкарыстоўваліся для падаўлення рэволюцыйнага руху. У студзеньскія дні рэволюцыйная хваля яшчэ не захапіла арміі.

Дзе-ні-дзе расійскае самадзяржаўе прабавала нацкаваць на «бунтуючы» горад «ціхамірную, пакорлівую» вёску, але жорстка ў гэтым абманулася. У мястэчку Шклове сяляне, выкліканыя пагрозамі і абманам паліцыі для барацьбы з бастуючымі рабочымі, прама заявілі: «А за што мы іх біць будзем, калі яны хочуць, каб нашы паны і наш брат—усе былі роўныя». Такі-ж рашучы адпор мясцовыя паліцэйскія ўлады атрымалі ў Ветцы і Дуброўне з боку сялян, сагнаных туды паліцыяй для барацьбы з «унутранай крамолай».

Іскры рэволюцыйнага пажару даляталі і да вёскі, ўзнімалі сялянскія паўстанні. У Копылі, Слуцкага павета, сяляне прынялі актыўны

ўдзел у рэволюцыйнай дэманстрацыі, арганізаванай мясцовай групай РСДРП пры провадах палітссыльных. Пачаліся масавыя парубкі памешчыцкіх лясоў у БохАнскай, Бычанскай і Новазыбкаўскай валасцях. Пры парубках лесу нярэдка адбываліся сутычкі паміж памешчыкамі і сялянамі. У часе адной з такіх сутычак сяляне вёскі Васілёва, Слуцкага павета, забілі ўпраўляючага Лапіна.

Рэволюцыйны рух з кожным днём разрастаўся. У лютым 1905 года сяляне ўжо не абмяжоўваліся захопам памешчыцкіх лясоў, а прыняліся за знішчэнне памешчыцкіх маёнткаў. У Дзвінскім павеце, як паведамляе карэспандэнт газеты «Витебский голос», пачаліся разгромы памешчыцкіх маёнткаў. Першымі разгромлены памешчыцкія маёнткі Сівергофа і Тызенгольда. У сярэдзіне лютага сяляне Даўгодзінскай воласці на падводах прыбылі ў вёску Александрава і разгромілі маёнтак памешчыка Васільева. У гэтыя-ж дні ў Дзвінскім павеце разгромлены маёнткі: «Марыямпаль», «Астахава», «Дубнягі» і «Магнусава».

Рабочыя масы гарадоў сваёй гераічнай барацьбой супроць самадзяржаўя і памешчыкаў абудзілі для барацьбы і беларускую вёску.

> «Дзякуючы гэтай барацьбе,—пісаў Ленін,—новы дух павеяў па ўсёй масе рускага народа. Толькі цяпер прыгонная, мядзвежая, патрыярхальная, добрачасцівая і пакорная Расія сцягнула з сябе старажытнага Адама; толькі цяпер рускі народ атрымаў сапраўды дэмакратычнае, сапраўды рэволюцыйнае выхаванне»*).

**Н. Гракаў**

---

*) В. І. Ленін, т. XIX, стар. 347.

# Аб ролі асобы ў гісторыі

Да Маркса і Энгельса ў разуменні гістарычных з'яў панаваў ідэалістычны погляд. Гістарычны працэс ідэалісты ўяўлялі, як прадукт «розуму» і «ідэі» або як выпадковы, адвольны прадукт дзейнасці таго ці іншага гістарычнага дзеяча.

Ідэалістычнае разуменне гісторыі разглядае ў лепшым выпадку толькі ідэйныя матывы дзейнасці людзей. Ідэалістычнае разуменне гісторыі не можа ўскрыць вызначаючыя гэтыя матывы матэрыяльныя асновы грамадскага жыцця, аб'ектыўныя законы грамадскага развіцця. Таму гэты ідэалістычны погляд бяссілен растлумачыць сапраўдную ролю асобы ў гістарычным развіцці.

На падставе глыбокага і дэталёвага вывучэння гісторыі Маркс даказаў, што ў аснове гістарычнай дзейнасці людзей, у аснове іх грамадскай свядомасці ляжаць пэўныя ўмовы іх матэрыяльнага жыцця. Згодна марксісцкага матэрыялізма:

> «Развіццё грамадства вызначаецца ў канчатковым выніку не пажаданнямі і ідэямі выдаючыхся асоб, а развіццём матэрыяльных умоў існавання грамадства, зменамі спосабаў вытворчасці матэрыяльных даброт, неабходных для існавання грамадства, зменамі ўзаемаадносін класаў у галіне вытворчасці матэрыяльных даброт, барацьбой класаў за ролю і месца ў галіне вытворчасці і размеркавання матэрыяльных даброт» *).

Толькі матэрыялістычнае разуменне гісторыі ўпершыню дало сапраўды навуковае вырашэнне пытання аб дыялектычнай сувязі паміж актыўнай практычнай дзейнасцю людзей, якія твораць сваю гісторыю, і матэрыяльнымі ўмовамі, якія вызначаюць іх інтарэсы і барацьбу ў кожны гістарычны перыяд; аб дыялектычным адзінстве паміж гістарычнай неабходнасцю развіцця грамадства і свядомай практычнай дзейнасцю класаў, партыі, правадыроў у гістарычным працэсе.

Асновапаложнікі марксізма-ленінізма паказалі, што ў аснове гістарычнага развіцця грамадства ляжыць развіццё прадукцыйных сіл, што развіццё прадукцыйных сіл грамадства ёсць неабходная, аб'ектыўная аснова развіцця грамадства ў цэлым. Пры гэтым асновапаложнікі навуковага комунізма паказалі, што аб'ектыўнае развіццё гісторыі не выключае, а мае на ўвазе актыўную дзейнасць людзей, што гэта актыўная дзейнасць людзей выяўляецца ў барацьбе класаў, а класавая барацьба ёсць рухаючая пружына развіцця грамадства. Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін на аснове вывучэння законаў развіцця

---

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 15.

капіталізма, вывучэння ўсіх супярэчнасцей, якія раз'ядаюць капіталізм, паказалі, што гэтыя супярэчнасці вядуць да таго, што пралетарыят, з'яўляючыся магільшчыкам капіталізма, пераможа буржуазію.

У артыкуле «Карл Маркс» Ленін падкрэсліваў:

«Цэльную фармуліроўку асноўных палажэнняў матэрыялізма, пашыранага на чалавечае грамадства і яго гісторыю, Маркс даў у прадмове да свайго твору «Да крытыкі палітычнай эканоміі» ў наступных словах:

«У грамадскай вытворчасці свайго жыцця людзі ўступаюць у пэўныя, неабходныя, ад іх волі не залежачыя адносіны—вытворчыя адносіны, якія адпавядаюць пэўнай ступені развіцця іх матэрыяльных прадукцыйных сіл.

Сукупнасць гэтых вытворчых адносін складае эканамічную структуру грамадства, рэальны базіс, на якім узвышаецца юрыдычная і палітычная надбудова і якому адпавядаюць пэўныя формы грамадскага сазнання. Спосаб вытворчасці матэрыяльнага жыцця абумоўлівае соцыяльны, палітычны і духоўны працэсы жыцця наогул. Не сазнанне людзей вызначае іх быццё, а, наадварот, іх грамадскае быццё вызначае іх сазнанне. На пэўнай ступені свайго развіцця матэрыяльныя прадукцыйныя сілы грамадства прыходзяць у супярэчнасць з існуючымі вытворчымі адносінамі, або—што з'яўляецца толькі юрыдычным выражэннем гэтага—з адносінамі ўласнасці, унутры якіх яны да гэтага часу развіваліся. З форм развіцця прадукцыйных сіл гэтыя адносіны ператвараюцца ў іх аковы. Тады наступае эпоха соцыяльнай рэволюцыі. Са зьмяненнем эканамічнай асновы больш ці менш быстра адбываецца пераварот ва ўсёй велізарнай надбудове. Пры разглядзе такіх пераваротаў неабходна заўсёды адрозніваць матэрыяльны, з прыродна-навуковай дакладнасцю канстатуемы пераварот у эканамічных умовах вытворчасці ад юрыдычных, палітычных, рэлігійных, мастацкіх або філасофскіх, карацей: ад ідэалагічных форм, у якіх людзі ўсведамляюць гэты канфлікт і змагаюцца з ім.

Як аб асобным чалавеку нельга судзіць на падставе таго, што сам ён аб сабе думае, акурат таксама нельга судзіць аб падобнай эпохе перавароту па яе сазнанню. Наадварот, гэтае сазнанне трэба аб'ясніць з супярэчнасцей матэрыяльнага жыцця, з існуючага канфлікта паміж грамадскімі прадукцыйнымі сіламі і вытворчымі адносінамі» *).

Адкрыццё матэрыялістычнага разумення гісторыі мела і мае неацанімае значэнне ў справе развіцця самай складанай галіны чалавечых ведаў—навукі аб грамадстве і законах яго развіцця. Дзякуючы Марксу вывучэнне гісторыі грамадскага развіцця ператвараецца ў навуку. Гістарычны матэрыялізм вучыць, што грамадскія з'явы, іх развіццё і зьмяненне залежаць не ад самавольства і жаданняў асобных людзей, а падпарадкуюцца аб'ектыўным законам грамадскага развіцця. Сутнасць закона грамадскага развіцця заключаецца ў тым, што матэрыяльныя ўмовы існавання грамадства, зьмяненні ў спосабах вытворчасці матэрыяльных здабыткаў вызначаюць усё развіццё грамадства. Матэрыялізм дзякуючы гэтаму, як указвае Ленін, растлумачыў і паходжанне саміх «грамадскіх ідэй чалавека», паказаўшы за-

*) В. І. Ленін, том XVIII, стар. 12—13.

лежнасць «ходу ідэй ад ходу рэчаў». Вялікія людзі вялікі пастолькі, паколькі яны разумеюць задачы сваёй эпохі, свайго класа і ўмеюць выкарыстаць усе ўмовы, каб рашыць гэтыя задачы.

Толькі пролетарыят і яго правадыры, узброеныя рэволюцыйнай тэорыяй марксізма-ленінізма, ведаюць законы грамадскага развіцця, законы рэволюцыі і прымяняюць іх свядома ў рэволюцыйнай стратэгіі і тактыцы. Маркс, Энгельс, Ленін і Сталін адкрылі эпоху свядомай гістарычнай творчасці, узбройваючы масы навуковай рэволюцыйнай тэорыяй, перамагаючы варожую пролетарыяту ідэалогію і практыку стыхійнасці і «самацёку».

Навукова абгрунтаваўшы гістарычную немінучасць пагібелі капіталізма і перамогі комунізма, Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін з асаблівай сілай падкрэслілі гістарычную ролю пролетарыята, закліканага пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ўзначальваць усіх працоўных у барацьбе за звяржэнне капіталістычнага ладу і пабудову новага, комуністычнага грамадства.

> «Марксізм,—пісаў Ленін,—адрозніваецца ад усіх іншых соцыялістычных тэорый выдатным спалучэннем поўнай навуковай цвярозасці ў аналізе аб'ектыўнага становішча рэчаў і аб'ектыўнага ходу эвалюцыі з самым рашучым прызнаннем значэння рэволюцыйнай энергіі, рэволюцыйнай творчасці, рэволюцыйнай ініцыятывы мас, а таксама, вядома, паасобных людзей, груп, арганізацый, партый, якія ўмеюць нашчупаць і рэалізаваць сувязь з тымі ці іншымі класамі» *).

Марксізм-ленінізм ні ў якім разе не процістаўляе законаў грамадскага развіцця дзейнасці людзей, а, наадварот, дзейнасць людзей тлумачыць арганізацыяй грамадства, умовамі іх жыцця, класавымі суадносінамі, якія складаюцца на пэўнай ступені развіцця прадукцыйных сіл.

Увесь гістарычны вопыт барацьбы партыі Леніна—Сталіна за перамогу соцыялістычнай рэволюцыі, вопыт барацьбы за пабудову соцыялістычнага грамадства пацвярджае правільнасць марксісцка-ленінскай тэорыі гістарычнага працэса ў цэлым і ролі асобы ў прыватнасці.

Толькі соцыялізм сапраўды вызваляе асобу пераважнай масы грамадства ад рабства, будзіць і развівае ініцыятыву, здольнасці, таленты, гераізм у працоўных.

Перадавы рэволюцыйны рабочы клас і масы працоўных з'яўляюцца сапраўднымі носьбітамі прагрэса, будаўнікамі новага, соцыялістычнага грамадства.

> «Прайшлі тыя часы,—гаварыў таварыш Сталін на 1 з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў,—калі правадыры лічыліся адзінымі тварцамі гісторыі, а рабочыя і сяляне не прымаліся ў разлік. Лёсы народаў і дзяржаў вырашаюцца цяпер не толькі правадырамі, але перш за ўсё і галоўным чынам мільённымі масамі працоўных. Рабочыя і сяляне, якія без шуму і трэску будуюць заводы і фабрыкі, шахты і чыгункі, калгасы і соўгасы, ствараюць усе здабыткі жыцця, кормяць і адзяваюць увесь свет,—вось хто сапраўдныя героі і тварцы новага жыцця... Іх «скромная» і «непрыкметная» праца з'яўляецца на самай справе працай вялікай і творчай, якая вырашае лёсы гісторыі» **).

*) В. І. Ленін, т. XII, стар. 32.
**) „Пытанні ленінізма“, стар. 536—537.

Толькі ў нашай краіне перамогшага соцыялізма, дзе самастойнай творчасці мас прадастаўлен шырокі простор, дзе праца, вызваленая ад эксплаатацыі, стала справай чэсці, доблесці, геройства і славы, дзе ўсякае карыснае соцыялістычнаму грамадству пачынанне сустракае падтрымку і заахвочванне, дзе ўсё лепшае і найбольш адоранае, што ёсць у народзе, вырошчваецца са сталінскай клапатлівасцю і акружаецца ўсенароднай любоўю,—расцвітаюць таленты і становяцца грамадскаю сілай на шляху нашага далейшага прасоўвання да поўнага комунізма. Так, у сярэдзіне другой пяцігодкі, ва ўмовах перамогі соцыялізма, на аснове карэннага палепшання матэрыяльнага становішча рабочых, на аснове адсутнасці ў нас эксплаатацыі, на аснове наяўнасці ў нас новай тэхнікі і людзей, здольных стаць на чале тэхнікі і рухаць яе ўперад, наспеў пераход соцспаборніцтва ў яго вышэйшую форму—стаханаўскі рух.

Выдатны прыклад Стаханава, які вырубіў 31 жніўня 1935 года 102 тоны вугалю за адну змену і перавысіў тым самым звычайныя нормы ў 14 раз,—паклаў пачатак масаваму руху рабочых і калгаснікаў за новы ўздым прадукцыйнасці працы. Выдатныя работнікі новага тыпу, наватары ў нашай прамысловасці, на транспарце і ў сельскай гаспадарцы—Стаханаў, Бусыгін, Сметанін, Крыванос, Мусінскі, Еўдакія і Марыя Вінаградавы, Марыя Дземчэнка, Марына Гнаценка, П. Ангеліна, Палагуцін, Колесаў, Кавардак, Борын—прадстаўляюць сабой піонераў стаханаўскага руху. Як вядома, стаханаўскі рух разгарнуўся ўшыр і ўглыб, пашырыўся па ўсяму твару нашай соцыялістычнай радзімы і з небывалай імклівасцю ахапіў усе галіны народнай гаспадаркі, зламаўшы старыя тэхнічныя нормы.

Зусім ясна, што для таго, каб падрыхтаваць у нашай краіне глебу для ўзнікнення масавага стаханаўскага руху, трэба было стварыць цяжкую прамысловасць і на аснове сучаснай новай тэхнікі правесці рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі СССР. Стаханаўскі рух нарадзіўся з натуральнага жадання нашых рабочых, калгаснікаў узняць прадукцыйнасць працы, даць найбольш прадуктаў сваёй совецкай дзяржаве, палепшыць сваё жыццё. Пачынальнікі стаханаўскага руху Стаханаў, Бусыгін і інш. не памышлялі аб тым вялікім значэнні, якое будзе мець узняты імі рух. І геніяльны правадыр працоўных усяго свету—вялікі Сталін, на падставе глыбокага разумення грамадскага развіцця, з усёй яснасцю паказаў, што вялікае значэнне стаханаўскага руху перш за ўсё заключаецца ў тым, што ён «падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма да комунізма».

> «Хіба не ясна,—гаворыць таварыш Сталін,—што стаханаўцы з'яўляюцца наватарамі ў нашай прамысловасці, што стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён змяшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма да комунізма і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай?» *).

Толькі ў нашай соцыялістычнай краіне, дзе гераічная барацьба рабочага класа, працоўных мас, кіруемых партыяй большэвікоў на

*) Прамова на 1-ай усесаюзнай нарадзе рабочых і работніц стаханаўцаў. Стэн. справаздача, стар. 336.

чале з вялікім Сталіным, за поўны комунізм прысвечана ўзвышэнню рабочага класа, працоўных мас,—толькі ў нас магчым такі імклівы росквіт талентаў. Аб гэтым красамоўна гавораць факты імклівага росту совецкіх вучоных і спецыялістаў, совецкіх музыкантаў, выступаўшых за граніцай, герояў-лётчыкаў, лётаўшых праз недаследаваныя моры і горы Поўначы. І т. д. і т. п. Толькі вялікія ідэі і справы комунізма, толькі геніяльнае ленінска-сталінскае кіраўніцтва нашай партыі магло выклікаць да жыцця і разгарнуць гэты небывалы гераізм мас.

* * *

Матэрыялістычнае разуменне гісторыі ні ў малейшай меры не адмаўляе ролі не толькі людзей наогул, але і выдаючыхся асоб у грамадскім развіцці. Гісторыя барацьбы за справу комунізма ведае не мала прыкладаў гераізму не толькі мас, але і паасобных выдаючыхся людзей. Ленін асабліва ярка падкрэслівае значэнне асобы на прыкладзе палкага рэволюцыянера-большэвіка Бабушкіна, расстралянага ў 1910 годзе царскімі сатрапамі. Ленін піша:

«... Народныя героі ёсць. Гэта—людзі, падобныя Бабушкіну. Гэта—людзі, якія не год і не два, а цэлыя 10 год перад рэволюцыяй прысвяцілі сябе цалкам барацьбе за вызваленне рабочага класа. Гэта—людзі, якія не растрацілі сябе на бескарысныя тэрарыстычныя прадпрыемствы адзіночак, а дзейнічалі ўпарта, няўхільна сярод пролетарскіх мас, дапамагаючы развіццю іх свядомасці, іх арганізацыі, іх рэволюцыйнай самадзейнасці. Гэта—людзі, якія ўсталі на чале ўзброенай масавай барацьбы супроць царскага самадзяржаўя, калі крызіс наступіў, калі рэволюцыя разразілася, калі мільёны і мільёны прышлі ў рух. Усё, што адваявана было ў царскага самадзяржаўя, адваявана **выключна** барацьбой мас, кіруемых такімі людзьмі, як Бабушкін.

Без такіх людзей рускі народ застаўся-б назаўсёды народам рабоў, народам халопаў. З такімі людзьмі рускі народ заваюе сабе поўнае вызваленне ад усякай эксплуатацыі» *).

Значыць, паклёпам з'яўляецца сцвярджэнне, нібыта марксізм-ленінізм адмаўляе ролю і значэнне вялікіх людзей у грамадскім развіцці. Таварыш Сталін, развіваючы погляды Маркса на ролю асобы ў гісторыі, гаворыць:

«Кожнае новае пакаленне сустракаецца з пэўнымі ўмовамі, якія ўжо меліся ў гатовым выглядзе ў момант, калі гэта пакаленне нарадзілася. І вялікія людзі варты чаго-небудзь толькі пастолькі, паколькі яны ўмеюць правільна зразумець гэтыя ўмовы, зразумець, як іх змяніць. Калі яны гэтых умоў не разумеюць і хочуць гэтыя ўмовы змяніць так, як ім падказвае іх фантазія, то яны, гэтыя людзі, трапляюць у становішча Дон-Кіхота. Такім чынам, якраз па Марксу зусім не след процістаўляць людзей умовам. Іменна людзі, але толькі паколькі яны правільна разумеюць умовы, якія яны засталі ў гатовым выглядзе, і толькі паколькі яны разумеюць, як гэтыя ўмовы змяніць,— робяць гісторыю» **).

---

*) **В. І. Ленін,** том XIV, стар. 398.
**) **І. Сталін,** Гутарка з нямецкім пісьменнікам Эмілем Людвігам, стар. 4. Партвыдат. 1933.

Значыць, наадварот,—толькі марксізм-ленінізм, у процівагу ўсякім ідэалістычным поглядам, сапраўды навукова тлумачыць ролю і гістарычнае значэнне ўплыву людзей наогул і ў прыватнасці вялікіх асоб, адметных глыбокім пазнаннем аб'ектыўных законаў развіцця грамадства, уменнем раскрыць іх унутраны змест, глыбокім разуменнем і здольнасцю змяніць умовы.

Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін **адкрылі законы гістарычнага развіцця**, узброілі рабочы клас комуністычнай свядомасцю. Уменне глыбока пазнаць ход гістарычнага развіцця і ўнутраны змест падзей, уменне намеціць на гэтай аснове правільную стратэгію і ясную лінію паводзін,—вось выдатныя якасці, якія характарызуюць геніяльных правадыроў пролетарыята—Леніна і Сталіна. Узяць, напрыклад, першы перыяд рускай рэволюцыі. У гэты гістарычны паваротны перыяд у складанейшым пераплёце грамадскіх адносін, узаемаадносін класавых сіл, барацьбы класаў, сутычак і барацьбы класавых інтарэсаў у эканамічнай, палітычнай і ідэалагічнай сферах маглі разабрацца толькі паслядоўныя і рэволюцыйныя марксісты. Толькі правадыры большэвіцкай партыі Ленін і Сталін, майстэрскі валодаючы марксісцкім метадам, маглі даць сапраўды навуковы аналіз грамадскіх адносін гэтага перыяда, зразумець аб'ектыўны ход рэволюцыі, устанавіць яе характар і рухаючыя сілы і на аснове гэтага выпрацаваць правільную рэволюцыйную тактыку пролетарскай партыі.

Або ўзяць красавіцкія тэзісы Леніна. У іх Ленін на аснове глыбокага разумення складанейшага пераплёту грамадскіх адносін, узаемаадносін класавых сіл, барацьбы класаў і т. д. даў партыі, пролетарыяту ясную рэволюцыйную лінію пераходу ад буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі да рэволюцыі социялістычнай. Партыя і рабочы клас былі ўзброены геніяльнай праграмай барацьбы за соцыялістычную рэволюцыю, за велізарнейшы пералом у жыцці нашай краіны.

Ленін і Сталін, уладаючы глыбокімі ведамі законаў рэволюцыі, велізарным вопытам класавай барацьбы, умелі заўсёды, у самых складанейшых умовах, даць масам правільныя лозунгі, паставіць перад імі непасрэдную мэту, указаць бліжэйшыя шляхі і сродкі яе дасягнення. Вялікая Кастрычніцкая Соцыялістычная рэволюцыя, Брэсцкі мір, грамадзянская вайна, нэп, індустрыялізацыя краіны, калектывізацыя сельскай гаспадаркі і ліквідацыя на гэтай аснове кулацтва як класа—усё гэта гістарычныя паваротныя этапы нашай рэволюцыі, і на кожным з іх патрабаваўся ясны ўлік абстаноўкі, суадносін класавых сіл, каб забяспечыць перамогу рабочага класа.

Класічнае вызначэнне велізарнейшай гістарычнай перамогі нашай партыі—калектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як класа—дана ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)»:

> «Гэта быў найглыбейшы рэволюцыйны пераварот, скачок са старога якаснага стану грамадства ў новы якасны стан, роўназначны па сваіх выніках рэволюцыйнаму перавароту ў кастрычніку 1917 года» *).

Ва ўсіх падзеях нашай рэволюцыі, у будаўніцтве соцыялістычнага грамадства велізарнейшая роля правадыроў пролетарыята—Леніна і Сталіна—вызначылася тым, што яны, будучы класікамі творчага марксізма, смела і рашуча развівалі марксізм, адкрывалі новыя законы

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)“, стар. 288.

грамадскага развіцця і кіравалі пролетарскім рухам у адпаведнасці з улікам новых гістарычных умоў. Ленін і Сталін узнялі марксісцкую навуку на вышэйшую ступень, развілі яе ва ўсіх напрамках, стварылі ленінска-сталінскі этап у развіцці марксізма. Так, развіваючы вучэнне Маркса ў новых умовах, прыстасоўна да новай абстаноўкі, Ленін прышоў да геніяльнай ідэі перамогі соцыялізма ў адной краіне, ідэі, якая бліскуча, усебакова распрацавана таварышом Сталіным у цэльную, стройную, закончаную тэорыю. Ленін і Сталін адкінулі, як устарэлую, не адпавядаючую новым умовам эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый формулу аб немагчымасці перамогі пролетарскай рэволюцыі ў адной краіне, даную Марксам і Энгельсам у сярэдзіне мінулага стагоддзя і адлюстроўваўшую рэчаіснасць даімперыялістычнага капіталізма, формулу, якую ворагі рабочага класа ператварылі ў догму і імкнуліся выкарыстаць ў якасці зброі ў барацьбе супроць нашай Вялікай Соцыялістычнай рэволюцыі. Адстаяўшы гэта геніяльнейшае адкрыццё Леніна—аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне—у бязлітаснай барацьбе з трацкісцка-бухарынскімі здраднікамі і іншымі ворагамі і развіваючы яго далей, таварыш Сталін гаварыў:

«Вядома, калі-б Энгельс быў жывым, ён не стаў-бы чапляцца за старую формулу, а, наадварот, усямерна вітаў-бы нашу рэволюцыю, гаворачы: «К чорту ўсе старыя формулы, няхай жыве пераможная рэволюцыя ў СССР!» Але не так думаюць паны з лагера соцыял-дэмакратаў. Яны чапляюцца за старую формулу Энгельса для таго, каб, прыкрыўшыся ёю, аблягчыць сабе барацьбу супроць нашай рэволюцыі, супроць большэвікоў» *).

Гэта геніяльнейшая тэорыя Леніна і Сталіна аб магчымасці перамогі соцыялізма першапачаткова ў адной, асобна ўзятай краіне, правільна адлюстроўваючы законы развіцця грамадства ў эпоху імперыялізма і пролетарскай рэволюцыі, узброіла совецкі народ перспектывай перамогі ў барацьбе ва ўмовах зацяжкі сусветнай рэволюцыі і капіталістычнага акружэння. Яна, гэта тэорыя, мела велізарнейшае арганізуючае, мабілізуючае і пераўтвараючае значэнне ў справе пабудовы соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне. У сталінскай гісторыі ВКП(б), дзе падкрэсліваецца гіганцкая сіла гэтай тэорыі, сказана:

«Што было-б з партыяй, з нашай рэволюцыяй, з марксізмам, калі-б Ленін спасаваў перад буквай марксізма, калі-б у яго нехапіла тэарэтычнай мужнасці адкінуць адзін з старых вывадаў марксізма, замяніўшы яго новым вывадам аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной, асобна узятай, краіне, адпавядаючым новай гістарычнай абстаноўцы? Партыя блукала-б у пацёмках, пролетарская рэволюцыя страціла-б кіраўніцтва, марксісцкая тэорыя пачала-б хірэць. Прайграў-бы пролетарыят, выйгралі-б ворагі пролетарыята» **).

Зусім ясна, што гэта-ж самае трэба сказаць і аб таварышу Сталіне: калі-б таварыш Сталін не адстаяў у бязлітаснай барацьбе з трацкісцка-бухарынскімі фашысцкімі шпіёнамі і дыверсантамі ленінскую тэорыю соцыялістычнай рэволюцыі, калі-б таварыш Сталін не

*) І. В. Сталін, „Аб апазіцыі“, стар. 380.
**) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)“, стар. 338.

ўзняў гэту тэорыю на новую, вышэйшую ступень, мы не мелі-б зараз соцыялістычнага ладу.

Развіваючы вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна ў новай гістарычнай абстаноўцы, базуючыся на іх метадзе, таварыш Сталін уносіць новае ў скарбніцу марксізма-ленінізма. Так, напрыклад, распрацоўваючы тэарэтычна і практычна ленінскі кааперацыйны план ва ўсіх яго састаўных частках і кіруючы правядзеннем яго ў жыццё, таварыш Сталін усебакова і падрабязна распрацаваў пытанне аб калгаснай форме соцыялістычнай перабудовы вёскі. Таварыш Сталін абгрунтаваў арцельную форму, як асноўнае і галоўнае звяно калгаснага будаўніцтва на даным этапе развіцця, якая дае магчымасць спалучэння асабістых інтарэсаў калгаснікаў з грамадскімі інтарэсамі. Таварыш Сталін даў геніяльную ідэю стварэння новых тэхнічных кадраў. Таварыш Сталін, уладаючы дасканала марксісцкім дыялектычным метадам, яшчэ ў зародку стаханаўскага руху выявіў у ім не толькі тое, што ён ламае старыя тэхнічныя нормы, перакрывае ў цэлым радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы капіталістычных краін і адкрывае тэхнічную магчымасць далейшага ўмацавання соцыялізма ў нашай краіне, магчымасць ператварэння нашай краіны ў найбольш заможную краіну. Таварыш Сталін выявіў у стаханаўскім руху расткі комунізма; ён выявіў, што стаханаўскі рух падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма да комунізма. Таварыш Сталін даў геніяльнейшую ідэю стварэння новых тэхнічных кадраў, даў цэлы рад іншых геніяльнейшых ідэй, якія пад кіраўніцтвам партыі на чале з таварышом Сталіным бліскуча ажыццявіліся ў нас.

Геніяльна кіруючы пролетарскім рухам у адпаведнасці з новымі ўмовамі развіцця грамадства, Ленін і Сталін забяспечылі рабочаму класу сусветна-гістарычныя перамогі.

Марксізм-ленінізм вучыць, што сіла выдаючайся асобы—у яе сувязі з класам, з масамі, з народам—творцом гісторыі, у тым, наколькі яна выражае інтарэсы народа; што са стратай гэтай сувязі роля асобы зводзіцца на нішто. Гэта можна бачыць на прыкладзе Плеханава. Таварыш Сталін у гутарцы з Эмілем Людвігам сказаў:

> «Самыя буйныя аўтарытэты сходзяць у нас на нішто, ператвараюцца ў нішто, як толькі ім перастаюць давяраць рабочыя масы, як толькі яны губляюць кантакт з рабочымі масамі. Плеханаў карыстаўся зусім выключным аўтарытэтам. І што-ж? Як толькі ён пачаў палітычна кульгаць, рабочыя яго забылі» *).

Толькі большэвіцкая партыя і яе геніяльнейшыя правадыры—Ленін і Сталін, якія ўсё сваё жыццё аддаюць справе перамогі комунізма,—заўсёды цесна звязаны з народам, з масамі. Яны не толькі вучылі і вучаць масы разуменню законаў грамадскага развіцця, але і вучацца ў мас. У гэтым—крыніца іх магутнасці.

У рэволюцыйнай арганізацыі рабочага класа і яго комуністычнай партыі, у свядомым, па-большэвіцку загартаваным калектыве, узброеным навуковым метадам пазнання і практычнага дзеяння, асоба ўпершыню ў гісторыі становіцца магутнай сілай гістарычнага руху і прагрэса.

Такім чынам марксізм-ленінізм, прызнаючы гістарычную неабходнасць, не толькі не адмаўляе свядомую актыўную дзейнасць людзей у інтарэсах прагрэса, у інтарэсах перадавых класаў грамадства, але і забяспечвае на падставе законаў грамадскага развіцця магчымасць

*) **І. Сталін.** Гутарка з нямецкім пісьменнікам Эмілем Людвігам, стар. 7—8.

свядомай дзейнасці рабочага класа, яго партыі, правадыроў. «Свабода,—піша Плеханаў услед за Марксам,—ёсць пазнаная неабходнасць». Гэта значыць, што калі людзі ўсвядомяць, што іх мэты і жаданні з'яўляюцца адлюстраваннем таго, што расце з самага жыцця, што іх мэты і жаданні ёсць выражэнне неабходнасці, яны пранікаюцца несакрушальнаю верай і ўпэўненасцю ў правату сваёй справы і становяцца тады вялікай грамадскай сілай, якая пераўтварае і перарабляе свет.

> «Сіла і жыццёвасць марксізма-ленінізма заключаецца ў тым, што ён апіраецца ў сваёй практычнай дзейнасці іменна на патрэбнасці развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства, ніколі не адрываючыся ад рэальнага жыцця грамадства» *).

Абвяргаючы ўсякага роду паклёпнікаў, якія скажалі марксізм у тым сэнсе, што ідэя гістарычнай неабходнасці нібыта адмаўляе ролю і значэнне асобы ў гісторыі, што людзі ніяк не ўплываюць на гісторыю (а іменна гэтую фаталістычную бязглуздзіцу народнікі прабавалі навязаць марксізму),—Ленін пісаў:

> «... Ідэя гістарычнай неабходнасці ніколькі не падрывае ролі асобы ў гісторыі: гісторыя ўся складаецца іменна з дзеянняў асоб, якія прадстаўляюць з сябе бясспрэчна дзеячоў» **).

У 90-х годах мінулага стагоддзя буржуазны ідэолаг Штамлер прабаваў «выявіць» унутраную супярэчнасць паміж тэорыяй і практыкай марксізма. Штамлер «даказваў», што, калі марксісты лічаць соцыялізм немінучым вынікам законамернага развіцця капіталізма, то ў такім выпадку,—гаварыў ён,—навошта-ж вы, марксісты, арганізоўваеце палітычную партыю? Для ажыццяўлення соцыялістычнага перавароту? Нікому-ж,—гаварыў Штамлер,—не прыдзе ў галаву мысль стварыць партыю па садзейнічанню наступленню луннага зацмення.

Выкрываючы Штамлера, Плеханаў пісаў:

> «Некаторыя прынялі ў нас усур'ёз заўвагу Штамлера наконт нібыта невырашальнай супярэчнасці, быццам-бы ўласцівай аднаму з заходне-еўрапейскіх соцыяльна-палітычных вучэнняў. Мы маем на ўвазе вядомы прыклад луннага зацмення. На самай справе гэта архі-бязглузды прыклад. У лік тых умоў, спалучэнне якіх неабходна для луннага зацмення, чалавечая дзейнасць ніякім чынам не ўваходзіць і ўваходзіць не можа, і ўжо па аднаму гэтаму партыя для садзейнасці луннаму зацменню магла-б узнікнуць толькі ў вар'яцкім доме. Але калі-б чалавечая дзейнасць і ўваходзіла-б у лік названых умоў, то ў партыю луннага зацмення не ўвайшоў-бы ніхто з тых, якія, вельмі жадаючы яго бачыць, у той-жа час былі-б пераконаны, што яно абавязкова здзейсніцца і **без іх садзейнасці» ***).**

* * *

Матэрыялістычны, адзіна правільны погляд на ролю асобы ў гісторыі марксістам у Расіі прышлося адстойваць у барацьбе на два фронты: супроць народнікаў і супроць «легальных марксістаў».

Народнікі не разумелі законаў грамадскага развіцця. Яны не разумелі таго, што сапраўднымі тварцамі гісторыі з'яўляюцца **масы,**

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 110.
**) В. І. Ленін, том І, стар. 77.
***) Г. В. Плеханаў, „Да пытання аб ролі асобы ў гісторыі", стар. 8—9, Дзяржвыдат. 1938.

класы; яны не разумелі, што рухаючай сілай гістарычнага працэса ў класавым грамадстве з'яўляецца класавая барацьба. Правадыры і ідэолагі народніцтва прапаведвалі наскрозь рэакцыйную, ідэалістычную, суб'ектывісцкую («суб'ектыўны метад у соцыялогіі») тэорыю аб тым, што паасобныя «крытычна мыслячыя асобы» з'яўляюцца рухаючай пружынай у гісторыі. Пры гэтым у народнікаў выходзіла, што асоба стаіць над ходам эканамічнага развіцця і барацьбы класаў, не залежыць ад іх. Не грамадскія адносіны параджаюць асоб з іх ідэямі, а, наадварот,—асоба з яе ідэямі вызначае і стварае ход гістарычных падзей, у тым ліку і рух мас,—вось як разважалі суб'ектыўныя соцыёлагі, ворагі марксізма—народнікі. Гісторыя з пункту погляду суб'ектыўнай соцыялогіі народніцтва прадстаўляе сабой, такім чынам, прадукт дзейнасці «вялікіх асоб», «герояў», за якімі слепа пляцецца «пасіўная» і «бязвольная» маса, «натоўп». Народнікі адмаўлялі перадавую, авангардную ролю рабочага класа ў рэволюцыйным руху. Народнікі сцвярджалі, што Расія можа мінаваць капіталістычны шлях развіцця і апынуцца ў соцыялізме на той падставе, што, па іх думцы, сялянская абшчына з'яўляецца зародкам будучага соцыялістычнага грамадства, што сялянства з'яўляецца галоўнай рэволюцыйнай сілай, якая пад кіраўніцтвам інтэлігенцыі, «крытычна мыслячых асоб» зможа дасягнуць соцыялізма. Гэтай сваёй рэакцыйнай тэорыяй актыўных «герояў» і пасіўнага «натоўпу», які чакае ад «герояў» гераічнага ўчынку, народнікі імкнуліся абгрунтаваць шкаднейшую тактыку індывідуальнага тэрору.

> «Народнікі адцягвалі ўвагу працоўных ад барацьбы з класам прыгнятальнікаў бескарыснымі для рэволюцыі забойствамі асобных прадстаўнікоў гэтага класа. Яны тармазілі развіццё рэволюцыйнай ініцыятывы і актыўнасці рабочага класа і сялянства.
>
> Народнікі перашкаджалі рабочаму класу зразумець яго кіруючую ролю ў рэволюцыі і затрымлівалі стварэнне самастойнай партыі рабочага класа» *).

Такім чынам, народніцкая тэорыя і практыка з'яўляліся сур'ёзнай перашкодай на шляху развіцця рабочага руху, развіцця класавай самасвядомасці рабочых. Навуковы соцыялізм мог пракласці шлях да рабочага руху ў Расіі толькі ў бязлітаснай барацьбе супроць злейшага ворага марксізма-ленінізма—супроць народніцтва.

> «На сцвярджэнні народнікаў аб тым, што маса ёсць натоўп, што толькі героі робяць гісторыю і ператвараюць натоўп у народ, марксісты адказвалі: не героі робяць гісторыю, а гісторыя робіць герояў, значыць,—не героі ствараюць народ, а народ стварае герояў і рухае ўперад гісторыю. Героі, выдаючыяся асобы могуць адыгрываць сур'ёзную ролю ў жыцці грамадства толькі пастолькі, паколькі яны здолеюць правільна зразумець умовы развіцця грамадства, зразумець,—як іх змяніць да лепшага. Героі, выдаючыяся асобы могуць папасці ў становішча смешных і нікому непатрэбных няўдачнікаў, калі яны не здолеюць правільна зразумець умоў развіцця грамадства і пачнуць перціся супроць гістарычных патрэбнасцей грамадства, уявразіўшы сябе «дзелацелямі» гісторыі.
>
> Да раздзелу такіх іменна герояў-няўдачнікаў і належалі народнікі» **).

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 12—13.
**) Там-жа, стар. 16.

Плеханаў, выкладаючы марксісцкае вучэнне, разбіў погляды народнікаў на эканамічную эвалюцыю ў Расіі. У процівагу народнікам, якія паставілі пытанне: «Ці павінна Расія прайсці цераз капіталістычную фазу развіцця?», Плеханаў даказаў, што Расія ўжо стала на шлях капіталістычнага развіцця і што няма такой сілы, якая магла-б яе з гэтага шляху звярнуць.

> «Задача рэвалюцыянераў была не ў тым, каб затрымаць развіццё капіталізма ў Расіі,—гэтага яны ўсёроўна не змаглі-б зрабіць. Задача рэвалюцыянераў заключалася ў тым, каб аперціся на тую магутную рэвалюцыйную сілу, якая параджаецца развіццём капіталізма,—на рабочы клас, развіваць яго класавае сазнанне, арганізаваць яго, дапамагчы яму стварыць сваю рабочую партыю» *).

Плеханаў, абараняючы ў барацьбе з народніцтвам вучэнне Маркса, паказаў, што комуністычная рэвалюцыя не можа вырасці з мяшчанска-сялянскага соцыялізма народнікаў, што сельская абшчына ў сваім развіцці дае не комуністычныя, а буржуазныя адносіны, што ініцыятыва комуністычнага руху належыць рабочаму класу, што «не гледзячы на колькасную перавагу сялянства і параўнальную малалікасць пролетарыята,—іменна на пролетарыят, на яго рост павінны рэвалюцыянеры ўскласці свае галоўныя надзеі» **).

У геніяльнай працы Леніна «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» Ленін да канца разграміў народнікаў як фальшывых прыяцеляў народа, якія на справе ідуць супроць народа. У гэтай кнізе Ленін упершыню абгрунтаваў ідэю рэвалюцыйнага саюза рабочых і сялян, як галоўнага сродку звяржэння царызма, памешчыкаў, буржуазіі. У сваёй геніяльнай рабоце «Развіццё капіталізма ў Расіі» Ленін завяршыў ідэйны разгром народніцтва.

* * *

Другімі злейшымі ворагамі марксізма з'яўляліся так званыя «легальныя марксісты» (буржуазныя ідэолагі Пётр Струве, Туган-Барановскі і інш.). Прыкрываючыся іменем Маркса, імкнучыся падпарадкаваць і прыстасаваць рабочы рух да інтарэсаў буржуазіі, яны прапаведвалі струвісцкі фаталістычны аб'ектывізм, г. зн. прабавалі ўнушыць рабочаму класу, што дзеянні людзей не маюць значэння для гістарычнага працэса, што ўсякая спроба так ці інакш уплываць на ход падзей асуджана на правал. Яны сцвярджалі, што капіталізм у Расіі будзе панаваць вечна і што людзі, рабочая маса (і рэвалюцыйная партыя) ні ў якой меры не могуць што-небудзь змяніць у аб'ектыўным, фатальным ходзе развіцця і ўцвярджэння капіталізма ў Расіі.

Скажаючы марксізм, выкінуўшы з яго самае галоўнае—вучэнне аб пролетарскай рэвалюцыі, аб дыктатуры пролетарыята, «легальныя марксісты» адмаўлялі ўплыў надбудоў на развіццё базіса, ролю барацьбы класаў і гістарычных асоб, ролю ідэй марксізма. Віднейшы «легальны марксіст» Пётр Струве выхваляў буржуазію і, замест рэ-

---

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 14.
**) Там-жа.

валюцыйнай барацьбы супроць капіталізма, заклікаў «прызнаць нашу некультурнасць і пайсці на вывучку да капіталізма». Гэтым струвісцкім фаталістычным аб'ектывізмам «легальныя марксісты» імкнуліся тэарэтычна абгрунтаваць неабходнасць адмаўлення рабочых ад барацьбы супроць капіталізма.

Ленін разграміў «легальных марксістаў».

Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін паказалі, што капіталістычны лад падзе гэтак сама, як паў прыгонны лад, што капіталізм сам стварае сабе магільшчыка ў асобе пролетарыята. Яны паказалі, што толькі класавая барацьба пролетарыята, толькі перамога над буржуазіяй збавіць чалавецтва ад капіталізма, ад эксплаатацыі.

Маркс і Энгельс вучылі пролетарыят, што ён павінен усвядоміць сваю сілу, свае класавыя інтарэсы і аб'яднацца для рашучай барацьбы з буржуазіяй. Яны адкрылі законы развіцця капіталістычнага грамадства і навукова даказалі, што класавая барацьба ў ім павінна немінуча прывесці да падзення капіталізма і перамогі пролетарыята, што дабіцца гэтага рабочы клас зможа толькі шляхам прымянення рэволюцыйнага насілля супроць буржуазіі, шляхам пролетарскай рэволюцыі, шляхам устанаўлення свайго палітычнага панавання—диктатуры пролетарыята, якая павінна падавіць супраціўленне эксплаататараў і стварыць новае, бяскласавае комуністычнае грамадства.

> «Маркс і Энгельс вучылі, што прамысловы пролетарыят з'яўляецца самым рэволюцыйным і таму—самым передавым класам капіталістычнага грамадства, што толькі такі клас, як пролетарыят, можа сабраць вакол сябе ўсе нездаволеныя капіталізмам сілы і павесці іх на штурм капіталізма. Але каб перамагчы стары свет і стварыць новае бяскласавае грамадства, пролетарыят павінен мець сваю ўласную рабочую партыю, якую Маркс і Энгельс называлі комуністычнай партыяй» *).

У пытанні аб ролі асобы ў гісторыі неабходна рашуча раскрыць поўэсэраўскія погляды на ход грамадскага развіцця. Гэтыя погляды выразіліся ў тым, што ілжэтэарэтыкі процістаўлялі гістарычных асоб законам грамадскага развіцця, няверна прадстаўлялі месца і значэнне гістарычных асоб, вульгарызавалі законы гістарычнага развіцця, як на гэта ўказваецца ў рашэнні ЦК ВКП(б) «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды». У радзе раней выданых падручнікаў па гісторыі ВКП(б) гісторыя нашай партыі будавалася толькі вакол гістарычных асоб, не раскрывалася ідэйная барацьба партыі Леніна—Сталіна за марксізм-ленінізм, за соцыялістычную рэволюцыю, змазвалася велізарнейшая роля рабочага класа ў гэтай барацьбе.

> «Такога роду вульгарызацыя і спрашчэнцтва знайшлі выражэнне, напрыклад, у распаўсюджаных да апошняга часу, яўна антымарксісцкіх і даўно асуджаных партыяй, поглядах аб ролі асобы ў гісторыі, калі пытанне аб ролі асобы ў гісторыі выкладалася некаторымі ілжэтэарэтыкамі і прапагандыстамі з поўэсэраўскіх пазіцый» **).

Сучасная рэакцыйная імперыялістычная буржуазія, адчуваючы набліжэнне сваёй пагібелі пад ударамі пролетарскай рэволюцыі, высоў-

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 11.

**) Пастанова ЦК ВКП(б) „Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам „Кароткага курса гісторыі ВКП(б)".

вае гнуснейшыя, агіднейшыя «асобы»—махровых мракабесаў, пагромшчыкаў і рэакцыянераў тыпу «фюрэра» Гітлера і падобных, якія прабуюць павярнуць ход гісторыі назад, тэрорам і рэакцыяй затрымаць гістарычны немінучы рух мас да комунізма. Фашысцкія пагромшчыкі будуць змецены з твару зямлі народам і, перш за ўсё, яго авангардам—рабочым класам. Іх імёны, ненавісныя кожнаму чэснаму чалавеку, будуць пахаваны на гістарычным сметніку, як пахаваны імёны іх агентаў—трацкісцка-бухарынскіх фашысцкіх вырадкаў.

**С. Топаз.**

# АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ ЧЫТАЧОЎ

## Аб „Нарадзе 22-х большэвікоў“

*Тав. Доўжык І. Г. (г. Рэчыца, райсовет Асоавіяхіма) у сваім пісьме ў рэдакцыю „Большэвіка Беларусі“ просіць у сувязі з вывучэннем гісторыі партыі больш падрабязна асвятліць пытанне аб значэнні „Нарады 22-х большэвікоў“ у барацьбе за скліканне III з'езда.*

*Адказваем на пытанне.*

«Нарада 22-х большэвікоў», якая адыграла вялікую ролю ў гісторыі нашай партыі, праходзіла паміж II і III з'ездамі РСДРП у адзін з найбольш цяжкіх перыядаў барацьбы большэвікоў з меншавікамі за стварэнне пролетарскай партыі новага тыпу—партыі Леніна—Сталіна.

Як вядома, пасля II з'езда РСДРП барацьба паміж большэвікамі і меншавікамі не толькі не сціхла, але яшчэ больш абвастрылася. Адной з галоўных прычын абвастрэння гэтай барацьбы з'явілася тая акалічнасць, што II з'езд партыі, не гледзячы на велізарную станоўчую ролю, якую ён адыграў у гісторыі нашай партыі, усё-ж «аказаўся не на вышыні свайго становішча ў галіне арганізацыйных пытанняў»... «не здолеў не толькі выкрыць апартунізм меншавікоў у арганізацыйных пытаннях і ізаляваць іх у партыі, але нават паставіць перад партыяй падобную задачу» *).

Сваю антыпартыйную дэзарганізатарскую дзейнасць на II з'ездзе партыі меншавікі прадоўжылі і ўзмацнілі пасля з'езда. Яны павялі лінію на раскол партыі, на зрыў рашэнняў II з'езда, на ліквідацыю большэвіцкай ленінска-сталінскай партыі, узнікшай у баях з яўнымі і тайнымі ворагамі рабочага класа, на ператварэнне баявой рэволюцыйнай партыі ў расплыўчатую, неарганізаваную хвасцісцкую партыю.

Байкатуючы абраныя II з'ездам цэнтральныя ўстановы партыі, адмаўляючыся выконваць і падпарадкавацца рашэнням з'езда, меншавікі стварылі сваю тайную фракцыйную арганізацыю. Менш чым праз месяц пасля II з'езда, у сярэдзіне верасня 1903 года, меншавіцкія лідэры склікалі канферэнцыю 17-ці меншавікоў. На гэтай канферэнцыі была выпрацавана платформа барацьбы з Леніным, большэвікамі, арганізацыйны план захвату цэнтральных устаноў партыі і мясцовых камітэтаў. Быў выбран і кіруючы цэнтр гэтай антыпартыйнай фракцыйнай арганізацыі, так званае «бюро меншасці» ў складзе Мартава, Троцкага, Аксельрода, Дана і Патрэсава.

Меншавікі паставілі сваёй мэтай узарваць партыю, узняць «паўстанне супроць ленінізма», як пісаў аб гэтым Мартаў. Афарміўшы

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)“, стар. 43.

свой цэнтр, меншавікі стварылі таксама тайную цэнтральную касу, завялі свой транспарт, арганізавалі спецыяльную раз'язную агентуру і выкарысталі ўвесь гэты апарат у адным напрамку: дэзарганізаваць усю работу партыі, захапіць партыйныя цэнтры і мясцовыя камітэты.

У канцы лістапада 1903 года меншавікам удалося з дапамогаю Плеханава, які перамятнуўся на іх бок, захапіць адзін з партыйных цэнтраў—рэдакцыю цэнтральнага органа партыі—«Искру». У сувязі з кааптацыяй Плеханавым у рэдакцыю «Искры» меншавікоў Аксельрода, Мартава, Засуліч, Патрэсава змяняюцца і суадносіны сіл у Совеце партыі. Совет партыі аказваецца таксама ў руках меншавікоў. Маючы пры падтрымцы Плеханава большасць у Совеце партыі, меншавікі прабуюць падпарадкаваць сабе і Цэнтральны Камітэт партыі. І гэта ім удаецца дзякуючы дапамозе Плеханава і здрадзе двух разлажыўшыхся большэвікоў—Наскова і Красіна, якія прымірэнча адносіліся да раскольнікаў-меншавікоў. Пад фальшывым сцягам барацьбы за адзінства, яны сталі на шлях уступак і падтрымкі меншавікоў. Меншавікі-ж, захапіўшы кіраўніцтва, і не думалі аб адзінстве партыі, яе згуртаванні, аб ажыццяўленні партыяй паслядоўна рэволюцыйнай лініі, аб палітычным кіраўніцтве пролетарыятам і працоўнымі масамі ў барацьбе з самадзяржаўем, аб барацьбе за гегемонію і дыктатуру пролетарыята.

У абстаноўцы нарастаўшага рэволюцыйнага ўздыму, росту стачак, палітычных дэманстрацый, росту класавай свядомасці пролетарыята, у абстаноўцы разгортвання рэволюцыйнага руху сялянства і прыгнечаных царызмам народаў меншавікі вялі здрадніцкую лінію. Яны паказалі сваё поўнае нежаданне і нядзольнасць кіраваць рэволюцыйнай барацьбой. Раскалваючы, дэзарганізуючы партыю, уносячы нязгоду і звадкі, меншавіцкія правадыры і іх агенты ў мясцовых камітэтах знясільвалі партыю, рабілі яе нядзольнай да вырашэння наспеўшых рэволюцыйных задач. У той час, як большэвікі вялі рэволюцыйную прапаганду і агітацыю сярод рабочых, сялян і салдат, адстойвалі ідэю гегемоніі дыктатуры пролетарыята, арганізоўвалі і згуртоўвалі масы, рыхтуючы іх да ўзброенай барацьбы з самадзяржаўем і буржуазіяй, меншавікі вялі яўна апартуністычную лінію. У час руска-японскай вайны яны выступілі супроць большэвіцкага лозунга паражэння царызма. Пасля 9 студзеня, калі ставілася пытанне аб падрыхтоўцы да ўзброенага паўстання, меншавіцкая «Искра» выступіла з планам земскай кампаніі, сэнс якога заключаўся ў тым, каб адцягнуць увагу рабочага класа ад рэволюцыйнай барацьбы, ператварыць яго ў саюзніка ліберальнай дваранска-буржуазнай земскай апазіцыі.

У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» гаворыцца аб гэтым перыядзе: «меншавікі да сваіх старых рознагалоссяў з большасцю партыі па **арганізацыйных** пытаннях дабавілі новыя рознагалоссі,—рознагалоссі па **тактычных пытаннях»** *).

Леніна і большэвікоў, якія адстойвалі адзінства партыі, яе рэволюцыйную лінію, меншавікі ўсяляк цкавалі, абліваючы са старонак новай «Искры» і ў радзе дакументаў і выступленняў патокамі гразі і паклёпу.

Партыя перажывала вельмі цяжкі перыяд у сваім жыцці. Партыя знаходзілася ў становішчы крызіса. Справа ішла аб жыцці і гонары партыі пролетарыята. У «Паведамленні аб скліканні трэцяга партый-

*) Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 60.

нага з'езда», напісаным Леніным і апублікаваным у лютым 1905 г., становішча партыі ў той момант характарызуецца наступным чынам:

> «Час не церпіць... хутка будзе позна... партыя рызыкуе раздробленай і бяссільнай папасці ў паток вялікіх падзей, рызыкуе страціць тады свой палітычны гонар і праіграць справу пралетарыята» *).

Ленін—арганізатар і тварэц партыі большэвікоў—з першых-жа крокаў раскольніцкай дзейнасці меншавіцкіх лідэраў падае лозунг склікання новага з'езда, як адзіна прынцыпова правільнага выхаду са стварыўшагася становішча, адзіна правільнага спасабу абуздаць дэзарганізатараў і разбуральнікаў партыі і спыніць барацьбу апартуністаў супроць партыі. Яшчэ ў лістападзе 1903 года ў адным са сваіх пісем Ленін падае лозунг склікання новага з'езда. Будучы кааптаваным пасля выхаду з «Искры» ў склад ЦК, Ленін выпрацоўвае план барацьбы з меншавікамі за рэвалюцыйную пралетарскую партыю, за вынікі II з'езда. У пачатку снежня 1903 года Ленін звараочаецца з пісьмом да членаў ЦК, якія знаходзіліся ў Расіі. У гэтым пісьме Ленін імкнецца пераканаць ЦК у неабходнасці прыняцця і ажыццяўлення плана:

> **«Ратунак адзін—з'езд. Лозунг яго: барацьба з дэзарганізатарамі... аб з'ездзе пакуль** нікому ні слова, тайна поўная. Рушыць **усе сілы, усё і ўся ў камітэты і ў аб'езды» **).**

У канцы студзеня 1904 года на пасяджэнні Совета партыі Ленін, які ўваходзіў у склад Совета, як прадстаўнік ЦК, выступае з афіцыяльнай прапановай склікаць III з'езд партыі. Аднак, у складзе Совета пераважалі ўжо меншавікі (Плеханаў, Мартаў, Аксельрод), і прапанова Леніна большасцю галасоў была адвергнута.

Меншавікі баяліся склікання партыйнага з'езда. Меншавікі, якія апіраліся на інтэлігенцкую частку партыі, галоўным чынам эмігранцкую, адарваную ад рабочых мас, бачылі, што большэвікі сустракалі гарачае спачуванне і падтрымку ў Расіі ў мясцовых партыйных арганізацыях, якія непасрэдна былі звязаны з пралетарскімі масамі і вялі сярод іх рэволюцыйную работу. Яшчэ ў кастрычніку 1903 года Каўказская соцыял-дэмакратычная арганізацыя (а асновапаложнікам і кіраўніком рэволюцыйнай соцыял-дэмакратыі ў Закаўказзі быў таварыш Сталін) выступіла на сваім з'ездзе супроць раскольніцкай дзейнасці меншавікоў. Рад арганізацый: Бакінскі камітэт, Батумскі, Астраханскі, Нікалаеўскі, Уфімскі, Сярэдне-Уральскі, Пермскі і інш.—прысылаюць у пачатку 1904 года свае рэзалюцыі-пратэсты супроць захвату меншавікамі Ц. О. і Совета партыі, супроць той апартуністычнай лініі, якую павяла новая «Искра».

У маі 1904 года выходзіць вядомая кніга Леніна «Крок наперад, два крокі назад», якая адыграла выключна вялікую ролю ў разгроме меншавізма. Яна мае велізарнае гістарычнае значэнне і таму, «што ў ёй Ленін першы ў гісторыі марксізма распрацаваў **вучэнне аб партыі,** як кіруючай **арганізацыі** пралетарыята, як асноўнай **зброі** ў руках пралетарыята, без якой немагчыма перамагчы ў барацьбе за пралетарскую дыктатуру» ***). Звярыную нянавісць выклікала гэта

*) **В. І. Ленін,** збор тв. т. VII, стар. 428.
**) Ленінскі зборнік, т. X, стар. 45.
***) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 50.

кніга ў лагеры расійскага і міжнароднага апартунізма. Разам з тым, кніга «Крок наперад, два крокі назад» яшчэ ясней згуртавала вакол Леніна большасць мясцовых партыйных арганізацый. З кожным днём усё больш і больш расце аўтарытэт і ўплыў Леніна.

І меншавіцкія кіраўнікі добра разумелі, што з'езд партыі велізарнай большасцю выкажацца супроць іх, вынесе свой суровы прысуд апартуністам, дэзарганізатарам, раскольнікам і замацуе пазіцыі большэвікоў. Вось чаму Ц. О., Совет партыі і прымірэнчы ЦК адчайна супраціўляліся патрабаванню Леніна сабраць з'езд.

> «Можна было-б знайсці выхад са становішча, калі-б склікаць безадкладна чарговы III з'езд партыі, устанавіць на з'ездзе адзіную тактыку і абавязаць меншасць чэсна праводзіць у жыццё рашэнні з'езда, падпарадкавацца рашэнням большасці з'езда. Гэты іменна выхад і прапанавалі большэвікі меншавікам. Але меншавікі і слухаць не хацелі аб III з'ездзе. Лічачы злачынствам пакідаць далей партыю без тактыкі, адобранай партыяй і абавязковай для ўсіх членаў партыі, большэвікі рашылі ўзяць на сябе ініцыятыву склікання III з'езда»*).

Летам 1904 года становішча большэвікоў робіцца асабліва цяжкім. Прымірэнчы ЦК становіцца прамою зброяй меншавікоў. Прымірэнцы—члены ЦК—у чэрвені 1904 года тайна ад Леніна прымаюць на сваім пасяджэнні так званую «Ліпеньскую дэкларацыю», накіраваную супроць Леніна, супроць большэвікоў. На падставе гэтага рашэння ў склад ЦК кааптуюцца яшчэ тры прымірэнцы, забараняецца агітацыя за з'езд, распускаецца Паўднёвае Бюро ЦК (большэвіцкае па свайму складу). Ленін на падставе гэтай дэкларацыі павінен стаць простым літаратурным супрацоўнікам і ставіцца пад кантроль Наскова і т. д. У руках меншавікоў, такім чынам, аказваюцца ўсе партыйныя цэнтры. У іх руках таксама транспарт, каса, выдавецтва.

Пачаўся самы напружаны і рашаючы этап барацьбы з меншавікамі.

Важнейшай падзеяй на гэтым этапе, якая адыграла ролю паваротнага пункта ў жыцці партыі, і з'яўляецца канферэнцыя большэвікоў, што ўвайшла ў гісторыю партыі пад назвай «Нарады 22-х большэвікоў».

Па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам Леніна, на працягу 12—14 жніўня 1904 года, у адной з вёсак каля Жэневы (Швейцарыя) была праведзена нарада, у якой прынялі ўдзел 19 відных большэвікоў, што знаходзіліся ў той час за граніцай і, у большасці сваёй, нядаўна прыехалі з мясцовай работы ў Расіі. Пазней да рашэнняў нарады далучыліся яшчэ тры большэвікі, і канчатковае рашэнне нарады рэдагавалася ад імя 22-х большэвікоў. У нарадзе ўдзельнічалі Ленін, Крупская, Вароўскі, Ольмінскі, Багданаў і інш. Нарада прыняла зварот «Да партыі», напісаны Леніным, намеціла склад большэвіцкага цэнтра (Бюро камітэта большасці), прыняла рашэнне аб арганізацыі большэвіцкага выдавецтва.

Зварот, прыняты нарадай у выніку абмеркавання пытання аб стварыўшымся крызісе ў РСДРП. аб шляхах выхаду з гэтага крызіса, стаў праграмай барацьбы за III з'езд партыі.

Нарада зыходзіла з ленінскай ацэнкі той гістарычнай абстаноўкі,

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 60.

у якой знаходзілася Расія напярэдадні першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гг.

«Рэвалюцыйнае ўзбуджэнне рабочага класа ўзрастае,—гаворыцца ў звароце,—узмацняецца бражэнне і ў іншых слаях грамадства, вайна і крызіс, голад і беспрацоўе са стыхійнай немінучасцю падрываюць карэнні самадзяржаўя»*).

Нарада, зварачаючыся да партыі, рабочага класа і ўсіх працоўных, указвае на немінучасць блізкіх сутычак рабочага класа з яго ворагамі, падкрэслівае неабходнасць напружыць усе сілы партыі, каб «арганізаваць рашучую барацьбу з самадзяржаўем».

У першых-жа радках свайго звароту нарада ўказвае на выключна цяжкае становішча, што стварылася ў партыі перад тварам тых велізарных задач, якія стаяць перад ёю ў данай гістарычнай абстаноўцы.

«Цяжкі крызіс партыйнага жыцця ўсё зацягваецца, яму не відаць канца. Смута расце, ствараючы ўсё новыя і новыя канфлікты, станоўчая работа партыі па ўсёй лініі сцяснёна ёю да крайнасці. Сілы партыі, маладой яшчэ і не паспеўшай уздужаць, бясплённа трацяцца ў паграseverжаючых размерах» **).

Некалькімі радкамі ніжэй мы зноў чытаем:

«Адзінства партыі падарвана глыбока, яе ўнутраная барацьба вышла з рамак усякай партыйнасці. Арганізацыйная дысцыпліна расхістана да самых асноў, здольнасць партыі да стройнага аб'яднанага дзеяння ператвараецца ў мару» ***).

Зварот ускрывае прычыны такога становішча партыі, указвае на тое, што ў аснове антыпартыйнай барацьбы ляжыць канфлікт паміж гурткаўшчынай і партыйнасцю, што «меншасць» аб'яднала ў сабе рознародныя, апартуністычныя элементы, варожыя тэорыі і практыцы рэвалюцыйнай соцыял-дэмакратыі, узняла сцяг паўстання супроць партыйнасці, супроць партыйнай дысцыпліны.

На каго-ж апіраюцца апартуністы-меншавікі, адкуль яны чэрпаюць кадры, хто іх падтрымлівае? Зварот 22-х большэвікоў дае на гэта пытанне вычарпальны адказ, указваючы, што галоўнаю крыніцай меншавіцкіх кадраў з'яўляецца пераважна інтэлігенцкая частка партыі, што знаходзіцца за граніцай, непасрэдна не звязана з рабочымі масамі, індывідуалістычна настроена ў сілу ўмоў свайго жыцця і работы, а таму і з большай цяжкасцю прыстасоўваецца да дысцыпліны партыйнай арганізацыі. І наадварот: меншавікі не маюць поспеху ў Расіі, сярод рабочага класа, сярод той партыйнай інтэлігенцыі, якая звязана з рабочым рухам, прасякнута пролетарскім духам і свядомасцю.

«Расія рашуча выступіла супроць гурткаўшчыны, супроць анархічных дэзарганізуючых тэндэнцый. Яна акрэслена выразіла гэтыя свае адносіны да іх у цэлым радзе заяў з боку камітэтаў і іншых партыйных арганізацый» ****).

Выкрываючы і бічуючы меншавікоў, указваючы, што яны вядуць барацьбу не супроць самадзяржаўя і буржуазіі, а супроць партыі,

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. I, стар. 37.
**) Там-жа, стар. 36—37.
***) Там-жа, стар. 37.
****) Там-жа, стар. 38.

нарада 22-х большэвікоў зварачаецца да партыі з заклікам змагацца за неадкладнае скліканне з'езда партыі, як адзіна магчымага практычнага выхаду з крызіса. «Без яго (з'езда.—Л.) можна чакаць толькі прагрэсіўнага разлажэння партыі» *).

У звароце фармуліруюцца таксама задачы III з'езда, рашэнне якіх неабходна для адзінства партыі, для аднаўлення нармальнага партыйнага жыцця. Нарада паставіла пытанне аб выгнанні меншавікоў з рэдакцыі Ц. О. і пераходзе Ц. О. у рукі большасці партыі, аб падпарадкаванні загранічнай лігі (меншавіцкай, якая проціставўляла сябе партыі) волі партыі, аб рэарганізацыі Совета партыі, які паказаў сваю непрыгоднасць да выканання пастаўленых перад ім задач, аб пераглядзе § 1 статута партыі, прынятага на II з'ездзе ў фармуліроўцы Мартава і супярэчачага ленінскім прынцыпам пабудовы партыі, і рад іншых пытанняў. Нарада, як гаворыцца ў звароце, ставіла перад сабою задачу даць праграму барацьбы за адзінства партыі. І гэта праграма была дана. На яе аснове большэвікі адстаялі адзінства партыі.

Заканчваецца зварот палкімі, поўнымі веры ў сілы партыі і ў яе будучае словамі:

> «У нас нараджаецца партыя!—гаворым мы, бачачы рост палітычнай свядомасці перадавых рабочых, бачачы актыўна выступаючыя ў агульнапартыйным жыцці камітэты. У нас нараджаецца партыя, у нас множацца маладыя сілы, здольныя замяніць і ажывіць старыя, трацячыя давер'е партыі, літаратурныя калегіі; у нас усё больш становіцца рэволюцыянераў, якія вытрыманы напрамак партыйнага жыцця цэняць вышэй, чым любы гурток ранейшых правадыроў. У нас нараджаецца партыя, і ніякія ўлоўкі і правалочкі не ўтрымаюць яе рашучага і канчатковага прысуду.
>
> З гэтых сіл нашай партыі чэрпаем мы ўпэўненасць у перамозе» **).

Кіруючыся ленінскімі ўказаннямі, зваротам нарады 22-х большэвікоў, партыя ў хуткім часе выносіць свой рашучы і канчатковы прысуд над меншавікамі.

Зварот да партыі быў надрукован Рыжскім камітэтам, якім тады кіраваў тав. Літвінаў, і рассылаўся ўсім мясцовым арганізацыям. Зварот сустрэў гарачае спачуванне і падтрымку большасці партыйных арганізацый Расіі. Адзін за другім далучаюцца да звароту партыйныя камітэты. Зварот пранікае нават скрозь турэмныя краты. 19 большэвікоў, якія знаходзіліся ў затачэнні ў маскоўскай Таганскай турме (Бауман, Ленгнік і інш.) далучаюць свой голас да голасу 22-х большэвікоў, выдаўшы з дапамогай Маскоўскага камітэта партыі ў кастрычніку 1904 г. зварот «19 членаў РСДРП».

Нарада намеціла склад Бюро камітэта большасці, у якое ўвайшлі: Ленін, Літвінаў, Лядаў, Багданаў, Вароўскі і інш. Гэта і быў ідэйны і арганізацыйны цэнтр большэвікоў, які кіраваў партыяй і арганізаваў работу па скліканню III з'езда. Душой, кіраўніком БКБ, як і крыху пазней створанай рэдакцыі большэвіцкай газеты «Вперед», быў В. І. Ленін. Большэвікі разгортваюць актыўную дзейнасць па скліканню III з'езда партыі. Большасць членаў БКБ выязджае ў Расію для

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. I, стар. 38.
**) Там-жа, стар. 40.

практычнай работы ў мясцовых камітэтах. Ленін, не гледзячы на перанесеную хваробу, энергічна бярэцца за стварэнне большэвіцкага органа. Яго намаганнямі ствараецца большэвіцкая газета, названая па яго-ж прапанове «Вперед».

У склад рэдакцыі «Вперед» увайшлі, акрамя В. І. Леніна—яе арганізатара і кіраўніка, Вароўскі, Ольмінскі, Луначарскі і Багданаў.

Першы нумар «Вперед» вышаў 4 студзеня 1905 года (па новаму стылю). Выдавалася яна ў Жэневе. Існавала газета да 18 мая 1905 г. (па н. ст.) і спыніла сваё існаванне ў сувязі з пастановай III з'езда партыі аб выданні «Пролетария»—органа ЦК, абранага III з'ездам. Газета «Вперед», з'яўляючыся органам першага большэвіцкага цэнтра БКБ, адыграла велізарную ролю ў справе ідэйнага і арганізацыйнага афармлення большэвізма, давала правільнае большэвіцкае асвятленне палітычным і ўнутрыпартыйным пытанням, дапамагала большэвікам у барацьбе з апартуністамі, меншавікамі і значна садзейнічала скліканню III з'езда партыі. Газета гаварыла мовай старой ленінскай «Искры» і была цесна звязана з мясцовымі партыйнымі арганізацыямі Расіі. Сувязь з мясцовымі арганізацыямі, меўшую велізарнае значэнне для партыі і работы газеты, ажыццяўляла, шляхам шыфраванай і хімічнай перапіскі, актыўны супрацоўнік газеты—Н. К. Крупская.

III з'езд партыі даў высокую ацэнку дзейнасці газеты «Вперед», адзначыў яе выдатную ролю «ў барацьбе за аднаўленне партыйнасці», яе значэнне «ў справе рэалізацыі з'езда» *) і выказаў удзячнасць рэдакцыі.

Створанае ў выніку нарады літаратурнае выдавецтва выпускае рад брашур, накіраваных супроць раскольнікаў і дэзарганізатараў. Выдаецца работа Леніна «Заявы і дакументы аб разрыве цэнтральных устаноў з партыяй». У гэту работу была ўключана перапіска члена ЦК—прымірэнца Наскова—з меншавікамі, якая ўскрыла падпольную змову ЦК і рэдакцыі ЦО супроць партыі, факт поўнага падпарадкавання ЦК меншавікам, факты грубага ашуканства і абману партыі. Была выдана работа Вароўскага «Совет супроць партыі» і рад іншых работ, якія наносілі моцныя ўдары па меншавіках.

Такім чынам, к канцу 1904 года большэвікі мелі свой цэнтр БКБ і друкаваны орган гэтага цэнтра—газету «Вперед». У гэты іменна перыяд у РСДРП склаліся, як сказана ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)»—«дзве абасобленыя фракцыі, большэвікоў і меншавікоў, са сваімі цэнтрамі, са сваімі органамі друку» **).

Совет партыі, «Искра» ўсяляк перашкаджаюць скліканню з'езда. Совет партыі і ЦК забараняюць агітацыю за з'езд. Прымірэнчы ЦК яшчэ больш зблізжаецца з меншавікамі і каптуе ў свой склад у кастрычніку 1904 г. трох меншавікоў.

Але партыя ідзе міма абанкроціўшыхся меншавіцкіх цэнтраў.

У канцы 1904 года ў Расіі склікаюцца абласныя канферэнцыі мясцовых камітэтаў, на якіх абмяркоўваецца зварот нарады 22-х большэвікоў. У верасні адбываецца Паўднёвая канферэнцыя, на якой удзельнічаюць Одэскі, Нікалаеўскі, Екацерынаслаўскі камітэты і Паўднёвае бюро ЦК; у сярэдзіне лістапада—Каўказская канферэнцыя з удзелам Тыфліскага, Бакінскага, Батумскага і Імерэціна-Мінгрэльскага камітэтаў; у снежні адбываецца Паўночная канферэнцыя ў

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. I, стар. 51.
**) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 50.

складзе Пецербургскага, Маскоўскага, Рыжскага, Ніжагародскага, Тверскага і Паўночнага камітэтаў (у Паўночны камітэт уваходзіла ўся Цэнтральна-прамысловая вобласць, акрамя Масквы).

Асабліва актыўную ролю ў барацьбе за ленінскую партыю і скліканне III з'езда адыграла Закаўказская арганізацыя бальшэвікоў, створаная і кіруемая таварышом Сталіным. Таварыш Сталін, які знаходзіўся ў канцы 1903 года ў далёкай сібірскай ссылцы, вядзе перапіску з Леніным, поўнасцю падтрымлівае ленінскую лінію непрымірымай барацьбы з апартуністамі, ленінскі план пабудовы пралетарскай партыі новага тыпу. Бегшы ў студзені 1904 года з ссылкі, таварыш Сталін звярачаецца ў Тыфліс, становіцца на чале бальшэвіцкіх арганізацый Закаўказзя і вядзе нястомную барацьбу з меншавікамі, анархістамі, буржуазнымі нацыяналістамі, адстойваючы ленінскія прынцыпы і пазіцыі.

Барацьба таварыша Сталіна ў Закаўказзі за ленінскую партыю выходзіла далёка за межы значэння мясцовай барацьбы, яна з'яўлялася барацьбой агульнарасійскага значэння. Меншавікі спрабавалі ператварыць Закаўказзе ў сваю цытадэль, і таму Закаўказзе прадстаўляла сабой надзвычай важны і адказны ўчастак агульнарасійскага фронта барацьбы з апартунізмам.

Кіруемы таварышом Сталіным Каўказскі Саюзны камітэт парывае сувязь з ЦК РСДРП, які перашоў у рукі меншавікоў, і на аснове ленінскіх указанняў высоўвае патрабаванне аб скліканні III з'езда партыі. Таварыш Сталін наносіць руйнуючыя ўдары меншавікам. Ён праводзіць рад дыскусій з меншавікамі ў Тыфлісе, Баку, Кутаісі, Чыятурах, Батумі, Поці і іншых месцах. У гэтых дыскусіях ён разбівае ўшчэнт меншавіцкіх лідэраў і заваёўвае на бок бальшэвікоў падаўляючую большасць соцыял-дэмакратычных рабочых.

Калі ў чэрвені 1907 года Бакінскі камітэт (меншавіцкі па свайму складу) выступіў супроць ідэі склікання III з'езда партыі, Каўказскі Саюзны камітэт распускае меншавіцкі камітэт у Баку і стварае новы, бальшэвіцкі камітэт. Меншавікі, якія кіравалі адзін час Тыфліскім камітэтам, адмаўляліся выконваць бальшэвіцкія дырэктывы і прынялі ў студзені 1905 года рашэнне аб выхадзе са складу Саюзнага камітэта, стаўшы тым самым на шлях расколу, зрыву прынцыпаў II з'езда партыі, статута партыі.

Саюзны камітэт распускае меншавіцкі Тыфліскі камітэт і стварае новы, бальшэвіцкі камітэт, які становіцца сапраўдным прадстаўніком Тыфліскай партыйнай арганізацыі, яе баявым кіраўніком у барацьбе з самадзяржаўем і буржуазіяй.

Таварыш Сталін стварае новыя бальшэвіцкія камітэты ў Кутаіскай губерніі (Імерэціна-Мінгрэльскі) і ў Чыятурскім павеце (Чыятурскі камітэт). Таварыш Сталін кіруе ў гэты перыяд газетай «Борьба пролетариата», якая выдаецца ў Тыфлісе, змяшчае ў ёй, а таксама і ў іншых бальшэвіцкіх газетах Закаўказзя, рад артыкулаў, у якіх бязлітасна громіць меншавікоў, не пакідаючы каменя на камені ад меншавіцкіх апартуністычных поглядаў і паслядоўна адстойваючы ленінскае вучэнне аб партыі, арганізацыйныя прынцыпы бальшэвізма. Асабліва вялікае значэнне ў барацьбе з меншавікамі і ў справе прапаганды і абгрунтавання ленінскага вучэння аб партыі мела брашура таварыша Сталіна пад назвай: «Мімаходзь аб партыйных рознагалоссях».

Як толькі Каўказскаму Саюзнаму, Тыфліскаму і Імерэціна-Мінгрэльскаму камітэтам стаў вядомы ў верасні 1904 года зварот на-

рады 22-х большэвікоў, яны адразу-ж далучаюцца да гэтага звароту. Каўказскія большэвікі энергічна рыхтуюцца да абласной канферэнцыі большэвіцкіх камітэтаў Закаўказзя і праводзяць яе, як ужо было ўказана, у сярэдзіне лістапада 1904 года. На гэтай канферэнцыі ўдзельнічалі 15 дэлегатаў ад Тыфліскага, Бакінскага, Батумскага і Імерэціна-Мінгрэльскага камітэтаў. Кіруючыся зваротам 22-х большэвікоў, канферэнцыя асудзіла дэзарганізатараў меншавікоў і выказалася за безадкладнае скліканне III з'езда партыі.

У рашэнні канферэнцыі гаворыцца:

«Узнікшы адразу-ж пасля II з'езда, з прычыны нежадання так званай «меншасці» падпарадкавацца партыйнай дысцыпліне, партыйны крызіс на працягу ўсяго пасляз'ездаўскага перыяда не дазваляў партыі абслугоўваць колькі-небудзь здавальняюча інтарэсы расійскага пролетарыята...

Спадзявацца на тое, што нашы цэнтральныя ўстановы аднымі ўласнымі намаганнямі вывелі-б партыю з такога цяжкага становішча, па ўказаных вышэй прычынах няма ніякіх падстаў... Калі хто і можа гэта зрабіць, то толькі сама-ж партыя шляхам з'езда; толькі законным шляхам партыйнага з'езда можна вярнуць цэнтрам утрачанае давер'е, неабходнае для іх дзеяздольнасці. Неабходны ў інтарэсах унутрыпартыйнага міру безадкладна скліканы экстраны з'езд вельмі патрэбен і па ўмовах данага гістарычнага моманта, які патрабуе **выключнай** узгодненасці і адзінства ў дзеяннях паасобных частак партыі для рашучага націску на царскае самадзяржаўе» *).

Прымірэнец Наскоў, прадстаўнік меншавіцкага ЦК, выехаў у канцы 1904 года ў Баку, каб падтрымаць каўказскіх меншавікоў і сарваць работу большэвікоў па скліканню партыйнага з'езда. Аднак гэта яму не ўдалося. У Баку накіроўваецца таварыш Сталін. Пад яго кіраўніцтвам і пры яго непасрэдным удзеле, меншавікам і прымірэнцам наносяцца новыя ўдары. У выніку работы таварыша Сталіна ў Баку, кампанія за скліканне III з'езда партыі значна ўзмацняецца.

Лепшы саратнік Леніна—таварыш Сталін—цвёрда і няўхільна праводзіў ленінскую лінію, вёў бязлітасную барацьбу з усімі ворагамі рабочага класа, згуртоўваючы і яднаючы пад сцягам партыі большэвікоў рабочых і сялян Закаўказзя.

Праведзеныя ў канцы 1904 года канферэнцыі (Паўднёвая, Каўказская, Паўночная), якія прадстаўлялі партыйныя арганізацыі буйнапрамысловых цэнтраў, прынялі зварот 22-х і абралі бюро камітэтаў большасці ў складзе, намечаным нарадай 22-х большэвікоў.

Абранае на канферэнцыях Бюро камітэтаў большасці разгортвае энергічную работу па скліканню III з'езда.

У снежні 1904 года Пецербургскі камітэт, які ўдзельнічаў на Паўночнай канферэнцыі, зварачаецца да ЦК партыі з ультыматыўным патрабаваннем аб скліканні III з'езда і папярэджаннем, што калі ЦК не згодзіцца, то БКБ скліча з'езд паміма ЦК. БКБ мела ўсе правы на падобную пастаноўку пытання, бо за БКБ ішла ўжо тады значная большасць камітэтаў, але прымірэнчы ЦК не даваў адказу. БКБ пачынае дзейнічаць самастойна. З канца студзеня пачынаецца аб'езд членамі і агентамі БКБ усіх арганізацый. Ідэя склікання з'езда на месцах упаўне наспела. Да БКБ далучаюцца ўсё новыя і новыя камі-

*) Л. Берыя, „Да пытання аб гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі", стар. 35—36.

тэты. К 4 (17) красавіка 1905 года за скліканне з'езда выказваюцца камітэты: Пецербургскі, Маскоўскі, Паўночны, Ніжагародскі, Тверскі, Тульскі, Рыжскі, Сібірскі саюз, Варонежскі, Саратаўскі, Одэскі, Каўказскі саюз, Нікалаеўскі, Уральскі, Орлоўска-Бранскі, Курскі, Смаленскі, Палескі, Паўночна-Заходні, Харкаўскі і Самарскі. Кіеўскі камітэт выказаўся спачатку супроць з'езда, але затым усё-ж абраў дэлегата і паслаў яго на з'езд. Усе гэтыя арганізацыі, не лічачы Кіеўскага камітэта, складалі 52 галасы з агульнай колькасці 75 галасоў, што прадстаўлялі ўсю партыю. Такім чынам, за скліканне з'езда выказалася звыш двух трацей партыі.

Калі фактычна ўся партыя выказалася за з'езд і работа па падрыхтоўцы з'езда падыходзіла к канцу, ЦК партыі вымушан быў капітуляваць і даў згоду на скліканне з'езда.

Большэвікі мелі ўсе падставы не давяраць данаму складу ЦК і настаялі на тым, каб усю далейшую работу па арганізацыі з'езда вёў Арганізацыйны Камітэт у складзе прадстаўнікоў БКБ і ЦК.

У барацьбе за рэволюцыйную пролетарскую партыю новага тыпу, за скліканне III з'езда большэвікам прышлося вытрымаць бой не толькі з рускімі апартуністамі і прымірэнцамі, але і з апартунізмам у міжнародным рабочым руху, з апартуністамі-цэнтрыстамі і нават з «левымі» элементамі ў II Інтэрнацыянале.

Правадыры II Інтэрнацыянала з самага пачатку барацьбы большэвікоў з меншавікамі выступалі ў абарону апошніх. І ў перыяд, калі барацьба дасягнула свайго найвышэйшага напружання, у перыяд непасрэднай падрыхтоўкі да III з'езда, правадыры II Інтэрнацыянала зрабілі яшчэ адну спробу ліквідаваць большэвіцкую партыю, сарваць скліканне III з'езда. Яны прапанавалі з'езд не склікаць, а перадаць пытанне аб рознагалоссях на вырашэнне міжнароднага «трацейскага» суда. Ясна, куды вяла такая прапанова. Большэвікі на гэта не пайшлі і працягвалі барацьбу за самастойную рэволюцыйную партыю пролетарыята, партыю новага тыпу, свабодную ад апартунізма, партыю, якая ідзе без усякіх хістанняў на разрыў, на раскол з апартуністамі.

У ходзе падрыхтоўкі да з'езда з'явілася яшчэ адна перашкода: неўзабаве пасля абрання БКБ, пры абмеркаванні дэкларацыі аб скліканні III з'езда партыі ўзніклі прымірэнчыя хістанні ўнутры БКБ. Багданаў (выключаны ў 1909 г. з радоў партыі як ліквідатар «злева») спрабаваў змякчыць астрату рознагалоссяў паміж большэвікамі і меншавікамі, выказаўся за сумесную работу з меншавікамі, за астаўленне іх у партыі. Член БКБ Землячка рэкамендавала не парываць з ЦК, не выступаць адкрыта ад імя БКБ.

Ленін рэзка і рашуча выступіў супроць гэтых прымірэнчых хістанняў. Цвёрдая, непрымірымая пазіцыя Леніна дапамагла перамагчы і гэту перашкоду на шляху склікання III з'езда.

У выніку жорсткай барацьбы з ворагамі марксізма-ленінізма, наперакор волі расійскіх і міжнародных апартуністаў і прымірэнцаў да іх, Ленін, большэвікі склікалі III з'езд партыі дакладна ў намечаны тэрмін: 25 (12) красавіка 1905 года ў Лондане.

Гэта быў першы чыста большэвіцкі з'езд, які меў велізарнейшае значэнне ў гісторыі большэвіцкай партыі.

Меншавікі адмовіліся прыняць удзел у з'ездзе і склікалі ў Жэневе сваю асобную канферэнцыю. Такім чынам «РСДРП аказалася на справе расколатай на дзве партыі, партыю большэвікоў і партыю

меншавікоў» *). «Два з'езды—дзве партыі»—так вызначыў Ленін становішча, якое ў той час стварылася.

З усяго сказанага пра абстаноўку, у якой праходзіла нарада 22-х большэвікоў, пра рэзультаты работы нарады можна зрабіць наступны вывад:

Нарада 22-х большэвікоў, скліканая і кіруемая Леніным, адыграла велізарную ролю ў барацьбе большэвікоў з меншавікамі.

Нарада дала праграму барацьбы за III з'езд партыі і падрыхтавала стварэнне большэвікамі сваіх цэнтраў—БКБ і «Вперед». Гэтыя цэнтры пад кіраўніцтвам Леніна і забяспечылі скліканне III з'езда партыі, знаменаваўшага сабой буйную перамогу большэвікоў над апартуністамі ўсіх масцей і над прымірэнцамі да іх.

**І. Леўтоў.**

---

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 90.

# Што такое „Крымская кампанія"

**Тав. Ігнаценя Ф. І.** (Старобінскі раён) у сваім пісьме ў рэдакцыю журнала «Большэвік Беларусі» піша:

> *«У 1 раздзеле гісторыі ВКП(б) указваецца, што царскі ўрад, аслаблены ваенным паражэннем у час Крымскай кампаніі і запалоханы сялянскімі «бунтамі» супроць памешчыкаў, аказаўся прымушаным адмяніць у 1861 годзе прыгоннае права».*
> *Прашу растлумачыць, што такое «Крымская кампанія».*

**Адказваем на пытанне таварыша Ігнацені.**

«Крымская кампанія»—гэта вайна царскай Расіі з ваенным саюзам, у які ўваходзілі тры дзяржавы: Турцыя, Англія і Францыя. Вайна гэта адбывалася ў 1853—1856 годах.

У той час Расія была феадальна-прыгонніцкай краінай, вельмі адсталай у параўнанні з заходне-еўрапейскімі краінамі. Жудасная эксплаатацыя прыгоннага сялянства выклікала ў ім абурэнне супроць памешчыкаў, узнімала на рэволюцыйную барацьбу супроць самадзяржаўя. Нікалай I жорстка распраўляўся з прыгоннымі масамі. У 1825 годзе ён бязлітасна падавіў паўстанне дзекабрыстаў, якія спрабавалі скінуць царызм і знішчыць прыгоннае права. Але, не гледзячы на рэпрэсіі, барацьба народных мас супроць прыгоннага ладу ўсё ўзмацнялася.

Каб адцягнуць масы ад барацьбы супроць прыгоннага права і забяспечыць памешчыкам найкарацейшы шлях для вывазу хлеба за граніцу, Нікалай I ідзе на авантуру. Ён зацявае вайну з Турцыяй. Перамогай у гэтай вайне ён спадзяваўся ўзняць свой прэстыж сярод заходне-еўрапейскіх краін і ўзмацніць рэакцыю як унутры Расіі, так і ў Заходняй Еўропе.

Пра Нікалая I Энгельс пісаў:

> «Гэта быў па натуры пасрэдны ротны камандзір, які вышэй за ўсё цаніў знешнюю відочнасць улады і гатоў быў дзеля гэтай відочнасці пайсці на ўсё» *).

Рускі царызм песціў заветную мару—захапіць Канстанцінопаль з Басфорскім і Дарданельскім пралівамі. Але кожны раз, як толькі царская Расія прабавала ажыццявіць гэту мэту, яна нязменна натыкалася на супраціўленне краін Заходняй Еўропы. Так здарылася і ў 1853 годзе. Уступаючы ў вайну з Турцыяй, прыгонная Расія сустрэла супраціўленне з боку больш перадавых капіталістычных краін—Англіі

*) **К. Маркс і Ф. Энгельс,** зб. тв. т. XVI, ч. II, стар. 24.

і Францыі, якія добра разумелі, што ў выпадку аўладання пралівамі Расія ўмацавалася-б стратэгічна.

Энгельс у сваёй рабоце «Знешняя палітыка рускага царызма» наконт гэтага гаворыць:

«Гэта было-б адзінадзяржаўным панаваннем над Чорным морам, Малай Азіяй, Балканскім поўвостравам. Гэта азначала-б, што Чорнае мора, калі толькі пажадае цар, можа быць замкнута для ўсіх гандлёвых і ваенных флотаў, акрамя рускага, што гэта мора ператворана ў рускую ваенную гавань і месца манеўраў рускага флота, які ў любы момант мог-бы з гэтага безапаснага прытулку рабіць вылазкі праз умацаваны Басфор і хавацца назад» *).

Нікалай I спяшаўся з развязваннем вайны. Ён імкнуўся як найхутчэй падарваць, а потым канчаткова падавіць сялянскі рух і ўмацаваць гніючы феадальна-прыгонніцкі лад у Расіі.

Энгельс па гэтаму пытанню пісаў:

«Каб самадзяржаўна ўладарыць унутры краіны, царызм у знешніх зносінах павінен быў не толькі быць непераможным, але і безупынна атрымліваць перамогі, ён павінен быў умець узнагароджваць безумоўную пакорлівасць сваіх падданых шавіністычным чадам перамогі, усё новымі і новымі заваяваннямі» **).

Повад для вайны хутка знайшоўся. Францыя ў 1851 годзе пачала праяўляць актыўнасць у імкненні аўладаць «святымі» месцамі Палестыны. Турцыя ў гэтым пытанні была на баку Францыі. Нікалай I тэрмінова адпраўляе ў Канстанцінопаль князя Меншыкава надзвычайным паслом. Пытанне аб «святых» месцах амаль было вырашана, але Меншыкаў высунуў тады новае патрабаванне. Ён прад'явіў ультыматум Турцыі, у якім гаварылася, што праваслаўныя, якія пражываюць у Турцыі, павінны знаходзіцца пад апекай Нікалая I. Турцыя не магла згадзіцца на такое патрабаванне, бо гэта было-б прамым умяшаннем у яе ўнутраныя справы. Тады Меншыкаў пакінуў Канстанцінопаль.

Нікалай I загадаў рускай арміі заняць Малдавію і Валахію.

Турцыя ў той час была аслабленай краінай і не магла аказаць моцнага процідзеяння Расіі. Турэцкі ваенны флот быў слабей чорнаморскага флота царскай Расіі. 30 лістапада 1853 года 12 турэцкіх караблёў былі патоплены рускім флотам на рэйдзе каля гавані Сіноп. Гэта перамога выклікала шаленства ў англійскіх і французскіх урадавых колах, якія не хацелі дапусціць, каб Расія ўмацавалася разгромам Турцыі. Англія і Францыя заключылі паміж сабою саюз, у выніку якога аб'яднаны англа-французскі флот увайшоў у Чорнае мора.

Саюзнікі патрабавалі, каб Расія вывела свае войскі з Дунайскіх княстваў. Нікалай I не пайшоў на гэта. Тады Англія і Францыя 27 сакавіка 1854 года аб'явілі вайну Расіі. Імкнучыся яе ізаляваць, саюзнікі падпісалі пагадненне з Аўстрыяй і Прусіяй, па якому гэтыя краіны без згоды другіх дзяржаў не павінны былі заключаць дагавораў з Расіяй.

*) К. Маркс і Ф. Энгельс, зб. тв. т. XVI, ч. II, стар. 10.
**) Там-жа, стар. 29.

Ваенныя дзеянні разгортваліся. Руская армія пераправілася праз раку Дунай і прыступіла да асады турэцкай крэпасці Сілістрыі. Пасля шасці дарэмных штурмаў, страціўшы 50 тысяч чалавек забітымі, раненымі і памёршымі ад хвароб, рускія 23 чэрвеня знялі асаду Сілістрыі. Па згодзе з Турцыяй дунайскія княствы заняла аўстрыйская армія. Ваенныя дзеянні на Дунаі страцілі сваё значэнне.

Саюзная армія пачала канцэнтравацца ў Варне. Англа-французскі флот разбурыў Одэскі порт. Рускі-ж чорнаморскі флот схаваўся ў Севастопальскай гавані. Ён складаўся з 14 лінейных караблёў, 7 фрэгатаў і 11 караблёў меншага размеру. Саюзны флот складаўся з 89 ваенных і 267 транспартных суднаў. Рускія рыхтаваліся абараняць Одэсу. У Бесарабіі было сканцэнтравана 180 тысяч салдат рускай арміі, а ў Крыме—толькі 50 тысяч. Але саюзныя войскі сталі высаджвацца ў Крыме, на поўнач ад Севастопаля. 20 верасня яны рушылі на пазіцыі рускіх каля ракі Альма. Бой выйграла саюзная армія. Яна страціла 3 тысячы чалавек, рускія страцілі 6 тысяч. У гэтым баі з усёй відавочнасцю выявілася адсталасць прыгоннай царскай Расіі ў ваеннай тэхніцы. Руская армія была ўзброена крамнёвымі гладкаствольнымі ружжамі, якія стралялі на 300 крокаў, тым часам як саюзнікі мелі не толькі якасна лепшы флот, але і ўзбраенне сухапутнай арміі. Іх войскі былі ўзброены наразнымі вінтоўкамі з дальнасцю бою на 1000—1300 крокаў.

Да ўсяго гэтага афіцэрскі склад рускай арміі быў не на вышыні свайго звання; большасць афіцэраў была бяздарнымі людзьмі, якія ўмелі толькі абкрадаць сваіх салдат. Рускія салдаты біліся гераічна і неслі вялікія страты ад агню непрыяцеля.

Перамога саюзных войск пры рацэ Альме адкрыла ім дарогу к Севастопалю. Князь Меншыкаў, які стаяў на чале крымскай арміі, аддаў загад адміралу Карнілаву перагарадзіць дарогу непрыяцельскаму флоту. З гэтаю мэтай пры ўваходзе ў Севастопальскую гавань было затоплена 7 караблёў, астатнія караблі ўвайшлі ўнутр гавані. Яны даставілі Севастопалю харчаванне на 7 месяцаў. Экіпаж у 18 тысяч маракоў далучыўся да абаронцаў Севастопаля.

Меншыкаў, ахоплены панікай, адышоў на поўнач ад Севастопаля. 2 і 3 кастрычніка саюзныя войскі занялі пазіцыі, пакінутыя Меншыкавым. З гэтага моманту пачалася асада Севастопаля і яго гераічная абарона, якая працягвалася 349 дзён.

Не гледзячы на адсталую ваенную тэхніку, матросы і салдаты супраціўляліся мужна, праяўляючы цуды храбрасці і геройства. Севастопаль, добра ўмацаваны з мора, з сушы заставаўся безабаронным. Таленавіты інжынер падпалкоўнік Тотлебен спешна арганізаваў работы па ўмацаванню Севастопаля з сушы. З Бесарабіі прыбылі падмацаванні. Меншыкаў мог выставіць 100.000 салдат супроць 65 тысяч саюзных войск. 5 лістапада адбыўся бой пры Інкермане, у якім рускія страцілі 11.500 чалавек, а саюзнікі—каля 4 тысяч.

Бяздарнага генерала Меншыкава змяніў Гарчакоў, але і ён пацярпеў няўдачу пры спробе аўладаць Еўпаторыяй. Англічане і французы прысылалі ў Крым новыя папаўненні. К вясне 1855 года саюзнікі мелі ўжо 140 тысяч салдат. Руская армія працягвала цярпець няўдачы. У такой абстаноўцы Нікалай I прыняў атруту і 2 сакавіка 1855 года памёр.

Яго сын Александр II працягваў вайну. Руская армія нясла вялікія страты. Так, 16 жніўня рускія зрабілі няўдалую вылазку і страцілі 8 тысяч салдат. 17 жніўня саюзнікі пачалі моцную бамбардыроўку Севастопаля, ад якой штодзённа гінула 700—800 рускіх салдат. З 5-га верасня, на працягу трох дзён, саюзнікі адкрылі па гораду няспынны агонь з 803 гармат. 8 верасня французы ўзялі галоўнае ўмацаванне—Малахаў курган. У час бою за Малахаў курган рускія страцілі 13 тысяч чалавек. Ноччу па мосту, пракладзенаму цераз паўночную гавань, рускія пакінулі Севастопаль. Рэшткі рускага флота былі спалены. У гэты час саюзнікі мелі ў Крыме 200-тысячнае войска. Гарчакоў меў 180 тысяч салдат. Руская армія затрымалася каля Сімферопаля. Ваенныя дзеянні спыніліся. 30 сакавіка 1856 года ў Парыжы быў падпісан мірны дагавор. Па гэтаму дагавору Расія пазбаўлялася магчымасці трымаць на Чорным моры ваенна-морскі флот і аднаўляць крэпасць Севастопаль.

Паражэнне ў Крымскай вайне вельмі аслабіла царскую Расію. Гэта вайна выявіла гніласць і бяссілле прыгонніцкай Расіі. Яна паказала на неабходнасць развіцця прамысловасці. А каб мець на рынку патрэбную рабочую сілу, неабходна было ліквідаваць прыгоннае права. Атрымаўшы паражэнне ў Крымскай вайне і запалоханы сялянскімі паўстаннямі царскі ўрад ужо не ў сілах быў захаваць прыгонную сістэму. Велізарныя афяры ў сувязі з вайною выклікалі моцную незадаволенасць сярод шырокіх мас прыгоннага сялянства, на плечы якога пануючы клас узваліў увесь цяжар вайны. Сялянскія паўстанні разрасталіся па ўсёй краіне. За адно толькі пяцігоддзе—з 1855 па 1860 год—адбылося 374 паўстанні. Паўстаўшыя сяляне настойліва патрабавалі «волі», адмены прыгону.

Прыгонны лад у Расіі далей не мог трымацца.

Пануючыя класы, баючыся гневу народных мас і рэвалюцыйнага звяржэння існуючага ладу знізу, паспяшылі адмяніць прыгоннае права зверху.

> «Адмена прыгоннага права была праведзена не паўстаўшым народам, а ўрадам, які пасля паражэння ў Крымскай вайне ўбачыў поўную немагчымасць захавання прыгонных парадкаў» *).

**Т. Гладзікаў.**

---

*) В. І. Ленін, т. XV, стар. 108—109.

# Аб мерапрыемствах па ўпарадкаванню працоўнай дысцыпліны, паляпшэнню практыкі дзяржаўнага соцыяльнага страхавання і барацьбе са злоўжываннямі ў гэтай справе

*Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза ССР, Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў) і Усесаюзнага Цэнтральнага Совета Прафесіянальных Саюзаў*

У Совецкім Саюзе працоўныя працуюць не на капіталістаў, а на сябе, на сваю соцыялістычную дзяржаву, на карысць усяго народа. Пераважная большасць рабочых і служачых чэсна і добрасумленна працуе на прадпрыемствах, на транспарце, ва ўстановах, праяўляючы свядомыя адносіны да працы, даючы ўзоры ўдарніцтва і працоўнай доблесці, умацоўваючы магутнасць і абараназдольнасць радзімы.

Але побач з чэснымі і добрасумленнымі работнікамі яшчэ ёсць паасобныя, несвядомыя, адсталыя або нядобрасумленныя людзі— летуны, лодыры, прагульшчыкі і рвачы.

Гэтыя людзі сваёй нядобрасумленнай работай, прагуламі, спазненнямі на работу, бязмэтавым хаджэннем па прадпрыемству ў рабочы час і іншымі парушэннямі правіл унутранага працоўнага распарадку, а таксама частымі самавольнымі пераходамі з адных прадпрыемстваў у другія разлагаюць дысцыпліну працы, наносяць вялікую шкоду прамысловасці, транспарту і ўсёй народнай гаспадарцы.

Яны імкнуцца даць дзяржаве работы паменш, а сабе ўрваць грошай пабольш. Яны злоўжываюць совецкімі законамі і правіламі аб працы, скарыстоўваючы іх у сваіх карыслівых інтарэсах, яны не працуюць поўнасцю нават устаноўленых гадзін рабочага дня, а нярэдка працуюць усяго толькі 4 ці 5 гадзін, растрачваючы астатнія 2—3 гадзіны рабочага часу ўпустую. На гэтым народ і дзяржава трацяць штогод мільёны рабочых дзён і мільярды рублёў.

Калі летуноў і лодыраў звальняюць, яны пачынаюць суцяжнічаць, і, не працуючы, дабіваюцца аплаты за нібыта вымушаны прагул. Звальненне з прадпрыемстваў за парушэнне працоўнай дысцыпліны, як правіла, не з'яўляецца колькі-небудзь сапраўдным пакараннем для прагульшчыкаў, бо ў большасці выпадкаў яны неадкладна ўстрайваюцца на работу ў іншых прадпрыемствах.

Скарыстоўваючы цяпер дзеючае правіла аб парадку прадастаўлення водпускаў, згодна якому права на водпуск прадастаўляецца па сканчэнні 5½ месячнай работы ў прадпрыемстве ці ўстанове, летуны і лодыры, перабягаючы з аднаго прадпрыемства ў другое, ухітраюцца атрымліваць два водпускі на працягу года, аказваючыся ў пераважным становішчы перад добрасумленнымі рабочымі і служачымі.

У дамах, пабудаваных заводамі і фабрыкамі для сваіх рабочых і служачых, кватэры нярэдка заняты асобамі, самавольна пакінуўшымі работу ў гэтых прадпрыемствах або звольненымі за парушэнне працоўнай дысцыпліны, а з-за гэтага рабочыя і служачыя, якія доўга і чэсна працуюць у адным прадпрыемстве, скрозь і ўсюды пазбаўлены неабходнай ім жылой плошчы.

Пры размеркаванні пуцёвак у дамы адпачынку і санаторыі летуны і прагульшчыкі карыстаюцца такімі-ж правамі, што і чэсна працуючыя служачыя і рабочыя. Роўным чынам і пры выплаце страхавой дапамогі па часовай непрацаздольнасці, а таксама пры назначэнні пенсій не праводзіцца неабходнага рэзкага адрознення паміж добрасумленнымі работнікамі з вялікім бесперапынным стажам работы ў даным прадпрыемстве або ўстанове і парушальнікамі працоўнай дысцыпліны—летунамі, перабягаючымі з адных прадпрыемстваў і ўстаноў у другія.

Некаторыя профсаюзныя, гаспадарчыя, а таксама судовыя органы праяўляюць недапушчальнае проціпароднае патуранне да парушальнікаў працоўнай дысцыпліны і нават патакаюць ім—наперакор інтарэсам народа і дзяржавы,—вырашаючы зачастую пытанні аб аднаўленні на работу, аб выплаце дапамогі па часовай непрацаздольнасці, аб высяленні з завадскіх кватэр і т. д. у карысць летуноў і прагульшчыкаў.

Усё гэта прыводзіць да такога становішча, калі нядобрасумленныя работнікі, мала працуючы, могуць жыць за кошт дзяржавы, за кошт народа, што выклікае справядлівыя пратэсты з боку большасці рабочых і служачых і патрабуе ўнясення некаторых змен у існуючыя правілы ўнутранага працоўнага распарадку і ў нормы соцыяльнага страхавання з тым, каб надалей не дапускалася аднолькавых адносін да добрасумленных работнікаў і да лодыраў, летуноў, каб заахвочваліся толькі чэсна працуючыя рабочыя і служачыя, а не тыя, хто падрывае працоўную дысцыпліну і лёгка перабягае з аднаго прадпрыемства на другое.

Вялікія злоўжыванні маюць месца таксама ў практыцы выкарыстання водпускаў па цяжарнасці і родах. Нярэдкі факты, калі некаторыя жанчыны, якія імкнуцца ашуканчым шляхам пажывіцца за кошт дзяржавы, паступаюць на работу ў прадпрыемствы і ўстановы незадоўга да родаў толькі для таго, каб атрымаць 4-месячны водпуск за кошт дзяржавы і больш не вяртацца на работу. Інтарэсы дзяржавы патрабуюць, каб гэтым злоўжыванням быў неадкладна пакладзен канец.

Совет Народных Камісараў Саюза ССР, Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў) і Усесаюзны Цэнтральны Совет Прафесіянальных Саюзаў—п а с т а н а ў л я ю ц ь:

1. Абавязаць адміністрацыю прадпрыемстваў і ўстаноў разам з профсаюзнымі органамі павесці рашучую барацьбу з усімі парушальнікамі працоўнай дысцыпліны і правіл унутранага працоўнага распарадку, з прагульшчыкамі, лодырамі, рвачамі,—з усімі, хто нячэсна адносіцца да сваіх працоўных абавязкаў, няхай гэта будзе служачы ці рабочы.

Закон патрабуе звальнення рабочага ці служачага, дапусціўшага прагул па няўважлівай прычыне. Гэта мера накіравана супроць дармаедаў, якія не хочуць працаваць, а імкнуцца жыць за кошт дзяржавы, за кошт народа. Патрабаванне закона аб звальненні прагульшчыкаў павінна выконвацца няўхільна.

Законам устаноўлены і рабочым класам прыняты 8-гадзінны рабочы дзень, 7-гадзінны рабочы дзень, 6-гадзінны рабочы дзень для розных прадпрыемстваў і ўстаноў, у залежнасці ад умоў работы. Пры гэтым 7-гадзінны рабочы дзень мае пераважная большасць рабочых. Дзяржава патрабуе і рабочы клас падтрымлівае гэта патрабаванне, каб устаноўленая законам працягласць рабочага дня захоўвалася ў дакладнасці і без усякіх парушэнняў, каб там, дзе ўстаноўлен 8-гадзінны, 7-гадзінны ці 6-гадзінны рабочы дзень, работа праводзілася, згодна закона, поўных 8, 7 і 6 гадзін. Спазненні на работу, дачасны ўход на абед, запаздалы прыход з абеду, дачасны ўход з прадпрыемства, а таксама бяздзейнічанне ў рабочы час—усё гэта складае грубейшае парушэнне працоўнай дысцыпліны, парушэнне закона, якое цягне за сабой падрыў гаспадарчай і абароннай магутнасці краіны і добрабыту народа.

Рабочы ці служачы, дапусціўшы спазненне на работу без уважлівых прычын, або дачасна ўшоўшы на абед, або спазніўшыся прыходам з абеда, або раней часу ўшоўшы з прадпрыемства ці з установы, або бяздзейнічаўшы ў рабочы час, падвяргаецца адміністрацыяй спагнанню: заўвага ці вымова, або вымова з папярэджаннем аб звальненні; перавод на іншую, ніжэйаплачваемую работу на тэрмін да 3 месяцаў, або змяшчэнне на ніжэйшую пасаду.

Рабочы ці служачы, дапусціўшы тры такія парушэнні на працягу аднаго месяца або чатыры парушэнні на працягу двух месяцаў падрад, падлягае звальненню, як прагульшчык, як парушальнік закона аб працы і працоўнай дысцыпліне.

2. Устанавіць, што за ўхіленне ад правядзення мер па ўмацаванню працоўнай дысцыпліны і непрыняцце мер супроць прагульшчыкаў, летуноў і разгільдзяяў у адпаведнасці з гэтай Пастановай і Пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Совета Народных Камісараў Саюза ССР ад 15-га лістапада 1932 года «Аб звальненні за прагул без уважлівых прычын» (Збор Законаў СССР 1932 года № 78, арт. 475)—кіраўнікі прадпрыемстваў, установ, цэхаў і аддзелаў прыцягваюцца вышэйстаячымі органамі да адказнасці аж да зняцця з работы і аддання суду.

3. Рабочыя і служачыя пры звальненні па ўласнаму жаданню абавязаны папярэджваць аб гэтым адміністрацыю прадпрыемстваў і ўстаноў за адзін месяц.

4. У выпадку звальнення рабочага ці служачага без дастатковай падставы аплата за вымушаны прагул робіцца ў размеры сярэдняй заработнай платы, але не больш, чым за 20 дзён, прычым адміністрацыя прадпрыемстваў і ўстаноў, фабзаўкомы, мясцкомы і расцэначна-канфліктныя камісіі абавязаны разглядаць скаргі на няправільнае звальненне на працягу 3 дзён з дня паступлення скаргі, а судовыя органы—на працягу 5 дзён.

5. Рабочым і служачым, якія з'яўляюцца членамі прафесіянальнага саюза, дапамога па часовай непрацаздольнасці (не лічачы дапамогі па цяжарнасці і родах) выплачваецца ў наступных размерах—у залежнасці ад стажу бесперапыннай работы ў даным прадпрыемстве ці ўстанове:

| | | |
|---|---|---|
| а) пры бесперапынным стажы работы ў адным і тым-жа прадпрыемстве ці ўстанове . . . . . . . . . | звыш 6 год | — 100% заработку |
| б) „ . . . . . . . . . | ад 3 да 6 год | — 80% „ |
| в) „ . . . . . . . . . | ад 2 да 3 год | — 60% „ |
| г) „ . . . . . . . . . | да 2 год | — 50% „ |

6. Падросткам да 18 год, якія з'яўляюцца членамі прафесіянальнага саюза, указаная ў артыкуле 5-м дапамога выплачваецца ў наступных размерах—у залежнасці ад стажу бесперапыннай работы ў даным прадпрыемстве ці ўстанове: пры бесперапынным стажы звыш 2 год—80 проц. заработку, а да 2 год—60 проц. заработку. Пры гэтым у стаж бесперапыннай работы ў даным прадпрыемстве залічваецца таксама і абучэнне ў школе фабрычна-заводскага вучнёўства.

7. Падземным работнікам вугальнай прамысловасці—членам прафесіянальнага саюза, працуючым па вуглездабычы ці на падрыхтоўчых работах у шахце, указаная ў арт. 5 дапамога выплачваецца ў наступных размерах—у залежнасці ад стажу бесперапыннай работы на данай шахце: пры бесперапынным стажы звыш 2 год—100 проц. заработку, а да 2 год—60 проц. заработку.

8. На заводах і фабрыках, уступіўшых у дзеянне пасля 1 студзеня 1933 года, рабочым і служачым—членам прафесіянальнага саюза, паступіўшым на гэтыя прадпрыемствы не пазней 1 студзеня 1936 года і працуючым там бесперапынна, дапамога па часовай непрацаздольнасці (не лічачы дапамогі па цяжарнасці і родах) выплачваецца ў наступных размерах—у залежнасці ад стажу бесперапыннай работы ў даным прадпрыемстве: пры бесперапынным стажы звыш 5 год—100 проц. заработку, ад 3 до 5 год—80 проц. заработку. На рабочых і служачых гэтых прадпрыемстваў з бесперапынным стажам работы менш трох год распаўсюджваецца парадак выдачы дапамогі па часовай непрацаздольнасці, устанаўліваемы артыкулам 5 гэтай Пастановы.

9. Рабочым і служачым, якія не з'яўляюцца членамі прафесіянальнага саюза, дапамога па часовай непрацаздольнасці (не лічачы дапамогі па цяжарнасці і родах) выплачваецца ў палавінным размеры ў параўнанні з нормамі, устаноўленымі для членаў саюза.

10. Пры назначэнні дапамогі па часовай непрацаздольнасці стаж лічыцца бесперапынным таксама і ў тым выпадку, калі рабочы ці служачы перайшоў з аднаго прадпрыемства або ўстановы ў другое на падставе распараджэння адміністрацыі гаспадарчага органа ці ўстановы.

11. Рабочыя і служачыя, зволеныя за парушэнне працоўнай дысцыпліны або за ўчыненне злачынства, а таксама ўшоўшыя па ўласнаму жаданню, маюць права на забеспячэнне дапамогай па часовай непрацаздольнасці пасля таго, як яны прапрацавалі не менш 6 месяцаў на новым месцы работы. Гэта правіла не пашыраецца на рабочых і служачых, зволеных або самавольна ўшоўшых з работы да апублікавання гэтай Пастановы.

12. На падставе арт. 31 Пастановы ЦВК і СНК СССР ад 17 кастрычніка 1937 года «Аб захаванні жыллёвага фонда і паляпшэнні жыллёвай гаспадаркі ў гарадах» (Збор Законаў СССР 1937 год № 69, арт. 314) устанаўліваецца, што рабочыя і служачыя, якім у сувязі з іх работай на даным прадпрыемстве прадастаўлена жылое памяшканне ў доме дзяржаўнага прадпрыемства, установы ці грамадскай арганізацыі (або ў арандаваным гэтымі прадпрыемствамі і ўстановамі доме), у выпадках уходу з прадпрыемства ці з установы, пасля апублікавання гэтай Пастановы, па ўласнаму жаданню, або звальнення за парушэнне працоўнай дысцыпліны, а таксама за ўчыненне зла-

чынства—падлягаюць абавязковаму высяленню ў дэкадны тэрмін у адміністрацыйным парадку без прадастаўлення жыллёвай плошчы.

13. Права на чарговы водпуск прадастаўляецца рабочым і служачым па сканчэнні 11 месяцаў бесперапыннай работы ў даным прадпрыемстве або ўстанове.

14. Звыш устаноўленага штогодняга водпуску работніцам і жанчынам служачым у выпадку цяжарнасці і родаў прадастаўляецца водпуск на 35 календарных дзён да родаў і на 28 календарных дзён пасля родаў з выдачай за гэты перыяд дапамогі за дзяржаўны кошт у раней устаноўленых размерах. Адзначаны водпуск прадастаўляецца і дапамога па цяжарнасці і родах выплачваецца тым, хто прапрацаваў бесперапынку ў даным прадпрыемстве (установе) не менш 7 месяцаў.

15. Пераважнае права на атрыманне пуцёвак у дамы адпачынку прадастаўляецца тым рабочым і служачым, якія прапрацавалі ў даным прадпрыемстве або ўстанове бесперапынна звыш 2 год.

16. Водпускі па часовай непрацаздольнасці (хвароба, цяжарнасць і роды і т. д.), незакончаныя к дню апублікавання гэтай Пастановы, на тэрмін, што застаецца, прадастаўляюцца і аплачваюцца па правілах, якія дзейнічалі к часу пачатку водпуску.

17. У адносінах рабочых і служачых, працуючых у прыватных наймальнікаў (хатнія работніцы, рабочыя і служачыя канцэсійных прадпрыемстваў) пытанні, прадугледжаныя гэтай Пастановай, рэгулююцца асобымі правіламі, выдаваемымі Усесаюзным Цэнтральным Саветам Прафесіянальных Саюзаў з зацвярджэння Савета Народных Камісараў Саюза ССР.

18. Для інвалідаў працы I і II групы (ад агульных захворванняў) устанаўліваюцца наступныя надбаўкі за стаж бесперапыннай работы ў адным прадпрыемстве або ўстанове перад зваротам за пенсіяй:

| КАТЭГОРЫІ | Бесперапынны стаж | Надбаўкі ў процантах да ўстаноўленай пенсіі |
|---|---|---|
| I катэгорыя—рабочыя і служачыя, занятыя на падземных і шкодных работах . . . . . . . . . | Ад 3-х да 5 год<br>ад 5 да 10 год<br>звыш 10 год | 10%<br>20%<br>25% |
| II катэгорыя—рабочыя і служачыя металургічнай, машынабудаўнічай, электратэхнічнай, вугальнай, горнарруднай, нафтавай, асноўнай хімічнай і гумовай прамысловасці, чыгуначнага і воднага транспарта і вытворчых прадпрыемстваў сувязі . . . . . . . | ад 4 да 8 год<br>ад 8 да 12 год<br>звыш 12 год | 10%<br>15%<br>20% |
| III катэгорыя — астатнія рабочыя і служачыя . . . . . . . . . . | ад 5 да 10 год<br>ад 10 да 15 год<br>звыш 15 год | 10%<br>15%<br>20% |

Пенсіянерам, маючым стаж бесперапыннай работы ў адным прадпрыемстве ці ўстанове звыш 5 год, перад зваротам за пенсіяй,

прадастаўляецца пераважнае права на атрыманне санаторна-курортных пуцёвак, выдзяляемых для пенсіянераў.

19. Пенсіі па інваліднасці рабочым і служачым назначаюцца пры наяўнасці наступнага стажу работы:

| Узрост | Стаж | | Занятыя на падземных і шкодных работах |
|---|---|---|---|
| | Мужчыны | Жанчыны | |
| Ад 20 да 22 год . . . . | 3 | 2 | 2 |
| „ 22 „ 25 „ . . . . | 4 | 3 | 3 |
| „ 25 „ 30 „ . . . . | 6 | 4 | 4 |
| „ 30 „ 35 „ . . . . | 8 | 5 | 5 |
| „ 35 „ 40 „ . . . . | 10 | 7 | 6 |
| „ 40 „ 45 „ . . . . | 12 | 9 | 7 |
| „ 45 „ 50 „ . . . . | 14 | 11 | 8 |
| „ 50 „ 55 „ . . . . | 16 | 13 | 10 |
| „ 55 „ 60 „ . . . . | 18 | 14 | 12 |
| Звыш 60 год . . . . | 20 | 15 | 14 |

У выпадках наступлення інваліднасці да дасягнення 20 год, а таксама ў выпадках інваліднасці ад працоўнага пакалечання ці прафесіянальнага захворвання, пенсіі назначаюцца незалежна ад працягласці стажу.

20. Пенсіянерам, якія прадаўжаюць працаваць пасля назначэння ім пенсіі па **старасці**, гэтыя пенсіі выплачваюцца незалежна ад заработку.

Не ўлічваецца таксама заработак да 100 руб. у месяц, атрымліваемы інвалідамі І і ІІ груп за работу на даму, прадастаўляемую арцелямі кааперацыі інвалідаў; у тых выпадках, калі заработак гэтых інвалідаў перавышае 100 руб. у месяц, пенсія адпаведна паніжаецца, але пры гэтым за інвалідам захоўваецца не менш 50 проц., пенсіі.

21. У сувязі з устанаўленнем надбавак за бесперапынны стаж і ільгот па ўліку заработкаў пенсіянераў (артыкулы 18 і 20 гэтай Пастановы)—адмяняюцца па ўсіх відах пенсій і па ўсіх групах інваліднасці надбаўкі і пераразлікі, устаноўленыя ў артыкулах 4, 6, 8, 13, 19 і 20 Пастановы Саюзнага Совета Сацыяльнага Страхавання ад 29 лютага 1932 г. № 47.

Раней налічаныя надбаўкі захоўваюцца ў ранейшых размерах.

22. Пенсіянеры, якія ўтойваюць ад органаў сацыяльнага забеспячэння свае заработкі ці іншыя даходы, якія падлягаюць уліку пры выплаце пенсіі, пазбаўляюцца пенсіі на 6 месяцаў.

23. У сувязі з тым, што пры агульным высокім узроўні пенсійнага забеспячэння ў Саюзе ССР ёсць пенсіянеры, якія перайшлі на пенсію многа год таму назад, калі нормы пенсіі і ўзровень заработнай платы былі значна ніжэй, чым у цяперашні час, устанавіць, што пенсіі па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, незалежна ад часу

їх назначэння, павінны быць не менш наступных размераў за месяц (уключаючы ўсе надбаўкі):

| Катэгоры пенсіянераў | Не маючыя непрацаздольных членаў сям'і | Маючыя аднаго непрацаздольнага члена сям'і | Маючыя двух і больш непрацаздольных членаў сям'і |
|---|---|---|---|
| Пенсіянеры, атрымліваючыя пенсію па старасці або за выслугу год і інваліды I групы . . . . . . . | 50 руб. | 60 руб. | 75 руб. |
| Інваліды II групы . . . . . . . . . | 40 руб. | 50 руб. | 60 руб. |
| Сем'і, страціўшыя кармільца . . . | — | 30 руб. | 40 руб. |

Для інвалідаў III групы пенсіі па дзяржаўнаму соцыяльнаму страхаванню павінны быць не менш 25 руб. у месяц.

24. Расходы па выплаце пенсій і дапамогі пенсіянерам, не працуючым у прадпрыемстве ці ўстанове і атрымліваючым пенсіі па дзяржаўнаму соцыяльнаму страхаванню, а таксама расходы па санаторна-курортнаму абслугоўванню гэтых пенсіянераў, павінны рабіцца органамі соцыяльнага забеспячэння за кошт сродкаў дзяржаўнага соцыяльнага страхавання.

25. Уся эканомія па сродках дзяржаўнага соцыяльнага страхавання, атрымліваемая ў сувязі з правядзеннем гэтай Пастановы, павінна быць накіравана прафесіянальнымі саюзамі на дадатковае будаўніцтва жылля для рабочых і служачых, ясляў і дзіцячых садоў— звыш сродкаў, адпускаемых Урадам на гэтыя мэты.

26. Гэта Пастанова ўводзіцца ў дзеянне з 1 студзеня 1939 года.

*Старшыня Совета Народных Камісараў Саюза ССР* ***В. МОЛАТАЎ.***

*Сакратар Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў)* ***І. СТАЛІН.***

*Сакратар Усесаюзнага Цэнтральнага Совета Прафесіянальных Саюзаў* ***Н. ШВЕРНІК.***

28 снежня 1938 г.

# РАСТЛУМАЧЭННЕ

**Совета Народных Камісараў Саюза ССР, Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў) і Усесаюзнага Цэнтральнага Совета Прафесіянальных Саюзаў.**

## АБ СПАГНАННЯХ ЗА СПАЗНЕННЕ НА РАБОТУ.

Пры выданні Пастановы ад 28 снежня 1938 года «Аб мерапрыемствах па ўпарадкаванню працоўнай дысцыпліны, паляпшэнню практыкі дзяржаўнага соцыяльнага страхавання і барацьбе са злоўжываннямі ў гэтай справе» СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС у пытанні аб спазненнях на работу выходзілі з існуючай практыкі і дзеючых у прадпрыемствах і ўстановах Правіл унутранага працоўнага распарадку, згодна якім спазненнем лічыцца яўка на работу не пазней, чым на працягу 10—15 мінут пасля пачатку работы, а прыход на работу пасля гэтага часу лічыцца прагулам.

У сувязі з пастулаючымі запытаннямі Совет Народных Камісараў Саюза ССР, Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў) і Усесаюзны Цэнтральны Совет Прафесіянальных Саюзаў растлумачваюць:

1. Спагнанні за спазненне на работу без уважлівых прычын, якія прадугледжаны артыкулам I Пастановы СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС ад 28 снежня 1938 года, павінны прымяняцца за спазненне, не перавышаючае 20 мінут пасля пачатку работы ў прадпрыемстве або ўстанове.

2. Рабочыя і служачыя, якія без уважлівых прычын з'явіліся на работу са спазненнем больш, чым на 20 мінут, да работы не дапускаюцца, лічацца прагульшчыкамі і падлягаюць неадкладнаму звальненню.

Пракурору Саюза ССР даны ўказанні аб няўхільным прыцягненні да судовай адказнасці кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў, цэхаў і аддзелаў, якія ўхіляюцца ад правядзення адпаведных мер і пакідаюць беспакаранымі парушальнікаў працоўнай дысцыпліны.

(ТАСС)

---

# Аб рэалізацыі Пастановы СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС „Аб мерапрыемствах па ўпарадкаванню працоўнай дысцыпліны, паляпшэнню практыкі дзяржаўнага соцыяльнага страхавання і барацьбе са злоўжываннямі ў гэтай справе“

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

З велізарным натхненнем і аднадушным адабрэннем сустрэлі працоўныя гістарычную Пастанову СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС, вынесеную ў адпаведнасці з патрабаваннямі працоўных мас, цалкам адпавядаючую інтарэсам совецкага народа.

Гэта гістарычная Пастанова з'яўляецца дакументам велізарнейшай палітычнай важнасці, накіраваным на завяяванне далейшых перамог соцыялізма як у галіне ўздыму соцыялістычнай вытворчасці, так і ў галіне росту добрабыту і культуры працоўных мас; абараняючы інтарэсы чэсных, добрасумленных рабочых, служачых і калгаснікаў, стварае ўсе ўмовы для яшчэ больш шырокага росквіту творчай ініцыятывы, вытворчай актыўнасці працоўных, разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху.

Гэта пастанова кладзе канец існаваўшай дробнабуржуазнай ураўнілаўцы ў аплаце водпускаў па хваробе, няправільнаму размеркаванню пуцёвак у дамы адпачынку і санаторыі, прадастаўленню кватэр, спыняе злоўжыванні ў скарыстанні водпускаў па цяжарнасці і т. д.

Яна патрабуе ад усіх партыйных, комсамольскіх, гаспадарчых, профсаюзных кіраўнікоў нястомнай барацьбы за стварэнне ўзорнага парадку на нашых прадпрыемствах і ва ўстановах, устанаўленне працоўнай дысцыпліны, поўнай загрузкі рабочага дня, лепшай арганізацыі вытворчасці і непрымірымай барацьбы з усякага роду парушэннямі.

На сталінскія клопаты аб чэсных тружаніках працоўныя БССР, як і ўсяго Совецкага Саюза, адказалі новым вытворчым уздымам, умацаваннем вытворчай дысцыпліны, большэвіцкай барацьбой за выкананне вытворчых планаў 1939 года.

Аднак работа паасобных прадпрыемстваў і ўстаноў у першай дэкадзе студзеня паказала, што прагулы, спазненні на работу і іншыя парушэнні вытворчай дысцыпліны ўсё яшчэ прадаўжаюць мець месца. У радзе выпадкаў допускаюцца ліберальныя адносіны да злосных зрыўшчыкаў вытворчай дысцыпліны, слаба разгорнута палітычная і масава-растлумачальная работа сярод рабочых і служачых.

Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Абавязаць сакратароў абкомаў, гаркомаў, райкомаў КП(б)Б разгарнуць палітыка-масавую работу сярод працоўных. Шырока растлумачыць Пастанову Соўнаркома СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС, давесці яе да сазнання кожнага рабочага і служачага.

2. Абавязаць сакратароў гаркомаў і райкомаў КП(б)Б да 15 студзеня правесці адкрытыя партыйныя сходы пярвічных партарганізацый, на якіх растлумачыць Пастанову СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС ад 28 снежня 1938 г., а таксама пастанову СНК СССР «Аб увядзенні Працоўных кніжак» і распрацаваць практычныя мерапрыемствы па іх рэалізацыі.

3. З 10 па 20 студзеня правесці нараду партыйнага, гаспадарчага і прафсаюзнага актыва з дакладамі сакратароў ГК і РК КП(б)Б аб рэалізацыі Пастановы Соўнаркома СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС, а таксама правесці нараду кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і прафсаюзных арганізацый па рэалізацыі Пастановы СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС.

4. Абавязаць кіраўнікоў прафесіянальных арганізацый у бліжэйшы час правесці сходы членаў прафсаюза, на якіх растлумачыць Пастанову Соўнаркома СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС, распрацаваць практычныя мерапрыемствы па рэалізацыі гэтага рашэння, разгарнуць выхаваўчую работу сярод рабочых і служачых у мэтах папярэджання парушэнняў працоўнай дысцыпліны.

5. Абавязаць кіраўнікоў партыйных, савецкіх і прафсаюзных арганізацый прадпрыемстваў і ўстаноў весці рашучую барацьбу з усімі парушальнікамі працоўнай дысцыпліны і правіл унутранага працоўнага распарадку, з прагульшчыкамі, лодырамі, рвачамі, з усімі, хто нячэсна адносіцца да сваіх працоўных абавязкаў.

6. Прапанаваць абкомам, гаркомам і райкомам КП(б)Б забяспечыць сістэматычную праверку выканання Пастановы СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС «Аб мерапрыемствах па ўпарадкаванню працоўнай дысцыпліны, паляпшэнню практыкі дзяржаўнага соцыяльнага страхавання і барацьбе са злоўжываннямі ў гэтай справе» і рашэнне СНК СССР «Аб увядзенні Працоўных кніжак», шырока прыцягваць для гэтай мэты рабочы кантроль нізавых прафарганізацый.

Партыйныя арганізацыі павінны дабіцца таго, каб кожны камуніст асабіста паказваў узоры высокай працоўнай дысцыпліны і быў-бы сапраўдным арганізатарам мас у барацьбе за ўстанаўленне бальшэвіцкага парадку на прадпрыемствах і ва ўстановах.

7. Абавязаць рэдактароў рэспубліканскіх, гарадскіх і раённых газет на старонках друку шырока растлумачваць і асвятляць ход рэалізацыі Пастановы СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС «Аб мерапрыемствах па ўпарадкаванню працоўнай дысцыпліны, паляпшэнню практыкі дзяржаўнага соцыяльнага страхавання і барацьбе са зло-

ўжываннямі ў гэтай справе», а таксама рашэння СНК СССР «Аб увядзенні Працоўных кніжак».

ЦК КП(б)Б заклікае ўсіх рабочых і служачых, усіх партыйных і непартыйных большэвікоў па-баявому ўзяцца за навядзенне большэвіцкага парадку на прадпрыемствах і ва ўстановах БССР. На аснове Пастановы СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС яшчэ шырэй разгарнуць стаханаўскі рух, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, забяспечыць поўнае выкананне ўсіх вытворчых планаў 1939 года.

*Сакратар ЦК КП(б)Б П. ПАНАМАРЭНКА.*



Уп. Галоўлітбела № Ш. 65
Тыраж 6.600 экз.
295.680 друк. зн. ($5^1/_2$ арк.)
Здана ў набор 10/I—39 г.
Падпісана да друку 2/II—39 г.

РЭДКАЛЕГІЯ.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку. Зак. № 39.

ЦАНА 40 кап.

